*БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАЕ ТАВАРЫСТВА*
*Галоўнае праўленне ў Беластоку*

# Беларускі каляндар 1999



**Мінск**
**«Беларусь»**
**1998**

УДК 008(=828) (=438) (059)
ББК 70 (4Бен) + 70 (4П)
Б 43

Выдадзена па заказу
Беларускага грамадска-культурнага таварыства
Галоўнага праўлення ў Беластоку

Складальнік Уладзімір Юзвюк

**Беларускі** каляндар 1999/Склад. У. Юзвюк. — Мн.:
Б 43 Беларусь, 1998. — 192 с.: іл.

ISBN 985-01-0176-8.

Штогадовае выданне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

«Беларускі каляндар» на 1999 год змяшчае даты імянін і святаў для католікаў і праваслаўных, асноўныя астранамічныя і гістарычныя звесткі. У гэтым гадавіку пашыраны летапіс дзейнасці БГКТ, расказваецца аб мінуўшчыне і сучаснасці беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне. Змешчаны літаратурныя творы мясцовых пісьменнікаў і вучняў Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску Падляшскім.

Для тых, хто цікавіцца жыццём беларусаў у замежжы.

**УДК 008(=828) (=438) (059)**
**ББК 70 (4Бен) + 70 (4П)**

**ISBN 985-01-0176-8**



# ЗДАРОЎЯ, ШЧАСЦЯ, ДАБРА

ў

новым **1999** годзе

жадаюць

ГП БГКТ

і

выдавецтва

«БЕЛАРУСЬ»

*Віктар Швед*

## ЧАМУ НЕ МОЖАМ ЖЫЦЬ У ЗГОДЗЕ?

*Дзеячам беларускіх*
*арганізацый у Польшчы*

Чаму няма дабра ў народзе,
Чаму ваюем між сабой?
Чаму не можам жыць у згодзе,
Займаемся ўсё калатнёй?

Чаму чым больш адукаваны,
Чым разумнейшы ад другіх,
Тым больш становіцца паганым,
Мацней аплёўвае сваіх?

Замест займацца роднай справай
І аб'ядноўваць наш народ,
Мы чынім тут над ім расправу.
І штораз меней нас штогод.

Мы трацім да сябе пашану,
Не хочам гэтага прызнаць,
Што нас, разбітых, апляваных,
Лягчэй тут асіміляваць.



# КАЛЯНДАРЫУМ, ГІСТАРЫЧНЫЯ І ІНШЫЯ ЗВЕСТКІ

(Апрацаваў Уладзімір ЮЗВЮК)

## Скарочаны каляндар на 1999 год

| | СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК |
|---|---|---|---|
| П | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 |
| А | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 |
| С | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 |
| Ч | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 |
| П | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 |
| С | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 |
| Н | **3 10 17 24 31** | **7 14 21 28** | **7 14 21 28** |
| | **КРАСАВІК** | **МАЙ** | **ЧЭРВЕНЬ** |
| П | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| А | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| С | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| Ч | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| П | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| С | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| Н | **4 11 18 25** | **2 9 16 23 30** | **6 13 20 27** |
| | **ЛІПЕНЬ** | **ЖНІВЕНЬ** | **ВЕРАСЕНЬ** |
| П | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| А | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| С | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| Ч | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| П | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| С | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| Н | **4 11 18 25** | **1 8 15 22 29** | **5 12 19 26** |
| | **КАСТРЫЧНІК** | **ЛІСТАПАД** | **СНЕЖАНЬ** |
| П | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 |
| А | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 |
| С | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 |
| Ч | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 |
| П | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 |
| С | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 |
| Н | **3 10 17 24 31** | **7 14 21 28** | **5 12 19 26** |

 



## СТУДЗЕНЬ

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 19 | П | **Новы год** | **Цімафея** | 7.45 | 15.34 |
| 2 | 20 | С | Макара | Ігната | 7.45 | 15.35 |
| 3 | 21 | **Н** | Генавефы, Дануты | Ульяны, Пятра | 7.45 | 15.36 |
| 4 | 22 | П | Яўгенія, Рыгора | Анастасіі | 7.45 | 15.38 |
| 5 | 23 | А | Эдуарда, Эміл'яна | Паўла | 7.44 | 15.39 |
| 6 | 24 | С | **Трох Каралёў** | **Куцця,** Жэні | 7.44 | 15.40 |
| 7 | 25 | Ч | Люцыяна | **Каляды** | 7.43 | 15.41 |
| 8 | 26 | П | Севярына | **Др. Дз. Каляд** | 7.43 | 15.43 |
| 9 | 27 | С | Юльяна, Марцыяны | Сцяпана | 7.42 | 15.44 |
| 10 | 28 | **Н** | Яна, Вільгельма | Агаты | 7.42 | 15.46 |
| 11 | 29 | П | Ганараты, Фелікса | Марка | 7.41 | 15.47 |
| 12 | 30 | А | Бенядзікта, Аркадзія | Фядоры, Аніссі | 7.40 | 15.49 |
| 13 | 31 | С | Веранікі, Багуміла | Маланні | 7.40 | 15.50 |
| 14 | 1 | Ч | Фелікса | **Новы год** | 7.39 | 15.52 |
| 15 | 2 | П | Паўла, Макара | Сяргея, Серафіма | 7.38 | 15.53 |
| 16 | 3 | С | Маркела | Малахіі | 7.37 | 15.55 |
| 17 | 4 | **Н** | Антона | Антона, Сцяпана | 7.36 | 15.56 |
| 18 | 5 | П | Малгажаты, Пятра | Апалінара | 7.35 | 15.58 |
| 19 | 6 | А | Генрыка, Марты | **Вадохрышча** | 7.34 | 16.00 |
| 20 | 7 | С | Фабіяна | Апанаса | 7.33 | 16.01 |
| 21 | 8 | Ч | Агнешкі, Яраслава | Юрыя, Юльяна | 7.32 | 16.03 |
| 22 | 9 | П | Вінцэнта | Піліпа | 7.31 | 16.05 |
| 23 | 10 | С | Раймунда, Марыі | Рыгора | 7.30 | 16.07 |
| 24 | 11 | **Н** | Фяліцыі, Рафала | Міхаіла | 7.28 | 16.08 |
| 25 | 12 | П | Паўла, Мілаша | Таццяны | 7.27 | 16.10 |
| 26 | 13 | А | Палікарпа | Якуба | 7.26 | 16.12 |
| 27 | 14 | С | Яна, Пшыбыслава | Ніны | 7.24 | 16.14 |
| 28 | 15 | Ч | Аўгусціна | Паўла | 7.23 | 16.16 |
| 29 | 16 | П | Францішка | Леанілы | 7.21 | 16.17 |
| 30 | 17 | С | Марціна, Мацея | Антона | 7.20 | 16.19 |
| 31 | 18 | **Н** | Яна, Марцэліны | Максіма | 7.18 | 16.21 |

1.01.1919 — утварэнне БССР. 1.01.1929 — утварэнне АН Беларусі. 17.01.1945 — вызваленне Варшавы. 18.01.1882 — першая ў Беластоку забастоўка тэкстыльшчыкаў. 20.01.1892 — нар. Б. Тарашкевіч і Р. Шырма. 22.01.1863 — пачатак Студзеньскага паўстання. 11.01.1899 — нар. К. Буйло. 25.01.1949 — утварэнне СЭУ.



## 80-ыя ЎГОДКІ БССР

Спаўняецца васьмідзесятая гадавіна ўтварэння БССР. 1 студзеня 1919 года, услед за рашэннямі I з'езда КП(б) Беларусі, быў апублікаваны Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі (старшыня З. Жылуновіч) аб абвяшчэнні незалежнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. У яе межы ўвайшлі: Віцебская, Мінская, Магілёўская, Смаленская і Гродзенская губерні. Беларускі народ у гады першай сусветнай вайны свядома дамагаўся сваёй дзяржаўнасці, але доўга не атрымліваў прызнання акупацыйных уладаў. Усё канчалася дэкларацыямі і бязлітасным знішчэннем рэвалюцыйных сілаў.

У сакавіку таго ж года была ўтворана для ўзмацнення абароны Літоўска-Беларуская Савецкая Рэспубліка, але ліквідавана агрэсарамі. У выніку вызвалення Беларусі Чырвонай Арміяй 1 жніўня 1920 года БССР была абвешчана другі раз. У 1921 годзе, паводле Рыжскага мірнага дагавора, заходнія раёны Беларусі (каля 100 тысяч кв. кіламетраў і 4 мільёны насельніцтва) адышлі да Польшчы.

Урэшце 30 снежня 1922 года РСФСР, УССР, БССР і ЗСФСР утварылі СССР. У міжчассе тэрыторыя БССР некалькі разоў узбуйнялася ў раёне Віцебскай і Гомельскай губерняў, а 17 верасня 1939 года наступіла ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

19 верасня 1991 года рашэннем Вярхоўнага Савета БССР была перайменавана ў Рэспубліку Беларусь.

На звышсямідзесяцігадовы перыяд існавання БССР выпалі не толькі бяспрыкладныя ў свеце знішчэнні гаспадаркі, культуры, насельніцтва (асабліва ў гады першай і другой сусветных войнаў), але таксама хуткае развіццё прамысловасці, асветы і ўмацаванне своеасаблівай нацыянальнай свядомасці.

 



## ЛЮТЫ

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 19 | П | Ігната, Брыгіды | Макара, Арсеня | 7.17 | 16.23 |
| 2 | 20 | А | **Грамніцы** | Яўхіма | 7.15 | 16.25 |
| 3 | 21 | С | Блажэя, Гіпаліта | Максіма, Яўгена | 7.14 | 16.27 |
| 4 | 22 | Ч | Андрэя | Цімафея | 7.12 | 16.29 |
| 5 | 23 | П | Агаты | Клімента, Генадзя | 7.10 | 16.30 |
| 6 | 24 | С | Дароты, Багдана | Ксеніі | 7.09 | 16.32 |
| 7 | 25 | **Н** | Рамуальда, Рышарда | Рыгора, Віталія | 7.07 | 16.34 |
| 8 | 26 | П | Яна, Пятра | Язэпа, Марыі | 7.05 | 16.36 |
| 9 | 27 | А | Апалоніі, Цырыля Злат. | Дзмітра, Іаана | 7.03 | 16.38 |
| 10 | 28 | С | Схаластыкі, Яцка | Яфрэма, Аркадзя | 7.01 | 16.40 |
| 11 | 29 | Ч | Марыі, Лазара | Рамана, Якуба | 7.00 | 16.42 |
| 12 | 30 | П | Мадэста, Юльяна | Васіля | 6.58 | 16.44 |
| 13 | 31 | С | Рыгора, Кацярыны | Мікіты | 6.56 | 16.46 |
| 14 | 1 | **Н** | Валянціна, Цырыля | Трыфана | 6.54 | 16.47 |
| 15 | 2 | П | Юзафа, Фаўстына | **Грамніцы** | 6.52 | 16.49 |
| 16 | 3 | А | Папелец, Юльяны | Сямёна, Ганны | 6.50 | 16.51 |
| 17 | 4 | С | Юльяна, Лукаша | Кірылы | 6.48 | 16.53 |
| 18 | 5 | Ч | Канстанцыі, Сімеона | Агаты | 6.46 | 16.55 |
| 19 | 6 | П | Кандрата | Хрысціны | 6.44 | 16.57 |
| 20 | 7 | С | Лявона, Людмілы | Лукі | 6.42 | 16.59 |
| 21 | 8 | **Н** | Элеаноры, Фелікса | Тодара | 6.40 | 17.00 |
| 22 | 9 | П | Пятра, Малгажаты | Нікіфара, Генадзя | 6.38 | 17.02 |
| 23 | 10 | А | Марты, Рамана | Валянціны | 6.35 | 17.04 |
| 24 | 11 | С | Мацея, Богуша | Уласа, Усевалада | 6.33 | 17.06 |
| 25 | 12 | Ч | Віктара, Цэзара | Аляксея | 6.31 | 17.08 |
| 26 | 13 | П | Аляксандра, Міраслава | Зоі, Святланы | 6.29 | 17.10 |
| 27 | 14 | С | Габрыеля | Кірылы, Канстанціна | 6.27 | 17.12 |
| 28 | 15 | **Н** | Рамана | Ефрасінні | 6.25 | 17.13 |

2.02.1943 — перамога пад Сталінградам. 2.02.1946 — падполлем НЗВ спалены вёскі Шпакі, Зані і Малешы на Беласточчыне. 12.02.1839 — уз'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай. 19.02.1473 — нар. М. Капернік. 12.02.1809 — нар. Ч. Дарвін. 22.02.1810 — нар. Ф. Шапэн. 26.02.1956 — першы з'езд БГКТ.



## З ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА 1989 ГОДА

*У Беларусі* пражывала тады 10 151 тыс. жыхароў, у тым ліку беларусы складалі 77,9 %, рускія — 13,2 %, палякі — 4,1 %, украінцы — 2,9 %, яўрэі — 1,1 % і іншыя нацыянальнасці — 0,8 %.

*У Літве* пражывала 3 673 тыс. жыхароў, у тым ліку: літоўцы — 79,6 %, рускія — 9,4 %, палякі — 7,0 %, беларусы — 1,7 %, украінцы — 1,2 %, яўрэі — 0,3 %, латышы, цыганы і татары — па 0,1 %, іншыя — 0,5 %.

*У Латвіі* пражывала 2 680 тыс. жыхароў, у тым ліку: латышы — 52,0 %, рускія — 34,0 %, беларусы — 4,2 %, украінцы — 3,5 %, палякі — 2,3 % і літоўцы — 1,3 %, іншыя нацыянальнасці — 2,7 %.

*На Украіне* пражывала 51 400 тыс. жыхароў, у тым ліку: украінцы — 72,7 %, рускія — 22,1 %, яўрэі — 0,9 %, беларусы — 0,8 %, балгары, венгры, палякі і румыны — па 0,4 %, іншыя нацыянальнасці — 1,9 %.



Прарэджванне садовых дрэў.
*Фотаархіў БГКТ.*

Чарговы перапіс насельніцтва, які павінен праводзіцца ў 1999-ым або ў 2000 годзе, прынясе, відаць, вялікія змены. (У Польшчы нацыянальны склад насельніцтва з 1947 года не падаецца.)

2. Зак. 5488.



## САКАВІК

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 16 | П | Альбіна, Антона | Фёдара, Марыяны | 6.23 | 17.15 |
| 2 | 17 | А | Гелены, Паўла | Льва, Уласа | 6.20 | 17.17 |
| 3 | 18 | С | Кунягунды, Мартыны | Архіпа, Яўгенія | 6.18 | 17.19 |
| 4 | 19 | Ч | Казіміра, Люцыі | Карнілы | 6.16 | 17.21 |
| 5 | 20 | П | Вацлава, Еўзебія | Рыгора, Цімафея | 6.14 | 17.22 |
| 6 | 21 | С | Віктара, Ружы | Яўгеніі, Маўрыкія | 6.11 | 17.24 |
| 7 | 22 | **Н** | Тамаша, Мілагосты | Антонія | 6.09 | 17.26 |
| 8 | 23 | П | Беаты | **Дзень жанчын** | 6.07 | 17.28 |
| 9 | 24 | А | Францішкі, Кацярыны | Тараса | 6.05 | 17.30 |
| 10 | 25 | С | Цупрыяна, Бажыслава | Парфіра, Севасцьяна | 6.02 | 17.31 |
| 11 | 26 | Ч | Бенядзікта, Канстанціна | Пракопа | 6.00 | 17.33 |
| 12 | 27 | П | Бярнарда, Рыгора | Васілія, Кіры, Марыны | 5.58 | 17.35 |
| 13 | 28 | С | Бажэны, Хрысціны | Касіяна | 5.55 | 17.37 |
| 14 | 1 | **Н** | Лявона, Матыльды | Еўдакіі, Антаніны | 5.53 | 17.38 |
| 15 | 2 | П | Клеменса, Лонгіна | Фядота, Агафона | 5.51 | 17.40 |
| 16 | 3 | А | Гіляра, Ізабелы | Яўтропія, Кляоніка | 5.48 | 17.42 |
| 17 | 4 | С | Гертруды, Збігнева | Паўла, Якава, Юльяны | 5.46 | 17.44 |
| 18 | 5 | Ч | Эдварда, Цырыля | Адрыяна, Леаніда | 5.44 | 17.45 |
| 19 | 6 | П | Юзафа, Багдана | Аркадзія | 5.41 | 17.47 |
| 20 | 7 | С | Аляксандра, Вінцэнта | Васілія | 5.39 | 17.49 |
| 21 | 8 | **Н** | Бенядзікта, Любаміра | Феафілакта | 5.37 | 17.51 |
| 22 | 9 | П | Кацярыны, Багуслава | **40 мучанікаў** | 5.34 | 17.52 |
| 23 | 10 | А | Пелагеі, Фелікса | Міхаіла, Таісы | 5.32 | 17.54 |
| 24 | 11 | С | Марка, Габрыеля | Сафона, Георгія | 5.30 | 17.56 |
| 25 | 12 | Ч | **Благавешчанне** | Феафана, Шымана | 5.27 | 17.58 |
| 26 | 13 | П | Тодара | Марыі, Нічыпара | 5.25 | 17.59 |
| 27 | 14 | С | Яна, Лідзіі, Эрнеста | Расціслава | 5.23 | 18.01 |
| 28 | 15 | **Н** | **Вербніца** | Аляксандра | 5.20 | 18.03 |
| 29 | 16 | П | Яўстафія, Бертальда | Юльяны, Музы | 5.18 | 18.05 |
| 30 | 17 | А | Анелі | Аляксея | 5.16 | 18.06 |
| 31 | 18 | С | Бальбіны | Кірылы | 5.13 | 18.08 |

**4.03.1956 — выйшаў першы нумар «Нівы». 5.03.1569 — першае далучэнне часткі Падляшша да Польшчы. 5.03.1896 — нар. бел. пісьменнік К. Крапіва. 12.03.1966 — адкрыццё Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. 25.03.1918 — абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. 18.03.1921 — падпісанне Рыжскага дагавора.**



## ДАЛУЧЭННЕ ПАДЛЯШША ДА ПОЛЬШЧЫ

Спаўняецца 430-ая гадавіна першага далучэння Падляшша да Польшчы ў 1569 годзе, на 225 гадоў.

У канцы лютага ўпамянутага года дэлегаты ВКЛ, якія ўдзельнічалі ў перагаворах на тэму Люблінскай уніі, даведаліся, што польскі кароль Жыгімонт Аўгуст чарговы раз здрадзіў інтарэсам княства і «загадаў Літве прыйсці і сесці ў пасяджэнне» Сойма для падпісання уніі. 1 сакавіка, ноччу, яны ўцяклі з Любліна. Абураны гэтым фактам, кароль, пры падтрымцы каталіцкага духавенства, 5 сакавіка 1569 года выдаў акт інкарпарацыі (далучэння) да Польшчы паўднёвага Падляшша, а пасля — і часткі ўкраінскіх зямель.

На Падляшшы граніца размежавала Белавежскую пушчу з паўднёвага яе ўсходу ў напрамку мястэчка Нарва і адтуль, па мяжы ўладанняў магнатаў Хадкевічаў, — на поўнач ад вёсак Трысцянка, Білкі, Сацы, Стрыльцы, Паўлы, Рыбалы, Войшкі і Трычоўка, а далей — на поўнач у напрамку сучаснага Беластока і ракі Бобр (Бебжа). Усяго годам раней кароль абяцаў захаваць Падляшша ў складзе ВКЛ «яко тубыльцаў і родічы здешнего панства», іх старыя законы і звычаі.

Аслабленае Лівонскай вайной ВКЛ супрацьпаставіцца інкарпарацыі не змагло, не паслухаў кароль таксама просьбаў Р. Хадкевіча, а падляшскія феадалы, пад пагрозамі канфіскацыі маёмасці, склалі прысягу на вернасць Польшчы. Таму падпісанне Люблінскай уніі паўднёвае Падляшша сустрэла ў межах Польшчы як яе складаемая частка. У наступных 1570 і 1575 гадах былі праведзены люстрацыі каралеўшчын мнагалюднага Падляшша, з якога паплылі ў каралеўскую казну высокія разнародныя падаткі. Відаць, яны былі асноўнай прычынай наглага далучэння тэрыторыі да Кароны. Грабеж насельніцтва ў каралеўскіх вёсках рэвізорамі і войтамі, эксплуатацыя прыгонных сялян шляхтай выклікалі многагадовыя антыфеадальныя хваляванні сялян у раёне Суража, Беразова, Мілейчыц і іншых мясцовасцей.

Падляшша стала абшарам грамадскіх неспакояў. І ўсё ж захавала свой усходнеславянскі этнас.



# КРАСАВІК

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 19 | Ч | Гражыны, Тодара | Дар'і, Клаўдзія | 5.11 | 18.10 |
| 2 | 20 | П | Францішка, Уладзіслава | Святланы, Гелены | 5.09 | 18.11 |
| 3 | 21 | С | Рышарда | Фамы, Якуба | 5.06 | 18.13 |
| 4 | 22 | **Н** | **Вялікдзень** | **Вербніца** | 5.04 | 18.15 |
| 5 | 23 | П | **Вялікдзень** | Нікана, Лідзіі | 5.02 | 18.17 |
| 6 | 24 | А | Цэлясціна | Захара, Арсенія | 5.00 | 18.18 |
| 7 | 25 | С | Даната, Руфіна | **Благавешчанне** | 4.57 | 18.20 |
| 8 | 26 | Ч | Дзяніза, Радаслава | Алы, Ларысы, Ірынея | 4.55 | 18.22 |
| 9 | 27 | П | Марыі, Дабраславы | Матроны, Мануіла | 4.53 | 18.24 |
| 10 | 28 | С | Міхала, Макара | Сцяпана | 4.50 | 18.25 |
| 11 | 29 | **Н** | Піліпа | **Вялікдзень** | 4.48 | 18.27 |
| 12 | 30 | П | Юльяна, Віктара | **Вялікдзень** | 4.46 | 18.29 |
| 13 | 31 | А | Пшэмыслава | Веньяміна | 4.44 | 18.30 |
| 14 | 1 | С | Юстыны, Валяр'яна | Марыі, Яўхіма | 4.41 | 18.32 |
| 15 | 2 | Ч | Анастасіі, Вацлава | Ціта, Палікарпа | 4.39 | 18.34 |
| 16 | 3 | П | Бенядзікта, Урбана | Мікіты, Паўла | 4.37 | 18.36 |
| 17 | 4 | С | Рудольфа, Роберта | Іосіфа, Георгія | 4.35 | 18.37 |
| 18 | 5 | **Н** | Аполінія, Аліцыі | Хвядоры, Платона | 4.33 | 18.39 |
| 19 | 6 | П | Леанарда, Уладзіміра | Мяфодзія, Платаніды | 4.31 | 18.41 |
| 20 | 7 | А | Агнешкі, Часлава | Рыгора | 4.28 | 18.43 |
| 21 | 8 | С | Анзельма, Фелікса | Іradзіёна | 4.26 | 18.44 |
| 22 | 9 | Ч | Лявона, Лукаша | Вадзіма | 4.24 | 18.46 |
| 23 | 10 | П | Юрыя, Войцеха | Марыі, Іаанны | 4.22 | 18.48 |
| 24 | 11 | С | Фідэліса, Рыгора | Анціпа | 4.20 | 18.49 |
| 25 | 12 | **Н** | Марка, Ярослава | Васілія, Афанасіі | 4.18 | 18.51 |
| 26 | 13 | П | Мажэны, Марцэліны | Артамона, Крыскента | 4.16 | 18.53 |
| 27 | 14 | А | Зыты, Тэафіля | Марціна | 4.14 | 18.55 |
| 28 | 15 | С | Паўла, Валерыі | Трафіма, Анастасіі | 4.12 | 18.56 |
| 29 | 16 | Ч | Пятра, Роберта | Агапіі, Ірыны, Нікі | 4.10 | 18.58 |
| 30 | 17 | П | Мар'яна, Кацярыны | Сымона | 4.08 | 19.00 |

2.04.1805 — нар. аўтар казак Х. Андэрсен. 7.04.1957 — выйшаў першы нумар «Зоркі» — дадатак «Нівы» для дзяцей. 12.04.1961 — касмічны палёт Ю. Гагарына. 22.04.1870 — нар. У. Ленін. 23.04.1886 — нар. З. Бядуля.





Буслы прыляцелі. *Фотаархіў БГКТ.*

Буслы ўжо страцілі папярэднія месцы гнездаванняў на гаспадарчых пабудовах таму, што саламяныя стрэхі заменены чарапіцай або бляхай. Гнёзды будуюць на старых прыдарожных вербах, ліпах і тэлефонных слупах. Пералік буслоў 1996 года пацвердзіў, што найбольшы іх лік знаходзіцца на землях паўночна-ўсходняй Польшчы. Мы таксама налічылі, што на 25-кіламетровым адрэзку, уздоўж шашы Беласток—Козлікі, ёсць дзесяць дзейных гнёздаў.



# МАЙ

| Стыль: Новы | Стыль: Стары | Дні | Святы і імяніны: Каталіцкія | Святы і імяніны: Праваслаўныя | Сонца: усх. | Сонца: зах. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 18 | С | **Свята Працы** | **Свята Працы** | 4.06 | 19.01 |
| 2 | 19 | Н | Анатоля, Зыгмунта | Антонія | 4.04 | 19.03 |
| 3 | 20 | П | **Канстытуцыя 3 Мая** | Анастасіі, Гаўрылы | 4.02 | 19.05 |
| 4 | 21 | А | Монікі, Фларыяна | **Прапалавенне** | 4.00 | 19.06 |
| 5 | 22 | С | Ірэны, Вальдэмара | Віталія, Клімента | 3.58 | 19.08 |
| 6 | 23 | Ч | Яна, Юдзіты | **Юрыя Пабеданосца** | 3.56 | 19.10 |
| 7 | 24 | П | Людмілы, Гізэлі | Савы, Валянціна | 3.55 | 19.11 |
| 8 | 25 | С | Станіслава | Марка, Сільвестра | 3.53 | 19.13 |
| 9 | 26 | Н | Гізэлі | **Дзень Перамогі** | 3.51 | 19.15 |
| 10 | 27 | П | Ізідара, Антаніны | Сымона, Сцяпана | 3.49 | 19.16 |
| 11 | 28 | А | Францішкі, Мамерта | Віталія, Кірылы Тураўск. | 3.48 | 19.18 |
| 12 | 29 | С | Панкраца | Мемнона | 3.46 | 19.19 |
| 13 | 30 | Ч | **Ушэсце** | Якуба | 3.44 | 19.21 |
| 14 | 1 | П | Дабеслава, Баніфацыя | Тамары | 3.43 | 19.23 |
| 15 | 2 | С | Софʼі, Яна | Барыса, Глеба | 3.41 | 19.24 |
| 16 | 3 | Н | Андрэя, Венчыслава | Цімафея, Феадосія | 3.40 | 19.26 |
| 17 | 4 | П | Веранікі, Славаміра | Пелагеі, Селівона | 3.38 | 19.27 |
| 18 | 5 | А | Фелікса | Ірыны, Адрыяна | 3.37 | 19.29 |
| 19 | 6 | С | Мікалая | Дзяніса, Іова | 3.35 | 19.30 |
| 20 | 7 | Ч | Базыля, Бернардзіна | **Ушэсце** | 3.34 | 19.32 |
| 21 | 8 | П | Тымафэуша, Даната | Яна, Арсенія, Пімена | 3.33 | 19.33 |
| 22 | 9 | С | Галены, Юліі | **Мікалая** | 3.31 | 19.35 |
| 23 | 10 | Н | **Зялёныя святкі** | Сымона, Таісы | 3.30 | 19.36 |
| 24 | 11 | П | Іаанны, Зузанны | Кірылы, Мяфодзія | 3.29 | 19.37 |
| 25 | 12 | А | Урбана, Рыгора | Германа, Ермагена | 3.28 | 19.39 |
| 26 | 13 | С | **Дзень Маці**, Філіпа | **Дзень Маці** | 3.26 | 19.40 |
| 27 | 14 | Ч | Яна, Юлія | Кідара, Мікіты | 3.25 | 19.41 |
| 28 | 15 | П | Аўгусціна, Яраміра | Пахома, Ісая | 3.24 | 19.43 |
| 29 | 16 | С | **Магдалены** | Фёдара | 3.23 | 19.44 |
| 30 | 17 | Н | Фелікса, Фердынанда | **Тройца** | 3.22 | 19.45 |
| 31 | 18 | П | Анелі, Петранелі | **Святалухаў дзень** | 3.21 | 19.46 |

1.05.1899 — устанаўленне Міжнароднага Свята Працы. 2.05.1799 — нар. А. Бальзак. 5.05.1818 — нар. К. Маркс. 8.05.1945 — капітуляцыя гітлераўскай Германіі. 9.05.1945 — Дзень Перамогі. 17.05.1845 — нар. бел. этнограф М. Нікіфароўскі. 28.05.1881 — нар. І. Луцкевіч.



## ВЫТРЫМКІ З КАНСТЫТУЦЫІ РЭЧЫПАСПАЛІТАЙ ПОЛЬШЧЫ. 1997

Арт. 35.

1. Рэчпаспалітая Польшча гарантуе польскім грамадзянам, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей, свабоду захавання і развіцця ўласнай мовы, звычаяў і традыцый, а таксама развіцця ўласнай культуры.

2. Нацыянальныя і этнічныя меншасці маюць права стварэння ўласных адукацыйных, культурных установаў і арганізацый, якія служаць ахове веравызнаўчай тоеснасці, а таксама ўдзелу ў вырашэнні пытанняў, якія датычаць іх культурнай тоеснасці.

Арт. 53.

6. Ніхто не можа прымушаць да ўдзелу або да няўдзелу ў веравызнаўчых практыках.



Свята беларускай культуры-98. Дастойныя госці з Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей са старшынёю Яцкам Куранем (другі злева). *Фота С. Грынявіцкага.*



## ЧЭРВЕНЬ

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 19 | А | **Дзень дзіцяці** | **Дзень дзіцяці** | 3.21 | 19.47 |
| 2 | 20 | С | Марыі, Эразма | Аляксея, Аляксандра | 3.20 | 19.49 |
| 3 | 21 | Ч | Лешка, Клацільды | Канстанціна, Алены | 3.19 | 19.50 |
| 4 | 22 | П | Кароля, Францішка | Васілісы | 3.18 | 19.51 |
| 5 | 23 | С | Валерыі, Баніфаца | Ігара | 3.17 | 19.52 |
| 6 | 24 | **Н** | Паўліны, Норберта | Мялеція, Сцяпана | 3.17 | 19.53 |
| 7 | 25 | П | Роберта, Вяслава | Ферапонта | 3.16 | 19.54 |
| 8 | 26 | А | Медарда, Максіма | Аверкія, Гелены | 3.16 | 19.54 |
| 9 | 27 | С | Пелагеі | Ніла | 3.15 | 19.55 |
| 10 | 28 | Ч | Багуміла, Малгажаты | Ігната, Мікіты | 3.15 | 19.56 |
| 11 | 29 | П | Фелікса, Барнабы | Фядоссі | 3.15 | 19.57 |
| 12 | 30 | С | Яна, Ануфрыя | Ісака, Якава | 3.14 | 19.57 |
| 13 | 31 | **Н** | Люцыяна, Антона | Ермія | 3.14 | 19.58 |
| 14 | 1 | П | Базыля, Валерыя | Усцінні, Валяр'яна | 3.14 | 19.59 |
| 15 | 2 | А | Віта, Іаланты | Нічыпара | 3.14 | 19.59 |
| 16 | 3 | С | Аліны, Юстыны | Паўла, Лук'яна | 3.13 | 20.00 |
| 17 | 4 | Ч | Лауры, Адольфа | Марфы, Марыі | 3.13 | 20.00 |
| 18 | 5 | П | Марка, Альжбеты | Дарафея, Маркіяна | 3.13 | 20.01 |
| 19 | 6 | С | Гервасія, Пратаса | Тэклі | 3.14 | 20.01 |
| 20 | 7 | **Н** | Богны, Фларанціны | Валерыі | 3.14 | 20.01 |
| 21 | 8 | П | Аліцыі, Алёйза | Фёдара, Яфрэма | 3.14 | 20.01 |
| 22 | 9 | А | Паўліна, Флавія | Кірылы, Аляксандра | 3.14 | 20.02 |
| 23 | 10 | С | Ванды, Зянона | Цімафея, Антаніны | 3.14 | 20.02 |
| 24 | 11 | Ч | **Яна** | Варфаламея, Варнавы | 3.15 | 20.02 |
| 25 | 12 | П | Люцыі, Вільгельма | **Ануфрыя**, Андрэя | 3.15 | 20.02 |
| 26 | 13 | С | Паўла, Яна | Ганны, Акуліны | 3.15 | 20.02 |
| 27 | 14 | **Н** | Мар'і, Уладзіслава | Елісея, Мяфодзія | 3.16 | 20.02 |
| 28 | 15 | П | Лявона, Ірэнеуша | Амоса, Мадэста | 3.16 | 20.01 |
| 29 | 16 | А | **Пятра, Паўла** | Ціхана, Яўтропія | 3.17 | 20.01 |
| 30 | 17 | С | Эміліі, Люцыны | Мануіла, Савела | 3.18 | 20.01 |

14.06.1867 — нар. бел. этнограф М. Доўнар-Запольскі. 16.06.1942 — знішчэнне вёскі Райск на Беласточчыне. 22.06.1941 — нападзенне Германіі на СССР. 24.06.1838 — нар. Я. Мажэйка. 24.06.1925 — утварэнне Грамады (БСРГ). 28.06.1891 — нар. П. Валошын. 6.06.1799 — нар. А. Пушкін.



## АБ ВЕРСАЛЬСКІМ ДАГАВОРЫ

Васьмідзесятай гадавіны Версальскага мірнага дагавора можна было б не адзначаць таму, што ён нам апрача няшчасця нічога больш не гарантаваў. Але жывём мы ў краіне, якая дзякуючы яму замацавала сваю незалежнасць і сталася адразу на ўсходніх землях асноўным агрэсарам, потым акупантам.

Дагавор быў падпісаны 28 чэрвеня 1919 года паміж дзяржавамі-пераможцамі: Англіяй, Італіяй, Францыяй і Японіяй, з аднаго боку, і Германіяй — з другога. Апошнюю акрэсліў ён агрэсарам, абмежаваў яе тэрыторыю і ўзброеныя сілы, налажыў кантрыбуцыю, пазбавіў калоній, акрэсліў граніцу з Польшчай, якая атрымала доступ да Балтыйскага мора праз так званы Польскі калідор, і гэтак далей.

Да перагавораў не была дапушчана Савецкая Расія. У Версалі быў створаны штаб контррэвалюцыі, адкуль кіравалі фінансавай і ваеннай дапамогай. У час падпісання дагавора ўсходні польска-савецкі фронт знаходзіўся на беларускіх землях па лініі Вільна—Пінск, а паўгода пасля аказаўся на 150 кіламетраў далей на ўсход. Легіёны Ю. Пілсудскага не толькі занялі месца нямецкіх войскаў, але імкнуліся ўключыць літоўска-беларускія землі ў межы Польшчы на правах бліжэй неакрэсленай федэрацыі. Правячыя колы Польшчы (Р. Дмоўскі, І. Падарэўскі, У. Грабскі і іншыя) адкідвалі «лінію Керзана», прапанаваную краінамі Антанты, і катэгарычна патрабавалі далучэння тэрыторыі па Вільна і Мінск, рэдка меншай, з думкай хутчэйшага асімілявання насельніцтва. Па гэтых прычынах Версальскі мірны дагавор на беларускіх землях не быў мірным яшчэ цэлыя два гады.



## ЛІПЕНЬ

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 18 | Ч | Галіны, Мар`яна | Ляонція, Іпація | 3.18 | 20.01 |
| 2 | 19 | П | Марыі, Урбана | Іуды | 3.19 | 20.00 |
| 3 | 20 | С | Яцка, Анатоля | Мяфодзія, Апанаса | 3.20 | 20.00 |
| 4 | 21 | **Н** | Тодара, Інацэнта | Юльяна, Цярэнція | 3.21 | 19.59 |
| 5 | 22 | П | Караліны, Антона | Галакціёна, Юльяны | 3.21 | 19.59 |
| 6 | 23 | А | Люцыі, Дамінікі | Агрыпіны, Іосіфа | 3.22 | 19.58 |
| 7 | 24 | С | Цырыля, Мяфодзія | **Яна** | 3.23 | 19.58 |
| 8 | 25 | Ч | Альжбеты, Пракопа | Фяўронні | 3.24 | 19.57 |
| 9 | 26 | П | Зянона, Веранікі | Давыда, Д[illegible] | 3.25 | 19.56 |
| 10 | 27 | С | Філіпа, Амеліі | Іаанны, Інесы | 3.26 | 19.56 |
| 11 | 28 | **Н** | Вольгі, Пелагеі | Івана, Сяргея | 3.27 | 19.55 |
| 12 | 29 | П | Яна, Гвальберта | **Пятра, Паўла** | 3.28 | 19.54 |
| 13 | 30 | А | Эрнеста, Малгажаты | **12-ці·Апосталаў** | 3.29 | 19.53 |
| 14 | 1 | С | Марцэля, Банавентуры | Кузьмы, Дзям`яна | 3.31 | 19.52 |
| 15 | 2 | Ч | Генрыха, Уладзіміра | Юліты, Ювеналія | 3.32 | 19.51 |
| 16 | 3 | П | Марыі, Яўстафія | Анатоля, Пілі[illegible] | 3.33 | 19.50 |
| 17 | 4 | С | Багдана, Аляксея | Андрэя, Хвядоссі | 3.34 | 19.49 |
| 18 | 5 | **Н** | Каміла, Шымана | Сяргея, Ганны | 3.36 | 19.48 |
| 19 | 6 | П | Вадзіслава, Вінцэнта | Валячціна, Лукі | 3.37 | 19.48 |
| 20 | 7 | А | Часлава, Гераніма | Фамы, Евангела | 3.38 | 19.45 |
| 21 | 8 | С | Андрэя, Данеля | Пракопа, Феафіла | 3.40 | 19.44 |
| 22 | 9 | Ч | Марыі | Панкрата, Кірылы | 3.41 | 19.43 |
| 23 | 10 | П | Богны, Апалінара | Апалона, Антона | 3.42 | 19.41 |
| 24 | 11 | С | Хрысціны, Кінгі | Яўфіміі, Вольгі | 3.44 | 19.40 |
| 25 | 12 | **Н** | Якуба, Крыштофа | Іларыя, Фёдара | 3.45 | 19.39 |
| 26 | 13 | П | Ганны, Міраслава | Серапіёна, Сцяпана | 3.47 | 19.37 |
| 27 | 14 | А | Юліі, Наталлі | Юста, Анісіма | 3.48 | 19.36 |
| 28 | 15 | С | Віктара, Інацэнта | Уладзіміра, Кірыка | 3.50 | 19.34 |
| 29 | 16 | Ч | Алафа, Марты | Юліі, Аляўціны | 3.51 | 19.32 |
| 30 | 17 | П | Юліты, Людмілы | Маргарыты, Лазара | 3.53 | 19.31 |
| 31 | 18 | С | Ігната, Любаміра | Емяльяна, Якінфа | 3.54 | 19.29 |

1.07.1569 — **Люблінская унія**. 7.07.1882 — **нар. Я. Купала**. 15.07.1410 — **Грунвальдская бітва**. 21.07.1991 — **абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь**. 22.07.1944 — **Дзень Адраджэння Польшчы**. 27.07.1944 — **вызваленне Беластока Савецкай Арміяй, створаны Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення**. 21.07.1899 — **нар. Э. Хемінгуэй**.



## 430-ыя ЎГОДКІ ЗАКЛЮЧЭННЯ ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ

Падпісаная 1 ліпеня 1569 года Люблінская унія была аб'яднаннем Вялікага княства Літоўскага з Польшчай у федэратыўную дзяржаву пад назвай Рэч Паспалітая. Сярод адзінаццаці іншых уній, якія гэтыя краіны паспелі раней падпісаць, яна залічваецца да найбольш трагічных актаў у гісторыі ВКЛ. Злучаючы Літоўска-Беларускую дзяржаву з Каронай у адзіны дзяржаўны арганізм на чале з каралём, дагэтуляшняе аграмаднае па тэрыторыі і традыцыі княства страціла сваю незалежнасць.

Да заключэння уніі феадалаў ВКЛ прымусілі ўнутраныя палітычныя і нацыянальна-рэлігійныя супярэчнасці, а таксама знешнія абставіны, асабліва няўдачы ў Лівонскай вайне. Феадалы разлічвалі на ўмацаванне свайго становішча ў краіне і атрыманне ад Польшчы дапамогі ў вайне з Расіяй. Падпісаць, аднак, унію на некарысных умовах не згаджаліся.

Перагаворы паміж прадстаўнікамі дзяржаў пачаліся 10 студзеня 1569 года і працягваліся шэсць месяцаў. Паколькі пераканаць прадстаўнікоў ВКЛ не ўдалося, прысутны ў Любліне кароль Жыгімонт Аўгуст вырашыў іх пакараць далучэннем да Польшчы спачатку Падляшша, а пасля Валыні, Падолля і Кіеўшчыны. Супрацьставіцца захопніцтву зямель не мелі сілы, і таму падпісалі ганебны акт уніі, паводле якой на чале дзяржавы аказаўся «кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі» ў адной асобе. Адразу ўвялі супольную знешнюю палітыку і абарону, манету, свабодны гандаль сельскагаспадарчымі таварамі з маёнткаў і адмену дагэтуляшніх супрацьпольскіх законаў.

Княства захавала ўласнае войска, заканадаўства і суды, афіцыйную беларускую мову, забарону польскай шляхце займаць дзяржаўныя пасады, але ўсё гэта пасля на практыцы не ажыццяўлялася.

Люблінская унія праіснавала 222 гады, пакінула знішчэнні ў галіне ўсходнеславянскай культуры і занядбанні ў гаспадарцы. Парадзіла гістарычную нянавісць між суседнімі народамі, якая захоўваецца да нашых часоў.



## ЖНІВЕНЬ

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах |
| 1 | 19 | **Н** | Пятра, Юстына | Макрыны, Серафіма | 3.56 | 19.28 |
| 2 | 20 | П | Карыны, Густава | **Ільі** | 3.57 | 19.26 |
| 3 | 21 | А | Лідзіі, Аўгусціны | Сямёна, Ануфрыя | 3.59 | 19.24 |
| 4 | 22 | С | Даменіка, Пратаса | Марыі, Магдаліны | 4.01 | 19.22 |
| 5 | 23 | Ч | Марыі, Станіслава | Трафіма, Апалінара | 4.02 | 19.21 |
| 6 | 24 | П | Славы, Якуба | **Барыса, Глеба** | 4.04 | 19.19 |
| 7 | 25 | С | Дароты, Кандрата | Ганны, Алімпіяды | 4.05 | 19.17 |
| 8 | 26 | **Н** | Цыпрыяна, Эмільяна | Ермалая, Параскевы | 4.07 | 19.15 |
| 9 | 27 | П | Рамана, Рамуальда | Панцеляймона | 4.09 | 19.13 |
| 10 | 28 | А | Барыса, Ваўжынца | Прохара, Ніканора | 4.10 | 19.11 |
| 11 | 29 | С | Зузанны, Філамены | Калініка, Серафімы | 4.12 | 19.09 |
| 12 | 30 | Ч | Клары, Гілярыя | Андроніка, Валянціна | 4.13 | 19.07 |
| 13 | 31 | П | Дзіяны, Гіпаліта | Еўдакіма, Юліты | 4.15 | 19.05 |
| 14 | 1 | С | Альфрэда, Эўзебія | Макавея | 4.17 | 19.03 |
| 15 | 2 | **Н** | **Успенне** | Сцяпана, Васілія | 4.18 | 19.01 |
| 16 | 3 | П | **Роха** | Кузьмы, Антона | 4.20 | 18.59 |
| 17 | 4 | А | Яцка, Мірона | Еўдакіі | 4.22 | 18.57 |
| 18 | 5 | С | Гелены, Браніслава | Яўсігнея, Ноны | 4.23 | 18.55 |
| 19 | 6 | Ч | Юльяна, Баляслава | **Спаса** | 4.25 | 18.53 |
| 20 | 7 | П | Бярнарда, Сабяслава | Дамецін, Пімена | 4.27 | 18.51 |
| 21 | 8 | С | Іаанны, Францішкі | Леаніда, Емяльяна | 4.28 | 18.49 |
| 22 | 9 | **Н** | Цэзара, Тыматэуша | Юльяна, Дзмітрыя | 4.30 | 18.47 |
| 23 | 10 | П | Філіпа, Апалінара | Лаўрэнція, Рамана | 4.32 | 18.45 |
| 24 | 11 | А | Ежы, Барталамея | Сусанны, Раісы | 4.33 | 18.42 |
| 25 | 12 | С | Луізы, Людвіка | Фоція, Аляксандра | 4.35 | 18.40 |
| 26 | 13 | Ч | Марыі, Зефірыны | Максіма, Ціхана | 4.36 | 18.38 |
| 27 | 14 | П | Юзафа, Калясанта | Міхея, Фядосія | 4.38 | 18.36 |
| 28 | 15 | С | Аўгусціна, Вышаміра | **Успенне** | 4.40 | 18.33 |
| 29 | 16 | **Н** | Яна, Сабіны | Дзяміда, Якіма | 4.41 | 18.31 |
| 30 | 17 | П | Ружы, Шчэснага | Мірона, Паўла | 4.43 | 18.29 |
| 31 | 18 | А | Багдана, Раймунда | Іларыёна, Паўла | 4.45 | 18.27 |

1.08.1914 — пачатак першай сусветнай вайны. 1.08.1944 — пачатак Варшаўскага паўстання. 6.08.1945 — выбух першай атамнай бомбы над Хірасімай. 7.08.1910 — нар. бел. кампазітар Г. Цітовіч. 27.08.1856 — нар. укр. пісьменнік І. Франко. 28.08.1944 — сфарміраванне Ваяводскай рады нарадовай ў Беластоку. 16.08.1945 — падпісанне ў Маскве пагаднення аб польска-савецкай граніцы.



## ЗАБЛУДАЎСКІЯ ВЫДАННІ

Праціўнік Люблінскай уніі гетман польны Вялікага княства Літоўскага, кашталян трокскі, а пасля віленскі Рыгор Хадкевіч у час рыхтавання уніі адмовіўся ад усіх пасад, запрасіў у свой маёнтак Заблудава вядомых маскоўскіх кнігадрукароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца для заснавання на яго сродкі першай на Падляшшы праваслаўнай друкарні. Друкары хутка выдалі дзве кнігі: «Евангелие учительное» і «Псалтыр с Часословцем».

«Евангелие» друкавалі з 8 ліпеня 1568 да 17 сакавіка 1569 года. Яно мела 8 непранумараваных і 399 абазначаных кірылічнымі лічбамі аркушаў. Упершыню ў ёй былі ўведзены, апрача цітлаў, націскі пры захаванні маскоўскага шрыфту, аркушы фарматам 31x19,4 см, змешчана гравюра з гербам Хадкевіча, а таксама застаўкі, канцоўкі, ініцыялы. Кніжка надрукавана на мясцовай і імпартнай паперы з вадзянымі знакамі. Да нашых часоў захаваўся 31 экземпляр, у тым ліку па адным у Варшаве і Мінску.

«Псалтыр» друкаваўся ўжо без П. Мсціслаўца, з Грынем Іванавічам з 26 верасня 1569 да 23 сакавіка 1570 года. Меў 18 непранумараваных і 359 пранумараваных старонак фарматам 16,8x13 см, багата ілюстраваных гравюрамі, застаўкамі, канцоўкамі, абрамленнем. У ім упершыню ўведзены ва ўсходнеславянскім кнігадрукаванні таблічны набор. «Псалтыр» адносіцца да бібліяграфічных рэдкасцей — захавалася ўсяго тры экземпляры (з дэфектамі).

Закладзены Рыгорам Хадкевічам фундамент асяродка ўсходнеславянскай асветы ў Заблудаве з думкай супрацьдзеяння апалячванню насельніцтва метадам падмены праваслаўя уніяцтвам занепаў разам са смерцю (1572) яго апекуна.



## ВЕРАСЕНЬ

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 19 | С | Ідзія, Браніслава | Андрэя, Фёклы | 4.46 | 18.24 |
| 2 | 20 | Ч | Сцяпана, Юльяна | Самуіла, Сявіра | 4.48 | 18.22 |
| 3 | 21 | П | Ізабелы, Сымона | Фадзея, Васы | 4.50 | 18.20 |
| 4 | 22 | С | Разаліі, Ліліяны | Агафоніка, Яўлаллі | 4.51 | 18.18 |
| 5 | 23 | **Н** | Дароты, Ваўжынца | Калініка | 4.53 | 18.15 |
| 6 | 24 | П | Беаты, Яўгенія | Яўціхія, Арсенія | 4.55 | 18.13 |
| 7 | 25 | А | Рэгіны, Мельхіёра | Варфаламея, Ціта | 4.56 | 18.11 |
| 8 | 26 | С | **Сеўнай** | Адрыяна, Наталлі | 4.58 | 18.08 |
| 9 | 27 | Ч | Пятра, Сяргея | Пімена, Ліверыя | 5.00 | 18.06 |
| 10 | 28 | П | Лукаша, Мікалая | Майсея, Ганны | 5.01 | 18.04 |
| 11 | 29 | С | Яцка, Прота | **Усячэнне гал. І. Хр.** | 5.03 | 18.01 |
| 12 | 30 | **Н** | Марыі, Гвідона | Аляксандра | 5.05 | 17.59 |
| 13 | 31 | П | Філіпа, Яўгеніі | Купрыяна, Генадзія | 5.06 | 17.57 |
| 14 | 1 | А | Цыпрыяна, Бярнарда | Сымона, Марфы | 5.08 | 17.54 |
| 15 | 2 | С | Альбіна, Нікадзіма | Маманта, Івана | 5.09 | 17.52 |
| 16 | 3 | Ч | Эдзіты, Карнелія | Анфіма, Васілісы | 5.11 | 17.50 |
| 17 | 4 | П | Юстына, Францішкі | Майсея, Вавіла | 5.13 | 17.47 |
| 18 | 5 | С | Ірэны, Юзафа | Захара, Раісы | 5.14 | 17.45 |
| 19 | 6 | **Н** | Януара, Канстанцыі | Рамана, Кірылы | 5.16 | 17.42 |
| 20 | 7 | П | Філіпіны, Яўстафія | Сазонта, Іаана | 5.18 | 17.40 |
| 21 | 8 | А | Гіпаліта, Матэвуша | **Прачыстая** | 5.19 | 17.38 |
| 22 | 9 | С | Тамаша, Маўрыца | Акіма, Ганны | 5.21 | 17.35 |
| 23 | 10 | Ч | Тэклі, Багуслава | Клімента, Пятра | 5.23 | 17.35 |
| 24 | 11 | П | Герарда, Тодара | Сяргея, Германа | 5.24 | 17.31 |
| 25 | 12 | С | Аўрэліі, Ладзіслава | Юльяна, Фёдара | 5.26 | 17.28 |
| 26 | 13 | **Н** | Юстыны, Цыпрыяна | Карніла, Валяр'яна | 5.28 | 17.26 |
| 27 | 14 | П | Космы, Дамяна | **Уздзвіжэнне Кр. Гасп.** | 5.29 | 17.24 |
| 28 | 15 | А | Марка, Вацлава | Мікіты, Філафея | 5.31 | 17.21 |
| 29 | 16 | С | Міхала, Міхаліны | Яўхіміі, Людмілы | 5.33 | 17.19 |
| 30 | 17 | Ч | Соф'і, Гераніма | Веры, Надзеі, Любові | 5.34 | 17.17 |

1.09.1939 — нападзенне Германіі на Польшчу, пачатак другой сусв. вайны. 11.09.1855 — нар. бел. этнограф Е. Раманаў. 17.09.1912 — нар. Максім Танк. 17.09.1939 — уз'яднанне Зах. Беларусі з БССР. 30.09.1892 — нар. З. Верас.








**Юбілей (20-годдзе) калектыву «Журавінкі» з Агароднічкаў. Віншуе епіс супрасльскі Якаў. Побач А.І. Ігнацій і Я. Сычэўскі.** ***Фота С. Грынявіцка***



**Хор гайнаўскага Дома культуры.** ***Фота С. Грынявіцкага.***



# КАСТРЫЧНІК

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 18 | П | Данута, Рэмігіуша | Соф'і, Ірыны | 5.36 | 17.14 |
| 2 | 19 | С | Тэафіля, Дзіяніза | Трафіма, Фёдара | 5.38 | 17.12 |
| 3 | 20 | **Н** | Тэрэзы, Герарда | Яўстафія, Міхаіла | 5.39 | 17.10 |
| 4 | 21 | П | Разаліі, Францішкі | Кандрата, Андрэя | 5.41 | 17.07 |
| 5 | 22 | А | Пляцыда, Апалінара | Іоны, Фокі | 5.43 | 17.05 |
| 6 | 23 | С | Артура, Брунона | Андрэя, Іраіды | 5.45 | 17.03 |
| 7 | 24 | Ч | Марыі, Марка | Фёклы, Уладзіслава | 5.46 | 17.00 |
| 8 | 25 | П | Брыгіды, Пелагеі | Сяргея, Ефрасінні | 5.48 | 16.58 |
| 9 | 26 | С | Людвіка, Дзіяніза | Івана, Яфрэма | 5.50 | 16.56 |
| 10 | 27 | **Н** | Паўліны, Францішкі | Пімена, Ігната | 5.51 | 16.54 |
| 11 | 28 | П | Эміля, Альдоны | Харытона, Вячаслава | 5.53 | 16.51 |
| 12 | 29 | А | Серафімы, Яўстафія | Феафана | 5.55 | 16.49 |
| 13 | 30 | С | Тэафіля, Эдварда | Рыгора, Міхаіла | 5.57 | 16.47 |
| 14 | 1 | Ч | **Дзень настаўніка** | **Пакрова** | 5.58 | 16.45 |
| 15 | 2 | П | Тэрэзы, Ядвігі, Канстанціна | Усціны, | 6.00 | 16.43 |
| 16 | 3 | С | Гаўла, Амбражэя | Дзяніса | 6.02 | 16.40 |
| 17 | 4 | **Н** | Віктара, Малгажаты | Ерафея, Гурыя | 6.04 | 16.38 |
| 18 | 5 | П | Юльяна, Лукаша | Пятра, Аляксея | 6.05 | 16.36 |
| 19 | 6 | А | Пятра, Земавіта | Фамы, Макара | 6.07 | 16.34 |
| 20 | 7 | С | Ірэны, Клеапатры | Сяргея, Юльяна | 6.09 | 16.32 |
| 21 | 8 | Ч | Уршулі, Гіляра | Пелагеі, Таісіі | 6.11 | 16.30 |
| 22 | 9 | П | Філіпа, Кардуля | Якуба, Андроніка | 6.13 | 16.28 |
| 23 | 10 | С | Тодара, Севярына | Яўлампія, Васіяна | 6.14 | 16.26 |
| 24 | 11 | **Н** | Рафала, Марціна | Філіпа, Зінаіды | 6.16 | 16.23 |
| 25 | 12 | П | Інгі, Крысціна | Андроніка, Кузьмы | 6.18 | 16.21 |
| 26 | 13 | А | Люцыяна, Эварыста | Карпа, Веньяміна | 6.20 | 16.19 |
| 27 | 14 | С | Івоны, Сабіны | Назара, Параскевы | 6.22 | 16.17 |
| 28 | 15 | Ч | Тадэвуша, Сымона | Лук'яна, Яўхімія | 6.23 | 16.15 |
| 29 | 16 | П | Эўзебіі, Віялеты | Лонгіна | 6.25 | 16.13 |
| 30 | 17 | С | Зенобіі, Пшэмыслава | Восія, Андрэя | 6.27 | 16.12 |
| 31 | 18 | **Н** | Урбана, Сатурніна | Лукі, Іосіфа | 6.29 | 16.10 |

1.10.1949 — утварэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі. 4.10.1957 — запушчаны ў СССР першы штучны спадарожнік Зямлі; 450-годдзе заканчэння «валочнага памеру» на Падляшшы. 24.10.1945 — Міжнародны дзень ААН. 30.10.1921 — заснаванне Бел. дзярж. універсітэта. 28.10.1939 — адбыўся Народны сход Зах. Беларусі ў Беластоку.





# ЛІСТАПАД

| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 19 | П | **Усіх Святых** | Клеапатры | 6.31 | 16.08 |
| 2 | 20 | А | Багдана, Бажыдара | Арцёма, Матроны | 6.32 | 16.06 |
| 3 | 21 | С | Сільвіі, Губерта | Іларыёна, Якуба | 6.34 | 16.04 |
| 4 | 22 | Ч | Кароля, Альгерда | **Казанскай Бож. Маці** | 6.36 | 16.02 |
| 5 | 23 | П | Альжбеты, Славаміра | Якуба, Ігната | 6.38 | 16.01 |
| 6 | 24 | С | Фелікса, Леанарда | Іаана, Афанасія | 6.40 | 15.59 |
| 7 | 25 | **Н** | Антона, Мельхіёра | Кірылы, Лазара | 6.42 | 15.57 |
| 8 | 26 | П | Севярына, Віктарына | Дзмітрыя | 6.43 | 15.55 |
| 9 | 27 | А | Урсына, Тодара | Несцера, Марка | 6.45 | 15.54 |
| 10 | 28 | С | Андрэя, Любаміра | Іова, Параскевы | 6.47 | 15.52 |
| 11 | 29 | Ч | **Дзень незалежнасці** | Анастасіі, Клаўдзія | 6.49 | 15.51 |
| 12 | 30 | П | Рэнаты, Вітольда | Зіновія, Марка | 6.51 | 15.49 |
| 13 | 31 | С | Мікалая, Станіслава | Спірыдона, Нікадзіма | 6.52 | 15.48 |
| 14 | 1 | **Н** | Серафіма, Ваўжынца | Кузьмы, Дзям'яна | 6.54 | 15.46 |
| 15 | 2 | П | Альберта, Леапольда | Маркіяна | 6.56 | 15.45 |
| 16 | 3 | А | Эдмунда, Гертруды | Іосіфа, Агапія | 6.58 | 15.43 |
| 17 | 4 | С | Саламеі, Рыгора | Нікандра, Сымона | 6.59 | 15.42 |
| 18 | 5 | Ч | Анелі, Рамана | Галакціёна, Рыгора | 7.01 | 15.41 |
| 19 | 6 | П | Альжбеты, Севярыны | Аляксандры, Клаўдзіі | 7.03 | 15.39 |
| 20 | 7 | С | Фелікса, Анатоля | Фядота, Кірылы | 7.05 | 15.38 |
| 21 | 8 | **Н** | Януша, Конрада | Міхаіла | 7.06 | 15.37 |
| 22 | 9 | П | Марка, Цэцыліі | Анісіфора, Парфіра | 7.08 | 15.36 |
| 23 | 10 | А | Феліцаты, Клеменса | Эраста, Радзівона | 7.10 | 15.35 |
| 24 | 11 | С | Яна, Флоры | Віктара, Максіма | 7.11 | 15.34 |
| 25 | 12 | Ч | Эразма, Кацярыны | Іаана, Ніла | 7.13 | 15.33 |
| 26 | 13 | П | Конрада, Сільвестра | Іаана, Нічыпара | 7.14 | 15.32 |
| 27 | 14 | С | Валяр'яна, Віргінія | Піліпа | 7.16 | 15.31 |
| 28 | 15 | **Н** | Рыгора, Здзіслава | Гурыя, Сымона | 7.18 | 15.30 |
| 29 | 16 | П | Блажэя, Сатурніна | Мацвея, Сяргея | 7.19 | 15.29 |
| 30 | 17 | А | Андрэя, Маўры | Рыгора, Нікана | 7.21 | 15.28 |

3.11.1882 — нар. Я. Колас. 7.11.1917 — пачатак Кастрычніцкай рэвалюцыі. 11.11.1918 — фармальнае заканчэнне першай сусветнай вайны і аднаўленне незалежнасці Польшчы. 29.11.1859 — нар. М. Янчук. 30.11.1899 — нар. бел. пісьменнік М. Лынькоў.



Міністр культуры і мастацтва Ёанна Внук-Назарова і старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі ў час адкрыцця Свята беларускай культуры-98 у амфітэатры ў Беластоку.

Ад лістапада 1992 года Рэспубліка Беларусь мае закон аб нацыянальных меншасцях. Ва ўступе гаворыцца аб яго згоднасці з Канстытуцыяй РБ і міжнародным правам у гэтай галіне. Далей, у 12 артыкулах, даволі падрабязна акрэслены правы і абавязкі. Прыналежнасць да нацыянальнай меншасці разглядаецца як свабодны выбар кожнага грамадзяніна, і з гэтага не могуць выцякаць ніякія некарысныя кансеквенцыі. Грамадзяне нацыянальнай меншасці павінны шанаваць канстытуцыйныя правы, дзяржаўную суверэннасць і тэрытарыяльнасць, а таксама традыцыі, мову і культуру іншых нацыянальнасцей. Абмежаванне іх свабод, насільнае асіміляванне, патрабаванні акрэслення нацыянальнай прыналежнасці або адмовы ад яе забаронены.

Далей гарантуюцца роўныя правы, палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя свабоды, дапамога ў развіцці культуры, мовы, творчасці, навучанні дзяцей роднай мове, арганізаванні таварыстваў, а таксама займанне дзяржаўных пасад і іншае. Даецца права вядзення гаспадарчай дзейнасці, згодна з законамі РБ, стварэння культурна-асветных устаноў, аховы здабыткаў культуры.

Забаронена распаўсюджванне нацыянальнай, веравызнаўчай, расавай варожасці і антыдзяржаўнай дзейнасці, калі яна павязана з палітычнымі арганізацыямі іншай краіны.

У Рэчыпаспалітай Польшчы некалькі гадоў таксама рыхтуецца праект закона аб правах нацыянальных і этнічных меншасцей.



# СНЕЖАНЬ

| Стыль | | Дні | Святы і іменіны | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | усх. | зах. |
| 1 | 18 | С | Наталлі, Элігіуша | Платона, Рамана | 7.22 | 15.28 |
| 2 | 19 | Ч | Бальбіны, Паўліны | Аўдзея, Іларыёна | 7.23 | 15.27 |
| 3 | 20 | П | Францішкі, Ксавера | Рыгора, Прокла | 7.25 | 15.26 |
| 4 | 21 | С | Барбары | **Увядз. у хр. Пр. Баг.** | 7.26 | 15.26 |
| 5 | 22 | **Н** | Сабы, Крысціна | Філімона, Валяр'яна | 7.27 | 15.25 |
| 6 | 23 | П | Мікалая, Эмільяна | **Аляксандра Неўскага** | 7.29 | 15.25 |
| 7 | 24 | А | Амбражэя, Марціна | Кацярыны | 7.30 | 15.25 |
| 8 | 25 | С | Марыі | Клімента, Пятра | 7.31 | 15.24 |
| 9 | 26 | Ч | Веслава, Леакадзіі | Інакенція, Алімпія | 7.32 | 15.24 |
| 10 | 27 | П | Юліі, Данеля | Якуба, Паладзія | 7.34 | 15.24 |
| 11 | 28 | С | Дамаза, Вальдэмара | Сцяпана, Васілія | 7.35 | 15.24 |
| 12 | 29 | **Н** | Адэлаіды, Аляксандра | Парамона, Філумена | 7.36 | 15.24 |
| 13 | 30 | П | Люцыі, Атыліі | Андрэя | 7.37 | 15.24 |
| 14 | 1 | А | Альфрэда, Ізідара | Навума, Філарэта | 7.38 | 15.24 |
| 15 | 2 | С | Цэліны, Вальдэмара | Авакума, Феафіла | 7.38 | 15.24 |
| 16 | 3 | Ч | Альбіны, Здзіславы | Іаана | 7.39 | 15.24 |
| 17 | 4 | П | Алімпіі, Лазара | **Варвары** | 7.40 | 15.24 |
| 18 | 5 | С | Грацыяна, Багуслава | Савы, Гурыя | 7.41 | 15.24 |
| 19 | 6 | **Н** | Урбана, Дарыюша | **Мікалая** | 7.41 | 15.25 |
| 20 | 7 | П | Дамініка, Багумілы | Амбражэя, Ніла | 7.42 | 15.25 |
| 21 | 8 | А | Тамаша, Севярына | Патапа, Анфісы | 7.43 | 15.25 |
| 22 | 9 | С | Зянона, Ганараты | Ганны | 7.43 | 15.26 |
| 23 | 10 | Ч | Вікторыі, Славаміры | Фамы, Міны | 7.44 | 15.27 |
| 24 | 11 | П | Адама, Евы | Данілы, Нікана | 7.44 | 15.27 |
| 25 | 12 | С | **Каляды** | Спірыдона, Аляксандра | 7.44 | 15.28 |
| 26 | 13 | **Н** | **Каляды,** Шчэпана | Яўгенія, Арсенія | 7.44 | 15.29 |
| 27 | 14 | П | Яна, Максіма | Калініка, Апалона | 7.45 | 15.29 |
| 28 | 15 | А | Тэафіліі, Цэзара | Паўла, Сцяпана | 7.45 | 15.29 |
| 29 | 16 | С | Тамаша, Дамініка | Агея, Феафаніі | 7.45 | 15.31 |
| 30 | 17 | Ч | Сабіны, Яўгенія | Данілы, Азарыя | 7.45 | 15.32 |
| 31 | 18 | П | Сільвестра, Маланні | Севасцьяна, Зоі | 7.45 | 15.33 |

1.12.1896 — нар. маршал Г. Жукаў. 9.12.1922 — заснаванне Гродзенскага гіст.-арх. музея. 9.12.1891 — нар. М. Багдановіч. 21.12.1896 — нар. маршал К. Ракасоўскі. 24.12.1798 — нар. А. Міцкевіч. 30.12.1922 — РСФСР, УССР, БССР і Зак. ССР утварылі СССР.



Невядомы курган. *Фотаархіў БГКТ.*

На паўночнай ускраіне Рыбалаўскага лесу, непадалёк сутыкнення мяжы паміж вёскамі Ляшкі і Міневічы Заблудаўскай гміны, знаходзіцца яшчэ адзін помнік нашай гістарычнай мінуўшчыны. Гэта курган дыяметрам дзесяць і вышынёй два метры. На жаль, у міжваенны перыяд быў ён моцна раскапаны, а пасля парос сасновым лесам. На акружаючай яго вільготнай даліне іншых помнікаў даўніны не знойдзена. Але абмяжоўваюць яе ўзгоркі аднослай вышынёй каля 20—25 метраў, таксама пароcлыя лесам, на якіх маглі быць стаянкі нашых продкаў.

# Летапіс дзейнасці БГКТ у 1997—1998 гадах

*Валянціна Ласкевіч*

## 1997 год

21.07. Адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ Янкі Сычэўскага з архіепіскапам Беластоцка-Гданьскім Уладыкам Савай. Абмяркоўваліся справы супрацоўніцтва БГКТ з праваслаўнай Царквою.

23.07. У лесе побач з вёскай Пухалы Старыя (гм. Бранск) адбылася эксгумацыя 29 вазакоў, замардаваных у 1946 годзе бандай «Бурага».

24.07. У Бельску Падляшскім адбылося пахаванне Васіля Кардзюкевіча — шматгадовага дзеяча БГКТ, актыўнага члена калектыву «Лявоніха».

25.07. У Міхайлаўскай царкве ў Бельску Падляшскім з удзелам архіепіскапа Савы праходзілі жалобныя ўрачыстасці у сувязі з пахаваннем 29 вазакоў, праваслаўных беларусаў, замардаваных бандай «Бурага», побач з вёскай Пухалы Старыя. У перапахаванні прымаў удзел старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, які выступаў таксама з прамовай (тэкст друкуецца ніжэй).

## Выступленне старшыні ГП БГКТ Янкі Сычэўскага ў час пахавання замардаваных вазакоў

Ekscelencjo, Księże Arcybiskupie! Wielce Szanowni duchowni cerkwi prawosławnej, zaproszeni goście, członkowie rodzin osób pomordowanych w dniu 31 stycznia 1946 roku w lesie obok wsi Puchały Stare, gmina Brańsk, szanowni uczestnicy żałobnej uroczystości!

Od dnia zbrodni popełnionej na niewinnych ludziach minęło ponad 51 lat. Były to lata przepełnione rozpaczą, bólem i cierpieniem członków rodzin i osób bliskich, lata rozpoczęte odebraniem prawa do życia, prawa do chrześcijańskiego pogrzebu ofiarom bestialskiego mordu, a następnie — prawa do uzyskania informacji o nich przez ich cierpiące rodziny i bliskich.

I oto dzisiaj, 25 lipca 1997 roku, stajemy wszyscy nad otwartą mogiłą w wyniku wieloletnich, uporczywych dociekań, poszukiwań ukrywanej prawdy i starań, by oddać fakt historii, a pomordowanym należny hołd i zapewnienie pochówku w obrządku prawosławnym.

Bolesne fakty dotyczące tego okresu i tego tragicznego wydarzenia są następujące. Jesienią 1945 roku z rozkazu władz Białostockiego Okręgu Narodowego Zjednoczenia Wojskowego zorganizowany zostaje Oddział Pogotowia Akcji Specjalnej tego Zjednoczenia, występujący również pod nazwą "III Wileńska Brygada Narodowego Zjednoczenia Wojskowego". Dowódcą Oddziału zostaje kpt. Romuald Rajs ps. "Bury", a jego zastępcą ppor. Kazimierz Chmielowski ps. "Rekin".

To właśnie oddział "Burego" pozostawił na tych terenach śmierć, popioły i zgliszcza wśród niewinnych mieszkańców wsi. W dniu 28 stycznia 1946 roku około 40 rolników z furmankami z zachodnich rejonów byłego powiatu hajnowskiego zostało wyznaczonych przez ówczesne władze gminne do przewozu drewna opałowego z lasu do szkół. Kiedy stawili się w wyznaczonym miejscu zbiórki w miejscowości Łozice na zachodnim skraju Puszczy Białowieskiej zostali zmuszeni do przewozu Oddziału Zbrojnego Podziemia w liczbie około 150 osób.

W dniach 28/29 stycznia 1946 r. oddział opanował Hajnówkę, a 29 stycznia spalił 2 wsie: Zaleszany, gdzie zamordował bądź spalił żywcem 14 osób, w tym dzieci i osoby starsze oraz Wólka Wygonowska, w której zamordował 2 mieszkańców.

30 stycznia w miejscowości Krasna Wieś gm. Boćki oddział ten zabrał również 14 wozów konnych z furmanami. Furmani wyznania rzymsko-katolickiego wrócili do domów, a 29 furmanów wyznania prawosławnego rozstrzelano bądź bestialsko zabito kolbami w lesie w odległości około 300 metrów na południowy zachód od wsi Puchały Stare gmina Brańsk. Zarówno fakt zbrodni jak też miejsce jej popełnienia były okryte tajemnicą przez dziesiątki lat. Dopiero latem 1995 r. rodziny pomordowanych dowiedziały się o miejscu zbrodni, o jej sprawcach i miejscu ukrycia zwłok. 2 lutego 1946 r. oddział "Burego" spalił też wieś Zanie gm. Brańsk mordując 24 osoby i raniąc 8 oraz wieś Szpaki gm. Wyszki, gdzie zamordował 9 osób, 3 osoby ranił i zgwałcił 2 dziewczyny.

Łącznie w ciągu 5 dni zbrodnicze wyczyny oddziału "Burego" zamykają się liczbą 80 zabitych i 11 rannych cywilnych mieszkańców białoruskich wsi wyznania prawosławnego.

Społeczny Komitet d/s Ekshumacji i Pochówku pomordowanych furmanów, w dniu 26 czerwca 1995 roku zwrócił się z pisemnym wnioskiem do Okręgowej Komisji Badania Zbrodni na Narodzie Polskim w Białymstoku o uzyskanie zezwolenia na ich ekshumację i pochówek w Bielsku Podlaskim.



Ekshumacja miała nastąpić na początku sierpnia 1996 roku, a dokonujemy jej dopiero dzisiaj. Jeśli w budowanym tak konsekwentnie państwie prawa zainteresowani sprawą członkowie rodzin, członkowie Społecznego Komitetu, a także dziennikarze spotykali wielokrotnie opieszałość władz, jeśli podkomendni "Burego" z 1946 roku są członkami Związku Kombatanckiego i otrzymują dodatki kombatanckie i wysokie odszkodowania, to rodzą się w pełni uzasadnione pytania i wątpliwości dotyczące kształtu naszej demokracji, dotyczące sprawiedliwości i równości obywateli wobec prawa i prawno-politycznych podstaw moralności jednostki i społeczeństwa.

Stojąc dzisiaj nad otwartym grobem ofiar barbarzyństwa po upływie ponad pół wieku od tych tragicznych i haniebnych dla ludzkości wydarzeń, w duszy każdego z nas rodzą się i krzyczą pytania: dlaczego? za co? w czym zawiniliśmy? w czym zawiniły ofiary z takim okrucieństwem mordowane? Zapewne racjonalnej odpowiedzi na te bolesne pytania nikt z nas nie jest w stanie udzielić. Krzyczą też pytania dotyczące granic ludzkiej nienawiści, okrucieństwa i odpowiedzialności za czyny.

W imieniu Społecznego Komitetu d/s Ekshumacji i Pochówku składam głębokie i szczere wyrazy współczucia w wieloletnich cierpieniach rodzinom i bliskim wszystkich pomordowanych i ekshumowanych ofiar. Zachowajmy w naszych sercach pamięć o nich, jako o niewinnych męczennikach, którzy zginęli zapewne tylko dlatego, że byli Białorusinami wyznania prawosławnego. Sądzę, iż my wszyscy uczestnicy dzisiejszej uroczystości bardzo pragniemy tego, by święta pamięć o ofiarach i chęć budowy nowego społeczeństwa demokratycznego nie pozwoliły nigdy na to, by ktokolwiek z obywateli naszego kraju był traktowany gorzej od innych tylko ze względu na jego przynależność narodowościową czy wyznaniową.

W imieniu Komitetu składam wyrazy wdzięczności władzom samorządowym miasta Bielska Podlaskiego, radnym, kombatantom miejskiego koła, dziennikarzom białoruskojęzycznych audycji Polskiego Radia w Białymstoku, dziennikarzom białoruskojęzycznej audycji telewizyjnej "Sami o sobie", a także dziennikarzom "Niwy", "Przeglądu Prawosławnego", "Czasopisu" za dociekliwość i aktywność w odkrywaniu prawdy i doprowadzenie do ekshumacji i godnego pochówku ofiar w dniu dzisiejszym.

* * *

25.07. Дзеячы БГКТ (40 асоб) выехалі аўтакарамі ў Мінск на II З'езд беларусаў свету.

26.07. У Мінску праходзіў II З'езд беларусаў свету. Ад імя ўлад Рэспублікі Беларусь выступілі, між іншым, Уладзімір Рылатка — прадстаўнік Прэзідэнта А. Лукашэнкі, Генадзій Пяцігор — з Міністэрства адукацыі, Тадэвуш Стружэцкі — з Міністэрства культуры, Іван Яновіч —

з Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Выступалі таксама Станіслаў Шушкевіч, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч.

27.07. У дыскусіі на II З'ездзе беларусаў свету выступілі: старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі і Ніна Цыванюк з Гарадка.

28.07. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з удзельнікамі II З'езда беларусаў свету. Прэзідэнт праінфармаваў аб сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь у розных галінах жыцця. Сярод многіх дыскутантаў выступаў таксама старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, які праінфармаваў аб жыцці беларусаў у Польшчы і дзейнасці БГКТ. Выступленне старшыні было прынята апладысментамі (тэкст друкуецца).

## Выступленне старшыні ГП БГКТ Янкі Сычэўскага на сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з удзельнікамі II З'езда беларусаў свету 28.07.1997 г.

Высокапаважаны спадар Прэзідэнт!

Высокапаважаныя прадстаўнікі Урада Рэспублікі Беларусь! Паважанае спадарства!

Думаю, што сёння эмоцый у нас было даволі многа. Аднак трэба старацца гаварыць дакладна і адказна, таму што задачы, якія ставім перад сабою ці перад нашымі нацыянальнымі меншасцямі, дыяспарай або кампактна пражываемымі за мяжой беларусамі, — гэта задачы важныя і вельмі адказныя.

Часта ў нашым жыцці так здараецца (і на з'ездзе беларусаў свету, і ў Польшчы, там, дзе дзейнічае Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якога з'яўляюся старшынёю), што інспіруюцца рознага тыпу палітычныя дзеянні і ініцыятывы, мэтай якіх з'яўляецца разбурэнне таго, што да гэтай пары стварылася. Амаль кожны з нас, тут прысутных, жыў пры сацыялізме і ведае, што гэтая эпоха ўжо мінула і меда яна нямала памылак, але не можна знішчаць усяго таму, што было яно сацыялістычнае. Нашы «піянеры аднаўлення», так сказаць, развіваюць свядомасць такім чынам, што ўсё тое, што было, — гэта дрэннае: і людзі, і тое, што збудавана, і тое, што нават было вельмі канструктыўнае, гэта ўсё дрэннае, і трэба яго знішчыць разам з тымі людзьмі, якія менш ці больш з гэтай рэчаіснасцю былі звязаныя. На хвалі гэтых палітычных здарэнняў на Беласточчыне заіснавалі таксама з'явы палітычнага характару. Нам, як беларускай меншасці ў Польшчы, вельмі і вельмі непрыемнымі былі палітычныя выступленні ў адносінах да Рэспублікі





Калектыў «Неруш» з Мінска на Свяце беларускай культуры-98 у беластоцкім амфітэатры. *Фота С. Грынявіцкага.*

Беларусь, у якіх прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі беларускай нацыі. Гэта былі лозунгі, гэта былі вельмі непрыстойныя акты спалення партрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, гэта былі палітычныя падключэнні дзеячаў прафсаюзаў да таго, каб супраць Рэспублікі Беларусь, «супраць дыктатуры», як гаварылася, супраць Лукашэнкі рабіць дэманстрацыі вельмі непрыстойныя, вельмі непрыгожыя. Я ў гэтым пункце хачу сказаць, што мы, як беларускае таварыства, стаім за дэмакратыю, за развіццё беларускай мовы. Мы за тое, каб Беларусь была сапраўды самастойнай дзяржавай, але мы таксама ўяўляем і перакананы поўнасцю, што Беларусь як самастойная дзяржава можа будаваць сваё шчасце дзякуючы таму, што мае свой інтэлектуальны патэнцыял, сваіх вучоных, мае сваіх палітыкаў, мае вельмі многа разумных людзей, і наша справа — супрацоўнічаць з гэтымі людзьмі, з уладамі, якія нам дапамагаюць.

Я хачу сардэчна падзякаваць за тое, што (хаця Беларусь — краіна бедная, многія людзі жывуць проста ў бядзе) ўсё ж такі структуры ўлады дапамагаюць у тым, каб на Беласточчыне развіваліся беларуская культура, беларускае школьніцтва, беларуская навука. Я хачу асабліва падкрэсліць цудоўнае супрацоўніцтва з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і падзякаваць Міністру спадару В. Стражаву асабіста за тое, што ён вельмі і вельмі прыхільна адносіцца да таго, каб дапамагаць нам у развіцці школьніцтва і беларускай асветы. Таксама падзякаваць міністру культуры за дапамогу ў развіцці беларускай культуры. Гэтая дапамога адчуваецца

3. Зак. 5488.

як у матэрыяльным, так і ў маральным плане. Да нас прыязджаюць прадстаўнікі ўлады Рэспублікі Беларусь, мастацкія калектывы, спецыялісты, каб працаваць над арганізаваннем Беларускага музея ў Гайнаўцы, які, думаю, будзе помнікам беларускай культуры ў сусветным маштабе, бо гэты аб'ект будуецца намаганнямі ўсіх беларусаў свету. Трэба сказаць таксама праўду, што дапамагае ў гэтым Рэчпаспалітая Польшча, яе сучасныя ўлады, але ж гэта помнік беларускай культуры.

Хачу падзякаваць таксама за дапамогу ўладам Рэспублікі Беларусь, спадару Прэзідэнту за матэрыяльную дапамогу, рэчавую, у плане будаўнічых матэрыялаў, у пабудове гэтага цудоўнага аб'екта беларускай культуры.

Хачу падкрэсліць таксама, што, калі гаварыць пра палітыку, мы за тое, каб Рэспубліка Беларусь свае праблемы развязвала сама, мы можам выказваць свае думкі, але не на аснове бунту, не на аснове крыку. Я ўчора гаварыў на З'ездзе беларусаў свету, што мне вельмі не падабаецца сітуацыя, калі нас абзываюць таму толькі, што я маю сумненні да нейкіх спраў палітыкі, ці спраў культуры, ці беларускай тоеснасці. Мяне ўразілі і такія з'явы, што прыхільнікі так званага аднаўлення, прыхільнікі беларусізацыі, прыхільнікі сучаснай дэмакратыі не дазволілі гаварыць на небеларускай мове, а самі, і тут я ніякай прэтэнзіі да іх не маю, калі адыходзілі ад мікрафона на 2—3 крокі, размаўлялі на рускай ці на другой мове.

Асабіста я вельмі балюча ў Польшчы перажываю такія факты, калі на рускую мову рэагуецца вельмі алергічна, а англійская мова прымаецца як самая цудоўная ў свеце. Я абсалютна не разумею гэтага. Кожная мова — найлепшая для прадстаўніка нацыі, якую ён прадстаўляе. Я разумею, што беларусу — беларуская мова найбліжэйшая. Але ж мы павінны ўвайсці ў рэальнасць, а рэальнасць Рэспублікі Беларусь такая, што калі мы паглядзім, то гэта ж не па віне беларусаў так здарылася (вядома, не час гаварыць пра віну), але праўда такая, што нават тыя, хто дамагаецца, каб гаварыць толькі на беларускай мове, не дазваляюць дэлегатам сусветнага з'езда размаўляць на другой мове, а ў сваіх сем'ях, іх дзеці, іх унукі размаўляюць на рускай мове. Пад пісталетам беларускую мову ў Беларусі ўводзіць нельга. Яе можна і трэба ўводзіць патрыятычным характарам, шляхам прывівання любові да гэтай мовы, развіцця зацікаўлення, развіцця школьніцтва і так далей.

Шаноўнае спадарства! Я хачу падкрэсліць, што нашае беларускае таварыства займаецца таксама дзейнасцю ў галіне культуры і беларускай асветы. І нам такія працэсы, пра якія я тут гавару, вельмі і вельмі не падабаюцца. Таму што пры дапамозе палітычных лозунгаў можна знішчыць усё, можна «зарэзаць» кожнага чалавека. Прыклады, якія былі на



З'ездзе беларусаў свету, гэта ж проста жахлівасць. Калі мы выказвалі свае погляды, нас выганялі з залы, «бралі за горла», як ужо гаварылася. Жанчыну вялі, каб пабіць ці штосьць больш дрэннае зрабіць. Гэта ўжо страшная з'ява. Калі бяруць верх нацыяналізм, шавінізм, нянавісць, тады няма месца для таго, каб думаць, няма месца для таго, каб у інтэлектуальным плане вырашаць асобныя праблемы.

Хачу дадаць на заканчэнне, што мы за тое, каб развіваліся дыяспары і на Захадзе, і на Усходзе, каб развіваліся беларусы і тут, і там, і за тое, каб канструктыўна супрацоўнічаць з Рэспублікай Беларусь. Але не хочам вырашаць за яе ўнутраных спраў. Я супраць таго, каб крычаць. Нам трэба размаўляць, нам трэба весці абмен думкамі, трэба мець свае праграмы, свае канструктыўныя прапановы і развіваць супрацоўніцтва, шукаць такія формы дзейнасці, якія прывядуць да расцвітання і Рэспублікі Беларусь, і беларускасці ў свеце. Толькі такія шляхі могуць давесці да шанавання нашай нацыі ў замежных краінах.

Хачу таксама дадаць яшчэ пра адну боль беларусаў на Беласточчыне. Гэта боль, па праўдзе кажучы, нацыяналістычна-каталіцкай арыентацыі — дрэнныя адносіны да беларусаў толькі таму, што яны беларусы, і толькі таму, што яны праваслаўнага веравызнання. Цяжка нам жывецца тады, калі ўлады горада, у якім пражывае каля 100 тысяч беларусаў, не бачаць існавання з'явы беларускасці ў горадзе, калі адмаўляюць ім у праве на развіццё нацыянальнай культуры.

Нам, беларусам, у Польшчы вельмі не падабаецца такая з'ява, як знішчэнне помнікаў удзячнасці Савецкай Арміі, бо Савецкая Армія — «гэта акупанты». Прыязджаюць да нас дакладчыкі з Беларусі на навуковыя канферэнцыі і падносяцца такога тыпу праблемы, што на Беларусі ў другую сусветную вайну не было ніякай партызаншчыны, а былі здраднікі Айчыны, якія супрацоўнічалі з акупантамі. Акупантамі яны называюць Чырвоную Армію. Прабачце, гэта нейкае дзікунства. Вядома, што сталінізм не заўсёды прыносіў тое, што трэба, але мы павінны быць удзячнымі тым, хто прынёс вызваленне Польшчы. Больш як 600 тысяч чырвонаармейцаў аддалі сваё жыццё. Я таксама заўважаю, што вельмі дрэнна адносяцца ў Польшчы да ідэі пабудовы помніка ахвярам польскага нацыяналізму, праваслаўным беларусам, якія былі замардаваны ў 1939—1956 гадах. Мы цяпер намагаемся такі помнік пабудаваць. У адрас спадара Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, улад маем просьбу: дапамагчы нам, на колькі магчыма, будаўнічымі матэрыяламі.

Сардэчна жадаю спадару Прэзідэнту, уладам Рэспублікі Беларусь, усяму беларускаму народу шчасця і шчаслівай развязкі ўсіх праблем, як палітычных, так і эканамічных. Дзякую за ўвагу.



Дзіцячы калектыў «Лісічкі» пачатковай школы ў Ласінцы.
*Фота С. Грынявіцкага.*

* * *

30.07. Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і сакратар В. Ласкевіч адбылі сустрэчы:

— з войтам гміны Гайнаўка Оляй Рыгаровіч па справе беларускага фестыну ў Навасадах, з войтам гміны М. Павільчам і дырэктарам ГОК А. Скепко ў Нараўцы па справе фестыну ў Семяноўцы;

— з палкоўнікам Віктарам Антонюком у Бельску Падляшскім па справах ацэнкі ўрачыстасці пахавання замардаваных вазакоў каля вёскі Пухалы Старыя.

3.08. У Кляшчэлях адбыўся беларускі народны фестын. Сярод запрошаных гасцей былі: генеральны консул РБ у Беластоку Міхась Слямнёў, віцэ-консул Павел Латушка, паслы Сяргей Плева, Станіслаў Малішэўскі, а таксама Кшыштаф Біль-Яруззэльскі. У канцэрце выступілі калектывы: «Зубры» і «Каласкі» з Беластока, «Любашкі» з Дабрывады, «Сябры» з Мінска і Аля Дубэц з Беластока. Прысутнічала каля 1000 асоб.

— Беларускі народны фестын адбыўся таксама ў Чаромсе. Выступілі калектывы: «Зубры», «Каласкі», «Вульчанкі» з Вулькі Тэрэхоўскай, «Чарамшына» і фальклорны — з Чаромхі, «Сябры» з Мінска і Аля Дубэц з Беластока. На фестынах свае кніжкі падпісвалі Міхась Хмялеўскі і Янка Целушэцкі. Прысутнічала каля 1500 асоб.

5.08. Я. Сычэўскі, С. Плева і В. Ласкевіч сустрэліся з войтам гміны Нараў Я. Іванюком, з удзелам дырэктара ГОК і дырэктара школы ў Ласінцы. Абмяркоўваліся справы беларускага фестыну ў Ласінцы (30.08).

— Адбылася сустрэча з войтам гміны Чыжы Р. Мацкевічам і дырэктарам ГОК Ю. Якімюком па справе фестыну ў Моры (17.08).

9.08. Беларускі народны фестын адбыўся ў Семяноўцы, гм. Нараўка. Прынялі ў ім ўдзел дастойныя госці: прэм'ер-міністр Рэчыпаспалітай Уладзімеж Цімашэвіч, яго саветнік Анатоль Вакулюк, паслы ў Сейм С. Плева і Ст. Малішэўскі.

У канцэрце выступілі калектывы: «Фэст» з Баранавіч (Беларусь), «Каласкі», «Расспяваны Гарадок», «Зубры», «Лучына», «Васілёчкі», «Цаглінкі» і калектыў з Нараўкі. Фестын вяла В. Ласкевіч. Прысутнічала каля 1000 асоб.

10.08. Беларускае свята праходзіла ў Навасадах, гм. Гайнаўка. Выступалі: — хор БГКТ з Беластока, «Чарамшына», «Зубры», «Арэшкі», «Расспяваны Гарадок», «Фэст» з Баранавіч. Сярод гасцей былі: праф. Бартчак ад імя прэм'ер-міністра Я. Каліноўскага і пасол С. Плева. Прысутнічала каля 700 асоб.

16.08. Ансамбль беларускай песні «Каларыт» з Жабінкі (Беларусь) даў канцэрт у клубе вёскі Новае Беразова, гм. Гайнаўка.

17.08. Беларускія народныя фестыны адбыліся:

— у Старым Корніне, гм. Дубічы Царкоўныя. Выступілі: хор БГКТ з Беластока, «Журавінкі» з Агароднічак, «Зубры» і «Каларыт» з Жабінкі (Беларусь);

— у Моры, гм. Чыжы. У канцэрце прынялі ўдзел: хор БГКТ з Беластока, калектывы: «Чыжавяне», «Збучанкі», «Журавінкі», «Незабудкі», «Спектрум», «Атут», «Каларыт» з Жабінкі.

20.08. На польскім радыё ў Беластоку адбылася сустрэча кандыдатаў у паслы Сейма Рэчыпаспалітай з беларускага асяроддзя: Я. Сычэўскага, Я. Чыквіна, Я. Ваппы, Я. Яноўскага і Я. Тапалянскага (кандыдат у сенатары).

Сустрэчу вёў журналіст Ю. Ляшчынскі.

22.08. У Доме настаўніка ў Бельску Падляшскім адбылася сустрэча камбатантаў з гмін Боцькі, Орля і Бранск, якім былі ўручаны медалі Г. Жукава. У сустрэчы прыняў удзел старшыня ГП БГКТ, кандыдат на пасла ў Сейм Рэчыпаспалітай Я. Сычэўскі, які запрэзентаваў сваю выбарчую праграму. Пасля сустрэчы былі ўскладзены кветкі на магілках замардаваных бандай 29 вазакоў і месцы катавання гітлераўцамі мясцовага насельніцтва ў Піліцкім лесе.

23.08. У Вэнгажэве адбылася сустрэча прэм'ер-міністра В. Цімашэвіча з кандыдатамі на паслоў і сенатараў СЛД з ваяводстваў: Беластоцкага, Ломжынскага, Сувальскага і Альштынскага. Абмяркоўваліся справы выбараў у Сейм і Сенат РП. У сустрэчы прыняў удзел старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі.

24.08. Турнір гмін у Нараўцы. На мерапрыемстве прысутнічаў старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі.

28.08. З жыхарамі вёскі Аўгустова каля Бельска Падляшскага сустрэўся старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі. Абмяркоўваліся справы дзейнасці БГКТ, а таксама выбараў у Сейм.

30.08. Гістарычным фактам быў беларускі фестын у вёсцы Ласінка, гм. Нарва. У ім прынялі ўдзел дастойныя госці: прэзідэнт Рэчыпаспалітай





Прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі і прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч на фестыне ў Ласінцы. 1997 г. *(На стар. 38—39). Фота С. Грынявіцкага.*

Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі, прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч, беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі і іншыя. Гасцей прывіталі арганізатары фестыну старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і войт гміны Нараў Я. Іванюк, а дзеці са школьнага калектыву «Лісічкі» ўручылі кветкі.

Прэзідэнт А. Квасьнеўскі і прэм'ер-міністр У. Цімашэвіч мелі магчымасць сустрэцца з жыхарамі вёскі. Выступаючы перад публікай, падзякавалі за цёплы прыём і не ўтойвалі свайго захаплення багаццем беларускай культуры.

У канцэрце выступілі мясцовыя калектывы: «Васілёчкі», «Зубры», «Лісічкі», «Цаглінкі», «Добрая весць» і «Стрэчанне» з Мазыра, што на Беларусі.

31.08. Беларускія народныя фестыны адбыліся:

— у Міхалове, дзе выступалі калектывы: «Каласкі», «Чыжавяне», «Рэчанька», «Прымакі», «Лучына», «Расспяваны Гарадок», «Добрая весць» і «Стрэчанне» (Беларусь);

— гэтыя ж калектывы выступалі таксама на фестыне ў Гарадку. Прысутнічалі запрошаныя госці: С. Плева, С. Малішэўскі, Т. Курыловіч.

1.09. У пачатковай школе ў Нараўцы адбылася ваяводская інаўгурацыя школьнага 1997/98 года. Пра справы польска-беларускіх суадносін гаварыў старшыня ГП БГКТ.



7.09. БГКТ арганізавала:

— канцэрт калектыву песні і танца «Свяціца» з Расон, што на Беларусі (Віцебшчына), у Орлі;

— беларускі народны фестын у Бельску Падляшскім, у якім выступілі: хор БГКТ з Беластока, хор «Васілёчкі» з Бельска, калектывы: «Дзявочыя ноткі», «Зубры», «Прымакі», «998» і «Свяціца» з Расон.

14.09. Закончыўся сезон беларускіх народных фестынаў. Два апошнія фестыны адбыліся ў:

— Новым Двары з удзелам хору БГКТ з Беластока, калектываў «Тыневічанкі», «АС», «Зуброў» і «Медуніцы» з Валкавыска (Беларусь);

— Саколцы, дзе выступілі гэтыя ж калектывы.

18.09. У будынку БГКТ адбылася сустрэча старшыні ГП, кандыдата на пасла ў Сейм РП з жыхарамі г. Беластока.

19.09. У БГКТ адбылося пасяджэнне Камітэта пабудовы Помніка праваслаўным ахвярам вайны і акупацыі.

20.09. Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі даў інтэрв'ю газеце «Рэчыпаспаліта».

21.09. Выбары ў Сейм і Сенат Рэчыпаспалітай П.

23.09. У Белавежы адбылася сесія гміннай управы, у якой прынялі ўдзел сакратар ГП БГКТ В. Ласкевіч і старшыня Я. Сычэўскі. Пасяджэнне было прысвечана, між іншым, ацэнцы «Купалля».




Калектыў «Каласкі» з Беластока. *Фота С. Грынявіцкага.*

26.09. На Беластоцкім тэлебачанні праходзіла дыскусія, прысвечаная выбарам у Сейм і Сенат РП, у якой удзельнічаў пасол Я. Сычэўскі.

13.10. Адбылося пасяджэнне Кансультацыйнай рады беластоцкага тэлевізійнага асяродка. БГКТ рэпрэзентавала В. Ласкевіч.

14.10. Падпісаны акт перадачы ва ўласнасць БГКТ будынка па вуліцы Варшаўскай, 11 у Беластоку.

19.10. У Гайнаўцы адбылася раённая справаздачна-выбарчая канферэнцыя БГКТ перад XIII з'ездам. Выбраны новыя ўлады аддзела БГКТ і дэлегаты на XIII з'езд. Старшынёю Гайнаўскага аддзела выбраны М. Голуб.

26.10. Справаздачна-выбарчая канферэнцыя БГКТ адбылася ў Бельску Падляшскім. Старшынёю аддзела выбраны В. Ляшчынскі.

31.10. Сустрэча старшыні ГП БГКТ пасла Я. Сычэўскага і пасла С. Плевы з уладамі горада Беластока — *прэзідэнтам* К. *Юргелем, нам.* прэзідэнта М. Казлоўскім і членам праўлення М. Дэмбскім па справе запазычання БГКТ перад гарадской управай у Беластоку. Прадстаўнікі гарадской управы абяцалі ануляваць запазычанне і нават аказаць дапамогу ў дзейнасці БГКТ. Аднак слова не стрымалі.

9.11. Справаздачна-выбарчыя канферэнцыі БГКТ адбыліся:

— у Дуброве Беластоцкай. Старшынёю аддзела выбраны А. Суліма;

— у Саколцы. Старшынёю аддзела выбраны С. Крышэнь.

12.11. У Гайнаўцы адбылося пахаванне актывіста Гайнаўскага аддзела БГКТ, кіраўніка раённай управы ў Гайнаўцы Яна Скепко.

15.11. Юбілей 10-гадовай дзейнасці святкаваў калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў. Сярод запрошаных гасцей былі: віцэ-консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку П. Латушка, паслы ў Сейм С. Плева і Я. Сычэўскі. Юбілейны канцэрт вяла В. Ласкевіч.



17.11. Выязное пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ адбылося ў Бельску Падляшскім (Дом настаўніка). Пасяджэнне было прысвечана прыняццю матэрыялаў на XIII з'езд БГКТ, у тым ліку справаздачы з дзейнасці за апошнюю кадэнцыю.

21—23.11. У Пуньску праходзілі IV сустрэчы нацыянальных меншасцей. У рамках сустрэч адбыўся семінар на тэму: «Доступ нацыянальным меншасцям да сродкаў масавай інфармацыі». Адбыліся таксама канцэрты калектываў нацыянальных меншасцей. Беларускую меншасць рэпрэзентаваў хор БГКТ з Беластока.

22.11. Юбілей (15-годдзе) хору ГДК у Гайнаўцы.

22.11. Калектыў «Арэшкі» з Арэшкава прыняў удзел у VI мастацкіх сустрэчах «Супольнасць у культуры», якія арганізаваў Дом культуры «Арсус» у Варшаве.

23.11. Адбылося пасяджэнне Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ. Камісія на базе праведзенага кантролю прыняла справаздачу сваёй дзейнасці на XIII з'езд БГКТ.

27.11. Пасяджэнне Галоўнага камітэта алімпіяды беларускай мовы адбылося ў Беластоку. Праф. А. Баршчэўскі без кансультацыі вывеў Т. Русачык са складу камітэта, уводзячы на яе месца А. Латышонка.

30.11. Адбыўся XIII з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку:

— у 9 гадзін — малебен у інтэнцыі XIII з'езд ў Саборы св. Мікалая ў Беластоку;

— у 10 гадзін — пачатак XIII з'езда.

Матэрыялы, прысвечаныя XIII з'езду БГКТ, апублікаваны ў «Беларускім календары» на 1998 год.

8—9.12. Старшыня ГП БГКТ пасол Я. Сычэўскі з прадстаўнікамі Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей пабываў у Тыролі (Італія), дзе была нагода пазнаёміцца, між іншым, з жыццём нацыянальных меншасцей у Італіі.

8.12. Адбылося пасяджэнне Кансультацыйнай рады Беластоцкага тэлебачання, на якім прысутнічала В. Ласкевіч. Абмяркоўваліся справы ўдасканалення перадач, прысвечаных нацыянальным меншасцям.

13.12. I пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ у новай кадэнцыі.

16.12. Пасол Я. Сычэўскі на пасяджэнні Сеймавай камісіі культуры і сродкаў перадачы паставіў 2 прапановы:

— увядзення ў бюджэт дзяржавы на 1998 год сродкаў, запланаваных ваяводам беластоцкім на дафінансаванне Беларускага музея ў Гайнаўцы (2 млн. 632 тыс. злотых);

— павелічэння на 1 млн. злотых сродкаў на дафінансаванне культуры нацыянальных меншасцей.

Камісія прыняла прапановы.

4. Зак. 5488.



Старшыня Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Яцэк Курань размаўляе з «Арэшкамі». 1998 г. *Фота С. Грынявіцкага.*

20—22.12. Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і сакратар В. Ласкевіч выязджалі ў Рэспубліку Беларусь, дзе сустракаліся з прадстаўнікамі ўлад па справе дапамогі беларускаму асяроддзю ў Польшчы, у тым ліку ў арганізацыі фестывалю «Беларуская песня-98» (прыезд хору імя Г. Цітовіча). Кіраўніцтва ГП прыняло таксама ўдзел у Рэспубліканскім фестывалі сямейных калектываў, які праходзіў у Слоніме (20—22.12).

31.12. У будынку ГП БГКТ быў праведзены навагодні баль, які арганізаваў клуб «Крокус».



## 1998 год

9.1. У памяшканнях Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы аддзел БГКТ арганізаваў І Агляд праваслаўных калядак. Прыняло ўдзел 150 асоб з дашкольнікаў, пачатковых і сярэдніх школ.

10.1. Лаўрэаты агляду праваслаўных калядак супольна з хорамі Дома культуры і Сабора Св. Тройцы выступілі ў дабрачынным канцэрце ў Гайнаўскім доме культуры. Даход з канцэрта (каля адной тысячы злотых), прызначаны на патрэбу Дома міласэрнасці ў Гайнаўцы.

12.01. Міністр культуры РП Ёанна Внук-Назарова запрасіла на навагоднюю сустрэчу дзеячаў і мастакоў культуры. У сустрэчы прымаў удзел старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі.

12.01. Навагодні баль (па старым стылі) у сваіх памяшканнях арганізавала ГП БГКТ. Іграў калектыў «998».

15.01. У Доме культуры ў Бельску Падляшскім адбыўся раённы агляд дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» для вучняў пачатковых школ. Прыняло ў ім удзел 83 выканаўцы.

Найлепшымі дэкламатарамі былі:

— у групе 0—III класаў — Марта Бабулевіч і Катажына Краўчук з пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім;

— у групе IV—V класаў — спецыяльную ўзнагароду атрымаў Павел Герасімюк з Орлі, а два першыя раўнапраўныя месцы — Эвэліна Карчэўская з Бельскай «тройкі» і Мілена Яканюк з Пасынак;

— у групе класаў VI—VIII два першыя месцы прызнана Уршулі Тарасэвіч з Гарадка і Адрыяну Крукоўскаму са школы № 3 у Бельску Падляшскім.

16.01. Раённы агляд конкурсу «Роднае слова» адбыўся ў пачатковай школе № 1 у Гайнаўцы. Прыняло ўдзел 80 выканаўцаў. У групе вучняў 0—III класаў спецыяльную ўзнагароду атрымала Магдалена Дудзіч з Ласінкі. Тры першыя месцы камісія прызнала Магдалене Чыквін са школы № 2 у Гайнаўцы, Барбары Каліноўскай са школы № 6 у Гайнаўцы і Анне Дудзіч з Ласінкі.

З класаў IV—V найлепшымі былі: Наталля Кос і Паўліна Пашко з Ласінкі — Гран-пры і Юліта Федарук са школы № 6 у Гайнаўцы і Анэта Трафімюк з Клейнік — першыя месцы.

У найстарэйшай групе — VI—VIII класы — першыя ўзнагароды атрымалі: Анэта Яканюк з Нарвы, Бэата Мінько з Ласінкі і Анджэй Колендо з Кляшчэляў.

20.01. Лаўрэаты раённых аглядаў змагаліся на цэнтральным аглядзе конкурсу «Роднае слова», які праходзіў у пачатковай школе ў Нараўцы. Выступіла 52 выканаўцы.

 



Дзіцячы калектыў «Лясныя скамарохі» пачатковай школы ў Кляшчэлях. *Фота С. Грынявіцкага.*

Конкурсная камісія, якая працавала ў складзе Тамары Русачык (старшыня), Яніны Плютовіч і Аляксандра Іванюка, прызнала наступныя месцы і ўзнагароды:

— у групе 0—III класаў спецыяльную ўзнагароду дырэктара школы і старшыні гміннай рады ў Нараўцы Яўгена Валкавыцкага атрымала Магдалена Чыквін са школы № 2 у Гайнаўцы, 2 першыя месцы — Магдалена Дудзіч з Ласінкі і Барбара Каліноўская са школы № 6 у Гайнаўцы;

— у групе IV—V класаў спецыяльную ўзнагароду старшыні ГП БГКТ, пасла ў Сейм Рэчыпаспалітай Янкі Сычэўскага атрымала Наталля Кос з Ласінкі. 3 першыя месцы прызнаны: Анне Апалінскай са школы № 3 ў Бельску Падляшскім, Анне Паўлючук з Пасынак і Паўліне Савіцкай з Гарадка;

— у групе VI—VIII класаў спецыяльную ўзнагароду войта гміны Нараўка Мікалая Павільча атрымала Анна Паўлючук з Пасынак, а 2 першыя месцы занялі Жанэта Роля і Агнешка Брэнько са школы № 3 у Бельску Падляшскім.

Пасля конкурсу адбыўся канцэрт школьнага калектыву «Душкі з пушкі», а таксама наведванне новай школы ў Нараўцы.

20.01. У Бельскім доме культуры ў Бельску Падляшскім кіраўніцтва ГП БГКТ (Я. Сычэўскі і В. Ласкевіч) сустрэлася з хорам «Васілёчкі». У сустрэчы прымаў таксама ўдзел дырэктар БДК С. Лукашук. Абмяркоўваліся справы актывізацыі працы хору.

25.01. У пачатковай школе ў Кляшчэлях адбыўся раённы агляд V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98» (Гайнаўскі раён). Прыняло ўдзел 27 выканаўчых адзінак. Агляд быў арганізаваны на высокім узроўні з вялікім заангажаваннем мясцовых улад. Першыя месцы занялі:

— у катэгорыі фальклорнай аўтэнтычнай песні: Антаніна Сідарук з






Калектыў «Пронар» з Нарвы. *Фота С. Грынявіцкага.*

Дабрывады і Еўдакія Маркевіч з Дашоў, квартэт «Любашкі» з Дабрывады і квартэт «Каліна» з Дашоў, вакальны калектыў «Арэшкі» з Арэшкава;

— у катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні: мужчынскі квартэт калектыву «Чыжавяне» з Чыжоў, вакальная мужчынская група хору ГДК з Гайнаўкі і калектыў «Чарамшына» з Чаромхі;

— у катэгорыі сучаснай песні: Ёанна Масайло з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Першае месца заняў таксама хор ГДК з Гайнаўкі.

26.01. На Беластоцкім тэлебачанні адбылося чарговае пасяджэнне Кансультацыйнай рады, прысвечанае, між іншым, рэалізацыі пастаноў, якія былі прыняты на сустрэчы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей 21—23.11.97 у Пуньску. У пасяджэнні Кансультацыйнай рады прыняла ўдзел В. Ласкевіч.

31.01. Мерапрыемства ў рамках фестывалю «Беларуская песня-98» адбылося ў Дуброве Беластоцкай з удзелам калектыву «Гасцінец» з Гродна.

1.02. Раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-98» праходзіў у асяродку культуры ў Сямятычах, дзе таксама выступіў калектыў «Гасцінец».

4.02. У Варшаве адбылося пасяджэнне Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей з удзелам прадстаўнікоў беларускіх і праваслаўных арганізацый. Абмяркоўваліся справы сітуацыі беларускай правас-



 

лаўнай меншасці ў Польшчы. З боку БГКТ у пасяджэнні прынялі ўдзел: Я. Сычэўскі, Т. Русачык і В. Ласкевіч.

4.02. У Цэнтры прэсы і кніжкі славянскіх народаў у Варшаве, якім кіруе Янка Заброцкі, адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ, пасла ў Сейм РП Янкі Сычэўскага і пасла Сяргея Плевы з актывам Варшаўскага аддзела БГКТ. У сустрэчы прынялі ўдзел таксама Т. Русачык і В. Ласкевіч. Размовы датычылі беларускай меншасці ў Польшчы, а перад усім умоў, у якіх дзейнічае Варшаўскі аддзел.

7.02. Раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-98» праходзіў у будынку ГП БГКТ у Беластоку. Выступіла 23 выканаўчыя адзінкі. Першыя месцы ў аглядзе занялі:

— у катэгорыі фальклорнай песні — Ніна Цыванюк з Гарадка і вакальны калектыў з Паўлаў;

— у катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні — Уладзімір Іванюк з Беластока, дуэт Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк з Беластока, калектыў «Расспяваны Гарадок» з Гарадка, мужчынская група хору БГКТ з Беластока;

— у катэгорыі сучаснай песні — Аля Дубэц з Беластока, трыо калектыву «Пронар» з Нарвы, калектывы «Каласкі» і «АС» з Беластока.

Першае месца камісія прызнала таксама хору БГКТ з Беластока. Спецыяльную ўзнагароду за артыстычныя пошукі камісія прызнала калектыву «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў.

8.02. Раённы агляд фестывалю адбыўся ў Доме культуры ў Бельску Падляшскім. Запрэзентавалася 18 выканаўцаў.

Найлепшыя выканаўцы ў Бельскім раёне:

— у катэгорыі фальклорнай песні — Вера Нічыпарук з Маліннікаў, дуэт Валянціна Марціновіч і Галіна Грабарук з Краснага Сяла і вакальны калектыў з Маліннікаў;

— у катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні — мужчынскі калектыў пад кіраўніцтвам Ірэнея Лаўрэшука, і калектыў «Маланка» з Бельска Падляшскага;

— у катэгорыі сучаснай песні — Юліта Такарэўская з Бельска Падляшскага і калектыў «Дзявочыя ноткі» з Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім.

Першае месца камісія прызнала таксама хору «Васілёчкі» з Бельска Падляшскага.

10.02. Кіраўніцтва ГП БГКТ (Я. Сычэўскі і В. Ласкевіч) сустрэлася з ваяводай беластоцкім Крыстынай Лукашук, якую запрасілі на гала-канцэрт фестывалю «Беларуская песня-98», праінфармавала яе аб сітуацыі БГКТ і справах Беларускага музея ў Гайнаўцы. Ваявода не праявіла зацікаўлення гэтымі справамі.





Конкурсная камісія цэнтральнага агляду V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98». *Фота С. Грынявіцкага.*

12.02. Сустрэча старшыні ГП БГКТ Я. Сычэўскага з дырэктарам аддзела культуры ваяводскай управы Казімежам Дэркоўскім, у часе якой К. Дэркоўскі праінфармаваў аб памяншэнні напалавіну (з 2000 на 1000 злотых) ваяводай К. Лукашук сродкаў, запланаваных на фестываль «Беларуская песня-98».

13.02. Старшыня ГП БГКТ пасол Я. Сычэўскі прымаў удзел у сустрэчы кіраўніцтва Беластоцкага тэлебачання з уладамі горада Беластока.

15.02. У Гарнізонным клубе па вуліцы Кавалерыйскай у Беластоку праходзіў цэнтральны агляд V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98». Прынялі ў ім удзел лаўрэаты раённых аглядаў у колькасці 67 выканаўчых адзінак. Конкурсная камісія працавала ў складзе: Міхась Дрынеўскі — старшыня, Тадэвуш Стружэцкі, Ежы Сьрудкоўскі, Станіслаў Альханоўскі і Славамір Сакалоўскі — члены камісіі.

Першыя месцы занялі:

— у катэгорыі фальклорнай песні — Антаніна Сідарук з Дабрывады, дуэт Анна Раманюк і Вольга Кандратовіч з Дубяжына і калектыў «Родына» таксама з Дубяжына;

— у катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні — Уладзімір Іванюк



Удзельнікі Беларускага фестыну-98 у Нараўцы. *Фота С. Грынявіцкага.*

з Беластока, дуэт Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк з Беластока, мужчынскі квартэт калектыву «Чыжавяне» з Чыжоў, мужчынскія калектывы хору БГКТ з Беластока і хору ГДК з Гайнаўкі, калектыў «Маланка» з Бельска Падляшскага і калектыў «Чарамшына» з Чаромхі;

— у катэгорыі сучаснай песні — Аля Дубэц з Беластока, трыо «Пронар» з Нарвы, калектыў «Каласкі» з Беластока і калектыў «Арляне» з Орлі.

Сярод хароў два першыя месцы камісія прызнала: хору БГКТ з Беластока і хору «Васілёчкі» з Бельска Падляшскага.

Спецыяльную ўзнагароду за артыстычныя пошукі атрымаў калектыў «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў.

16.02. У Гайнаўцы адбылася ўрачыстасць з нагоды адкрыцця асяродка міласэрнасці «Самарытанін», на якой прысутнічаў пасол Я. Сычэўскі. Старшыня і сакратар ГП БГКТ сустрэліся з кіраўніцтвам фірмы «Поліс» — Станіславам Лапічам і Базылём Гулько па справах супрацоўніцтва.

21.02. Па запрашэнні ГП БГКТ на Беласточчыну прыехаў Дзяржаўны народны акадэмічны хор Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча з Мінска пад кіраўніцтвам праф. Міхася Дрынеўскага. Вечарам хор даў канцэрт у Доме культуры ў Нараўцы.

22.02. Хор імя Г. Цітовіча пасля набажэнства даў канцэрт у Святадухаўскай царкве, што па вуліцы Антанюкоўскай у Беластоку. А 17-ай гадзіне ў спартыўнай зале клуба «Влукняж» у Беластоку адбыўся гала-канцэрт V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98», арганізаванага пад ганаровым патранатам пасла ў Сейм Рэчыпаспалітай Уладзімежа Цімашэвіча. Выступіла ў ім 28 найлепшых выканаўцаў цэнтральнага агляду, а таксама хор імя Г. Цітовіча з Беларусі. Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі, адкрываючы гала-канцэрт, прывітаў гасцей, якімі былі: паслы ў Сейм Рэчыпаспалітай У. Цімашэвіч і С. Плева, пасол РБ у Польшчы В. Бурскі, генеральны консул РБ у Беластоку М. Крэчка, віцэ-консул П. Латушка, начальнік аддзела ў Міністэрстве культуры РБ Т. Стружэцкі, начальнік аддзела ў Міністэрстве адукацыі Г. Пяцігор, віцэ-ваявода гродзенскі М. Бірукова і дырэктар аддзела культуры Гродзенскага аблвыканкама Л. Кадзевіч, дырэктар аддзела культуры ваяводскай управы ў Беластоку К. Дэркоўскі, галоўны рэдактар Польскага радыё ў Беластоку Е. Мушынскі, дырэктар Беластоцкага тэлебачання К. Пуцілоўскі.

Старшыня ГП Я. Сычэўскі зачытаў ліст ад імя прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага да арганізатараў гала-канцэрта V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98».

Выканаўцаў звышпрохгадзіннага канцэрта беластоцкая трохтысячная публіка прымала бурнымі апладысментамі. З вялікай увагай выслухала таксама У. Цімашэвіча і іншых прамоўцаў.

24.02. У пачатковай школе ў Кляшчэлях адбыўся цэнтральны агляд тэатральных калектываў пачатковых школ. Прыняло ў ім удзел 15 калектываў, у тым ліку адзін лялечны тэатр і 14 тэатраў жывога плана. Конкурсная камісія, якая працавала ў складзе: Тамара Русачык — старшыня, Валянціна Дзмітрук і Янка Целушэцкі — члены, прызначала наступныя месцы:

I месца калектыву з пачатковай школы ў Чыжах;
II — калектыву школы № 3 у Бельску Падляшскім;
— калектыву школы ў Кляшчэлях;
— калектыву Бельскага дома культуры;
III — калектыву школы ў Дубінах;
— калектыву школы ў Старым Корніне;
— калектыву школы ў Махнатым.

27.02. У ваяводскай управе ў Беластоку адбылася сустрэча міністра аховы асяроддзя з ваяводам беластоцкім, прэзідэнтам горада Беластока і пасламі зямлі беластоцкай у Сейм РП. Прысутнічаў Я. Сычэўскі.

28.02. 20-годдзе сваёй дзейнасці святкаваў калектыў «Цаглінкі» з Ляўкова Старога. Вечар юбіляраў узбагацілі калектывы: «Чыжавяне» з Чыжоў, «Лучына» і фальклорны калектыў з Нараўкі. Сярод гасцей, якіх вітаў на ўрачыстым канцэрце войт гміны Нараўка Мікалай Павільч, былі,



SZEF KANCELARII
PREZYDENTA RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ
DANUTA HÜBNER

**Zarząd Główny**
**Białoruskiego Towarzystwa**
**Społeczno-Kulturalnego**

**ul. Warszawska 11**
**15 062 Białystok**

*Warszawa, 20 lutego 1998 roku*

***Szanowni Państwo,***

*W imieniu Pana Prezydenta Rzeczypospolitej Polskiej Aleksandra Kwaśniewskiego serdecznie dziękuję za zaproszenie Głowy Państwa na*

***koncert galowy V Ogólnopolskiego Festiwalu „ Piosenka Białoruska '98"***
*pod honorowym patronatem Pana Włodzimierza Cimoszewicza.*

*Niestety, bardzo napięty kalendarz zajęć Pana Prezydenta uniemożliwia Mu skorzystanie z tego miłego zaproszenia. Pan Prezydent za moim pośrednictwem wyraża żal, że tym razem nie będzie mógł odwiedzić Białegostoku, przekazuje jednak organizatorom, którzy podjęli i zrealizowali tę wspaniałą inicjatywę, słowa wielkiego uznania i serdeczne życzenia wielu dalszych osiągnięć i pomyślności w prowadzonej przez nich pracy. Proszę przekazać gratulacje i najlepsze życzenia wszystkim uczestnikom Festiwalu. Szczególnie gorące życzenia kieruję do laureatów konkursu. Pragnę też w imieniu Pana Prezydenta serdecznie pozdrowić Państwowy Chór im. G. Citowicza z Mińska - taka wymiana artystów i wspólne przeżycia artystyczne to najlepsza droga do wzajemnego poznawania się i współpracy.*

*Raz jeszcze wszystkim uczestnikom koncertu , wykonawcom, słuchaczom i organizatorom, przesyłam w imieniu Pana Prezydenta oraz własnym życzenia wspaniałych doznań artystycznych i pomyślności w nowym 1998 roku.*

***Z wyrazami prawdziwego szacunku***

Danuta Hübner



Калектыў «Цаглінкі» з Ляўкова Старога. *Фота С. Грынявіцкага.*

між іншым, паслы ў Сейм Рэчыпаспалітай С. Плева і Я. Сычэўскі, а пасла У. Цімашэвіча рэпрэзентаваў А. Вакулюк, генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Крэчка і віцэ-консул П. Латушка, прадстаўнік Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасновіч, дырэктар аддзела культуры ваяводскай управы ў Беластоку К. Дэркоўскі, дырэктар ВОАК у Беластоку А. Дырдал, журналісты прэсы, радыё і тэлебачання.

Былі таксама «хросныя» — ганаровыя апекуны Гэлена Мелешко і Аляксандр Бандарук. Юбіляры атрымалі кветкі, пажаданні і сувеніры.

12.03. У памяшканнях ГП БГКТ адбылося пасяджэнне камісіі па культуры БГКТ з удзелам дырэктараў дамоў і асяродкаў культуры. Было яно прысвечана: ацэнцы V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98», прыняццю плана мерапрыемстваў на 1998 г.

13.03. У БГКТ была праведзена прэс-канферэнцыя, якую арганізавала Таварыства пабудовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны, забітым, замардаваным і загінуўшым у 1939—1956 гадах.

 

14.03. Прэзідыум ГП БГКТ меў сваё пасяджэнне, на якім займаліся наступнымі справамі:

— ацэнкай мерапрыемстваў, арганізаваных БГКТ у 1998 г., асабліва V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98»;

— рэкрутацыяй кандыдатаў у ВНУ ў Рэспубліку Беларусь;

— справамі Беларускага музея ў Гайнаўцы.

26.03. У Доме культуры ў Бельску Падляшскім праходзіў цэнтральны агляд конкурсу «Сцэнічнае слова» для моладзі сярэдніх школ і дарослых. Прынялі ў ім удзел 3 калектывы і 25 індывідуальных выканаўцаў. Конкурсная камісія, якая працавала ў складзе Тамары Русачык (старшыня), Яніны Плютовіч і Янкі Целушэцкага (члены), прызнала наступныя месцы:

У катэгорыі рэцытацый:

— І месца — Юліта Адамюк з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і Анна Шымчук з Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім;

— ІІ месца — Агнешка Дэмбоўская і Моніка Самойлік з Бельска Падляшскага;

— ІІІ месца — Ілёна Карпюк з Гайнаўкі, Дарота Кулачэўская і Гэлена Сідэвіч з Бельска Падляшскага.

У катэгорыі малых тэатральных форм:

два другія месцы прысуджаны тэатральным групам з беларускіх ліцэяў у Бельску Падляшскім і Гайнаўцы;

ІІІ месца — тэатральнай групе з Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім.

27.03. У Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылося пасяджэнне праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ з удзелам старшыні ГП Я. Сычэўскага і сакратара В. Ласкевіч. Абмяркоўваліся справы ўнутрыарганізацыйныя, суадносін паміж аддзеламі і ГП БГКТ, арганізацыі мерапрыемстваў і іншыя.

30.03. Старшыня ГП сустрэўся з рэктарам універсітэта ў Беластоку па справах студэнтаў юрыдычных факультэтаў ВНУ Рэспублікі Беларусь, якія зацікаўлены працягам вучобы ў Беластоку.

31.03. У пасольстве Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ з паслом Рэспублікі Беларусь Віктарам Бурскім. Абмяркоўваліся справы супрацоўніцтва БГКТ з РБ у галіне культуры, асветы і навукі.

4.04. У Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылося пасяджэнне навуковага гуртка, створанага пры БГКТ. Старшынёю гуртка з'яўляецца У. Юзвюк. Разглядаліся справы сцэнарыя этнаграфічнай часткі музея.

6.04. Старшыня і сакратар ГП сустрэліся з войтам гміны Белавежа і дырэктарам мясцовага асяродка культуры па справах арганізацыі беларускага свята Купалля, запланаванага на 4 ліпеня 1998 г.



1.05. У гайнаўскім амфітэатры адбыліся «Гайнаўскія сустрэчы моладзі Еўропы» (Швецыя і Беларусь), у якіх прыняў удзел старшыня ГП.

5.05. Сеймавая камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцей на пасяджэнні ў Варшаве абмяркоўвала праграму выязнога пасяджэння на Беласточчыне, якое па прапанове пасла Я. Сычэўскага запланавана на чэрвень 1998 г.

7.05. Польска-беларуская міжпарламенцкая група, намеснікам старшыні якой з'яўляецца Я. Сычэўскі, сустрэлася з паслом РБ у Варшаве Віктарам Бурскім. Тэмай сустрэчы былі грамадска-палітычныя і эканамічныя праблемы беларускай дзяржавы.

25.04. У Сямяцічах адбылася сустрэча з актывам Сямяціцкага аддзела БГКТ. У ёй прынялі ўдзел: старшыня ГП БГКТ, пасол у Сейм РП Я. Сычэўскі, пасол С. Плева і сакратар ГП БГКТ В. Ласкевіч. Аналізаваліся справы дзейнасці БГКТ у Сямяціцкім раёне, а таксама справы ўдзелу БГКТ у самаўрадавых выбарах.

30.04. У Варшаве адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Таварыства народаў Сярэдне-Усходняй Еўропы «Збліжэнне», на якім прысутнічалі: старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і сакратар В. Ласкевіч. На пасяджэнні разглядаліся справы дзейнасці таварыства «Збліжэнне», а таксама падрыхтоўка да міжнароднай канферэнцыі «Да супольнай будучыні», якая запланавана 30.05—2.06.98 у Гайнаўцы і Белавежы і будзе прысвечана справам беларускай нацыянальнай меншасці. Пасля пленарнага пасяджэння адбылася сустрэча з Гэленай Анішэўскай, аўтарам кніжкі «Смак жыцця».

10.05. Агляд абрадавых калектываў праходзіў у Ласінцы, гм. Нараў. Мерапрыемства гэтае ўжо пяць гадоў БГКТ наладжвае супольна з Нараўянскім асяродкам культуры. Выступіла 5 абрадавых калектываў: дзіцячы з Бельскага дома культуры, з Маліннікаў, Збуча, Краснага Сяла і Козлікаў. Усе ўдзельнікі атрымалі ўзнагароды. У мерапрыемстве прынялі ўдзел паслы С. Плева і Я. Сычэўскі.

11.05. У Варшаўскім універсітэце адбылася міжнародная канферэнцыя, прысвечаная праблемам неталерантнасці і ксенафобіі ў Польшчы. Яе арганізавалі: Еўрапейская камісія супраць расізму і неталерантнасці Рады Еўропы і Асяродак інфармацыі і дакументацыі Рады Еўропы ў Варшаве. У канферэнцыі прынялі ўдзел Я. Сычэўскі, В. Ласкевіч і прадстаўнікі іншых нацыянальных меншасцей.

16.05. У БГКТ адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення з удзелам Галоўнай рэвізійнай камісіі, тэмай яго было:

— прыняцце тэксту пастановы XIII з'езда БГКТ;

— інфармацыя аб бягучай дзейнасці БГКТ і прыняцце плана працы да канца 1998 г.;

— справы самаўрадавых выбараў.



 



Дажынкавы абрад «Збучанак» на аглядзе ў Ласінцы.
*Фота С. Грынявіцкага.*

18.05. На сустрэчы старшыні ГП БГКТ Я. Сычэўскага і сакратара В. Ласкевіч з праф. М. Кандрацюком абмяркоўваліся справы арганізацыі міжнароднай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці», запланаванай Галоўным праўленнем БГКТ і Саюзам палякаў у Беларусі на 18—20 верасня 1998 года, якая будзе праходзіць пад навуковым патранатам (з польскага боку) Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку.

20.05. Сакратар ГП БГКТ В. Ласкевіч прыняла ўдзел у пасяджэнні гміннай управы ў Боцьках, на якім разглядаліся, між іншым, справы арганізацыі беларускага народнага фестыну ў Красным Сяле.

22.05. Я. Сычэўскі і В. Ласкевіч па запрашэнні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прымалі ўдзел ў II рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур, які праходзіў 22—24 мая 1998 г. у Гродне. Удзел у канцэртах прыняў калектыў «Маланка» з Бельска Падляшскага.

23.05. Урачыстым канцэртам адзначаўся юбілей (20-годдзе) аматарскага калектыву «Журавінкі» з Агароднічак. Валянціна Ласкевіч, якая вяла канцэрт, ад імя юбіляраў прывітала дастойных гасцей: епіскапа супрасльскага Якава, ігумена Ігнацыя, старшыню ГП БГКТ, пасла ў Сейм РП Я. Сычэўскага, нам. дырэктара ВОАК Барбару Пахольскую, сакратара гарадской і гміннай управы ў Супраслі Барбару Пекарскую, журналістаў радыё і тэлебачання.



Гасцінна прыняў у канцэрце удзел таксама хор БГКТ з Беластока. Разам з віншаваннямі юбіляры атрымоўвалі кветкі, сувеніры і новыя касцюмы, якія прэзентавала Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

24.05. У гмінным асяродку культуры ў Нараўцы адбыўся цэнтральны агляд конкурсу «Беларуская песня-98» для вучняў пачатковых школ. Прыняло ў ім удзел 25 выканаўчых адзінак. Конкурсная камісія, якая працавала ў складзе Алі Дубэц (старшыня), Віктара Маланчыка і Мікалая Мяжэнны (члены), прызнала найлепшыя месцы:

Гран-пры — калектыву з Гарадка, а першыя месцы — Марце Бабулевіч з Бельска Падляшскага, Анне Сухадола з Нараўкі, дуэту Анна Сухадола— Анна Каральчук з Нараўкі, калектыву «Лісічкі» з Ласінкі, вакальна-інструментальнаму калектыву з гміннага асяродка культуры ў Чаромсе.

Пасля ў амфітэатры ў Нараўцы распачаўся беларускі народны фестын, які арганізавала ГП БГКТ разам з гміннай самаўправай у Нараўцы. У канцэрце выступілі лаўрэаты школьнага конкурсу «Беларуская песня-98», а таксама калектывы: «Цаглінкі» з Ляўкова Старога, «Рэчанька» з Козлікаў, «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў, калектыў з Нараўкі і эстрадны калектыў «Капры» з Беластока. Прысутнічала каля тысячы гледачоў.

Гасцямі фестыну былі: генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Крэчка і віцэ-консул П. Латушка, паслы ў Сейм РП С. Плева і Я. Сычэўскі, прадстаўнік пасла У. Цімашэвіча — А. Вакулюк.

29.05. Пасол Я. Сычэўскі сустрэўся з жыхарамі Бельска Падляшскага. Ставіліся там, між іншым, справы беларускага школьніцтва ў планаванай рэформе асветы, удзел беларусаў у самаўрадавых выбарах, падрыхтоўка да прыезду на Беласточчыну Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей. У сустрэчы прымала ўдзел В. Ласкевіч.

30.05. У Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы пачалася міжнародная канферэнцыя «Да супольнай будучыні», прысвечаная перад усім справам беларускай меншасці ў Польшчы. Прынялі ў ёй удзел, апрача прадстаўнікоў беларускага асяроддзя Польшчы, прадстаўнікі Саюза палякаў на Беларусі, бургамістр г. Гайнаўка, прадстаўнікі гмін з усходняй Беласточчыны, а таксама госці: саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве У. Каральчук, генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Крэчка і віцэ-консул П. Латушка. ГП БГКТ прадстаўлялі Я. Сычэўскі і В. Ласкевіч.

31.05. Беларускі народны фестын адбыўся ў Красным Сяле. Яго арганізатарамі былі: гмінная ўправа ў Боцьках і калектыў «Красуні» з Краснага Сяла. У канцэрце выступілі: хор БГКТ з Беластока, «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў, эстрадны калектыў «Капры» з Беластока, «Арляне» з

Орлі, фальклорныя калектывы з Маліннікаў і з Краснага Сяла. Сваю кніжку падпісваў Міхась Хмялеўскі.

Прыбыло каля 300 асоб.

З удзелам гэтых самых калектываў адбыўся фестын у вёсцы Грэдэлі ў Арлянскай гміне, у арганізацыі якога дапамаглі: гмінны асяродак культуры ў Орлі і солтыс вёскі Грэдэлі. У фестыне прынялі ўдзел госці: генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Крэчка, віцэ-консул П. Латушка, паслы С. Плева і Я. Сычэўскі. У фестыне ўдзельнічала каля 350 асоб.

6.06. Чарговы беларускі народны фестын БГКТ арганізаваны разам з Дуброўскім асяродкам культуры пры дапамозе гарадской управы ў Дуброве Беластоцкай. Праходзіў ён у рамках Дзён Дубровы Беластоцкай. У канцэрце выступілі: дзіцячы калектыў «Гародзенскія дударыкі», «Гарадніца», салісты Святлана Сколыш і Сяргей Мазур з Гродна і калектывы «АС» і «Прымакі» з Беластока. Прысутнічала больш за тысячу гледачоў.

У гэты ж дзень адбыўся таксама беларускі фестын у Саколцы. Бургамістр горада Саколка Станіслаў Казлоўскі, адкрываючы разам са старшынёю ГП БГКТ Янкам Сычэўскім фестын, падкрэсліў, што гэта вялікае свята для ўсіх жыхароў горада і гэтую добрую традыцыю трэба падтрымліваць у будучым. Прывіталі яны гасцей: пасла ў Сейм РП С. Плеву, генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Крэчку і віцэ-консула П. Латушку, выканаўцаў, а таксама ўсіх сімпатыкаў беларускай песні, якіх прыбыло каля 3 тысяч. У канцэрце выступілі: дзіцячы калектыў «Гародзенскія дударыкі», «Гарадніца», салісты Святлана Сколыш і Сяргей Мазур з Гродна, эстрадныя калектывы «АС» і «Прымакі» з Беластока і «Турысці» з Саколкі. Дзякуючы вялікаму заангажаванню старшыні Сакольскага аддзела БГКТ Сяргея Крышэня і дапамозе гарадской управы і асяродка культуры ў Саколцы, фестын быў вельмі добра падрыхтаваны і стаў вялікай культурнай падзеяй на Сакольшчыне.

7.06. Упершыню беларускі народны фестын адбыўся ў Нурцы-станцыі. У яго арганізацыі дапамаглі: мясцовы Дом культуры, асабліва дырэктар Яўгенія Раманюк і гмінная ўправа ў Нурцы-станцыі. Публіка, якой было каля 800 асоб, вельмі добра ўспрымала выканаўцаў: калектыў з Маліннікаў, «Арлян» з Орлі, «Цаглінкі» з Ляўкова Старога, «Красуняў» з Краснага Сяла, эстрадныя калектывы «АС» і «Прымакі» з Беластока, а таксама гасцей — «Гародзенскіх дударыкаў», «Гарадніцу», саліcтаў С. Сколыш і С. Мазура з Гродна. Сваю кніжку падпісваў Міхась Хмялеўскі, а саламяныя вырабы прэзентаваў мастак Уладзімір Цэтра з вёскі Кашэлі. Гасцямі фестыну былі: пасол С. Плева, генеральны консул М. Крэчка і віцэ-консул П. Латушка.

Усе калектывы і госці з Нурца-станцыі пераехалі ў сямяціцкі амфітэатр. «Сустрэча з беларускай культурай» — пад такім лозунгам праходзіў беларускі дзень, які БГКТ і Сямяціцкі асяродак культуры арганізавалі ў рамках Дзён Сямяціч. І сапраўды, арганізатары паклапаціліся пра гэта. На ўпрыгожанай беларускім арнаментам сцэне прэзентаваліся не толькі калектывы з песняй. Калектыў з Маліннікаў паказаў абрад вяселля, быў кірмаш з беларускімі выдавецтвамі, магнітафоннымі касетамі і народнымі вырабамі. Усім гэтым захаплялася каля 3 тысяч чалавек, жыхароў Сямяціч і навакольных вёсак.



6—7.06. Хор гарадскога аддзела БГКТ з Беластока выязджаў у Гродна, дзе выступаў у якасці госця на I рэспубліканскім фестывалі «Беларусь — мая песня».

8.06. Вялікае свята было ў вёсцы Войшкі, што ў гміне Юхновец, — беларускі народны фестын, спалучаны з адкрыццём пажарніцкай рэмізы (будынка). Малітвай, якую адслужыў у рэмізе і якую асвяціў настаяцель рыбалаўскага прыхода а. Рыгор Сасна, распачалася ўрачыстасць. Цікавы быў канцэрт, у якім выступілі: калектывы «Гародзенскія дударыкі», «Гарадніца», салісты С. Сколыш і С. Мазур з Гродна, «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў і эстрадны калектыў «Капры» з Беластока. Такое беларускае свята ў Войшках было праведзена ўпершыню, таму ўдзельнічалі ў ім амаль усе жыхары вёскі, прыбыло многа людзей і з вёсак навакольных. Вельмі вялікі ўклад у падрыхтоўку фестыну ўнёс солтыс вёскі Ян Бручко, які ўключыў у працу таксама і іншых яе жыхароў.

10.06. У Нарве адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ Я. Сычэўскага, пасла С. Плевы і сакратара ГП В. Ласкевіч з войтам гміны Нараў Я. Іванюком і дырэктарам ГОК І. Шастай па справе арганізацыі беларускіх фестынаў у Нарве і ў Ласінцы, а таксама прыезду Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей. Гэтыя справы абмяркоўваліся потым з дырэктарам пачатковай школы ў Ласінцы.

13.06. Па запрашэнні ГП БГКТ з канцэртамі на Беласточчыну прыехаў калектыў «Юрацішкаўскі кірмаш» з Юрацішак Іўеўскага раёна, што на Беларусі. 13.06. выступіў ён у Нараўцы на мерапрыемстве пад назвай «У пошуках фальклору».

14.06. Беларускія народныя фестыны адбыліся ў Нарве і Плюцічах.

У Нарве выступілі: дзіцячы калектыў «Лісічкі» з Ласінкі, танцавальны з ГОК, калектывы «Пронар» з Нарвы, «АС», «Капры» і «Прымакі» з Беластока і «Юрацішкаўскі кірмаш» з Беларусі. Свае кніжкі падпісвалі: В. Швед і М. Хмялеўскі. На фестын прыйшло каля 800 асоб.

У вёсцы Плюцічы Бельскай гміны фестын праходзіў у незвычайных умовах. Ліўневы дождж заліў узмацняльную апаратуру. Нягледзячы на гэта, амаль усе плюцічане прыйшлі, каб паслухаць беларускую песню ў выкананні калектываў: «Цаглінкі» з Ляўкова Старога, эстрадных калек-



Дзіцячы калектыў Бельскага дома культуры на аглядзе ў Ласінцы. 1998 г.
*Фота С. Грынявіцкага.*

тываў «АС», «Прымакі» і «Капры» з Беластока і гасцей — «Юрацішкаўскі кірмаш» з Беларусі. Солтыс вёскі Оля Іванюк, якая арганізавала для дапамогі моладзь, вельмі перажывала з-за непагоды, але публіка і так была вельмі задаволена. У арганізацыі фестыну вялікую дапамогу аказаў дзеяч БГКТ з Бельска Падляшскага Анатоль Навіцкі.

15.06. У ГП БГКТ адбылася прэс-канферэнцыя, якую склікаў старшыня ГП, пасол Я. Сычэўскі ў сувязі з прыездам на Беласточчыну Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей. Прыняў у ёй удзел таксама пасол С. Плева.

19.06. На Беласточчыну, па ініцыятыве пасла Я. Сычэўскага, прыехала Сеймавая камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцей пад старшынствам пасла Яцка Кураня. У складзе дэлегацыі былі таксама: Ежы Завіша — віцэ-дырэктар Дэпартамента культуры нацыянальных меншасцей у Міністэрстве культуры і мастацтва, Гражына Плошайска з Міністэрства адукацыі і Тадэвуш Гонсероўскі з Міністэрства унутраных спраў. Мэтай прыезду было азнаямленне з праблемамі нацыянальных



меншасцей на Беласточчыне, а асабліва меншасці беларускай. Камісія наведала пачатковыя школы ў Ласінцы, Навасадах і Дубінах, дзе навучанне дзяцей праходзіць у вельмі цяжкіх умовах і дзе ёсць неабходныя патрэбы пабудовы новых школ.

Затым у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы камісія сустрэлася з прадстаўнікамі беларускага асяроддзя з удзелам улад горада Гайнаўка і войтаў гмін усходняй Беласточчыны. Разглядаліся праблемы, якія датычаць беларускай асветы і культуры, а таксама справы пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, які камісія таксама наведвала.

20.06. Сеймавая камісія наведала Бельск Падляшскі. У Беларускім ліцэі сустрэлася з прадстаўнікамі беларускага і ўкраінскага асяроддзяў. Разглядаліся перш-наперш справы асветы. Камісія пабывала таксама ў Супрасльскім манастыры, дзе сустрэлася з епіскапам Якавам і прадстаўнікамі праваслаўнага асяроддзя. Гаварылася шмат пра складанасці жыцця і праблемы гэтага асяроддзя.

21.06. У ваяводскай управе ў Беластоку адбылася сустрэча камісіі з прадстаўнікамі беларускіх і ўкраінскіх арганізацый. Прыняла ў ёй таксама ўдзел міністр культуры і мастацтва Ёанна Внук-Назарова. На жаль, не прыбылі на сустрэчу ні ваявода беластоцкі, ні прэзідэнт горада Беластока, што выклікала вялікае незадавальненне як з боку камісіі, так і з боку прадстаўнікоў меншасных арганізацый.

— У 15 гадзін у беластоцкім амфітэатры распачалося Свята беларускай культуры. Старшыня ГП БГКТ, адкрываючы ўрачыстасць, выказаў вялікае задавальненне прысутнасцю дастойных гасцей, якімі былі: міністр культуры і мастацтва Ёанна Внук-Назарова, члены Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей з яе старшынёю Яцкам Куранем, віцэ-дырэктар Дэпартамента культуры па справах нацыянальных меншасцей у Міністэрстве культуры і мастацтва Ежы Завіша, з Міністэрства адукацыі — Гражына Плошайска, Тадэвуш Гонсероўскі з Міністэрства унутраных спраў, прадстаўнікі ўлад Рэспублікі Беларусь — генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве Уладзімір Каральчук, віцэ-консул Павел Латушка, начальнік Упраўлення ўстаноў культуры пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуш Стружэцкі, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Браніслаў Дашкевіч і Генадзь Пяцігор, віцэ-ваявода гродзенскі Марыя Бірукова і дырэктар аддзела культуры ваяводскай управы Людміла Кадзевіч, дырэктар Беластоцкага тэлебачання Казімеж Пуцілоўскі, прадстаўнікі прэсы, радыё і тэлебачання. Старшыня ГП сардэчна прывітаў выканаўцаў і мастакоў з Беласточчыны і Беларусі, а таксама ўсіх, хто прыбыў на свята.

Міністр культуры і мастацтва Ёанна Внук-Назарова, выступаючы са



Фінальнае выступленне самадзейнікаў на Свяце беларускай культуры-98.
*Фота С. Грынявіцкага.*

сцэны ў час адкрыцця, з прыхільнасцю аднеслася да спраў культуры нацыянальных меншасцей, якія прыўносяць вялікае багацце, выказала разуменне іх патрэб.

У багатым і разнастайным канцэрце выступілі калектывы дзіцячыя, маладзёжныя і дарослых, фальклорныя і сучасныя з Беласточчыны і з Рэспублікі Беларусь, а былі гэта: «Чарамшына» — дзіцячы фальклорны калектыў з Чаромхі, «Цаглінкі» з Ляўкова Старога, «Збучанкі» са Збуча, дзіцячы калектыў «Лісічкі» з Ласінкі, «Рэчанька» з Козлікаў, хор Гайнаўскага дома культуры, дзіцячы калектыў з Гарадка, «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў, «Арэшкі» з Арэшкава, «Чыжавяне» з Чыжоў, дзіцячы калектыў «Душкі з пушкі» і фальклорны калектыў з Нараўкі, «Журавінкі» з Агароднічак, фальклорны калектыў з Маліннікаў, «Арляне» з Орлі, эстрадныя калектывы «АС», «Прымакі» і «Капры», хор БГКТ, «Каласкі»,





салістка Аля Дубэц з Беластока, а таксама госці з Рэспублікі Беларусь — дзіцячы калектыў «Гулянок» са Смаргоні і «Неруш» з Мінска. Свята беларускай культуры ўзбагацілі народныя мастакі з Беласточчыны: Уладзімір Наўмюк з Канюкаў, Уладзімір Цэтра з Кашэлёў. Вышыўкі прэзентавалі Анна Пісанка з Беластока і Люба Гаўрылюк з Козлікаў, а таксама мастакі з Гродна і Мінска (Беларусь). Цэнтр кніжкі і прэсы славянскіх народаў з Варшавы, якім кіруе Янка Заброцкі, арганізаваў багаты кірмаш кніжкі і прэсы. Свае кніжкі падпісвалі: Мікола Гайдук, праф. Б. Бялокозовіч, Віктар Швед, Гэлена Анішэўская, Янка Целушэцкі, Васіль Петручук.

Свята беларускай культуры падрыхтавана было вельмі багата, на жаль, дождж, які ішоў цэлы дзень, не дазволіў поўнасцю паказаць багацце беларускай культуры. Але факт, што ў такое дрэннае надвор'е ў беластоцкі амфітэатр прыйшло больш за тысячу гледачоў, якія з вялікай радасцю і цеплынёю прымалі выканаўцаў, ёсць доказ таго, што гэтакія святы ў Беластоку вельмі патрэбныя.



Калектыў «Рэчанька» з Козлікаў. *Фота С. Грынявіцкага.*

23.06. У гмінным асяродку культуры ў Белавежы адбылася чарговая сустрэча па справе падрыхтоўкі да Купалля. Канчаткова абмеркаваліся ўсе арганізацыйныя справы.

30.06. У будынку ГП БГКТ адбылося пленарнае пасяджэнне гарадскога і раённага аддзелаў БГКТ. Разглядаліся справы бягучай дзейнасці БГКТ і ўдзелу нашай арганізацыі ў самаўрадавых выбарах.

1.07. Адбылося пасяджэнне Ваяводскага выбарчага камітэта СЛД. Распачалася падрыхтоўка да выбараў у самаўправы. Прысутнічала на пасяджэнні В. Ласкевіч.

4.07. У Белавежы было праведзена беларускае свята «Купалле». Карагод каля 400 выканаўцаў з песняй «Купалінка» прайшоў вуліцамі Белавежы ад прыпынку Белавежа—Палац у новапабудаваны амфітэатр, дзе іх чакала больш як 8-тысячная публіка. Вітаючы гасцей, выканаўцаў і ўсіх, хто прыбыў на цудоўнае свята «Купалле», старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і войт гміны Белавежа Станіслаў Куяўяк пажадалі добрай забавы і кветкі папараці кожнаму, хто будзе яе шукаць.



Са сцэны амфітэатра, упрыгожанага дзесяткамі разнастайных вянкоў, панесліся купальскія песні па ўсёй Белавежы і яе ваколіцах. А было што паслухаць! У канцэрце выступілі: хор «Васілёчкі» з Бельска Падляшскага, маладзёжны калектыў з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, «Арляне» з Орлі, маладзёжны калектыў з Белавежы, «Чыжавяне» з Чыжоў, «Маланка» з Бельска Падляшскага, «Красуні» з Краснага Сяла, «Арэшкі» з Арэшкава, «Незабудкі» з Курашэва, «Цаглінкі» з Ляўкова Старога, «Журавінкі» з Агароднічак, фальклорныя калектывы з Маліннікаў і Нараўкі, хор Гайнаўскага дома культуры, эстрадныя калектывы «АС», «Прымакі», «Капры», хор БГКТ, Аля Дубэц і маладзёжны калектыў «Каласкі» з Беластока і калектывы з Рэспублікі Беларусь; народны гурт з вёскі Бакуны, вакальныя гурты з Мокрага і Клепачоў Пружанскага раёна і калектыў «Матуліна песня» з Жытомлі Гродзенскага раёна.

Пасля 3-гадзіннага канцэрта зноў па Белавежскай пушчы разносілася рэха песні «Купалінка», а дзесяткі купальскіх вянкоў паплылі рэчкай Нараўкай. Але на гэтым не закончылася белавежскае «Купалле». Дзесяткі вогнішчаў загарэліся ва ўрочышчы Старая Белавежа. Свята прадаўжалася да самай раніцы.

8.07. У пачатковай школе ў Ласінцы адбылася сустрэча па справе арганізацыі беларускага народнага фестыну. У сустрэчы прынялі ўдзел: паслы ў Сейм С. Плева і Я. Сычэўскі, сакратар ГП БГКТ В. Ласкевіч, войт гміны Нараў Ян Іванюк, дырэктар ГОК Ірэна Шастай, дырэктар школы ў Ласінцы Вера Дудзіч.

— У памяшканнях ГП БГКТ адбылося чарговае пасяджэнне Таварыства пабудовы Помніка жыхарам Беласточчыны, забітым, замардаваным, замучаным і загінуўшым у 1939—1956 гадах.

9.07. У Варшаве адбылося пасяджэнне Краёвага выбарчага камітэта СЛД. Падпісана пагадненне аб скліканні кааліцыі. У пасяджэнні прыняў удзел старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі.

12.07. У 13 гадзін распачаўся беларускі народны фестын у Ласінцы, арганізаваны пад патранатам пасла ў Сейм С. Плевы пры непасрэдным заангажаванні ГП БГКТ, гміннай управы ў Нарве, а таксама дырэктара і настаўнікаў са школы ў Ласінцы.

У канцэрце выступілі: дзіцячы калектыў «Лісічкі» з Ласінкі, дзіцячы танцавальны калектыў з асяродка культуры ў Нарве, «Тыневічанкі» з Тыневіч, хор БГКТ, эстрадныя калектывы «Капры» і «АС» з Беластока, а таксама калектыў «Медуніцы» са Шчучына, што на Беларусі.

У час фестыну прадаваліся магнітафонныя касеты, а свае кніжкі падпісвалі Міхась Хмялеўскі і Віктар Швед.

Гасцямі фестыну былі: паслы ў Сейм РП С. Плева і Я. Сычэўскі, а таксама кіраўніцтва страхавога прадпрыемства «Поліс» з Беластока.



Беларускі фестын у Гарадку. 1998. *Фота С. Грынявіцкага.*

Нягледзячы на дрэннае надвор'е, на фестыне прысутнічала каля 500 асоб.

З удзелам калектыву з Белавежы і тых жа калектываў і гасцей праходзіў беларускі народны фестын у Дубічах Царкоўных каля заліва «Бахматы». Арганізавалі яго БГКТ, гмінная ўправа і гмінны асяродак культуры ў Дубічах Царкоўных. Такое мерапрыемства арганізавана было тут упершыню, таму выклікала вялікае зацікаўленне з боку публікі. І тут перашкаджаў дождж і вецер, але на фестын прыбыло больш за 600 асоб.

Фестыны адкрывалі: старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і войты гмін — Ян Іванюк у Нарве, Анатоль Паўлоўскі ў Дубічах Царкоўных. Вяла фестыны В. Ласкевіч.

16.07. Старшыня ГП БГКТ, пасол Я. Сычэўскі даў інтэрв'ю журналісту «Газеты Выборчай» Войцеху Мазярскаму. У газеце быў надрукаваны 5—6.09.1998 г. абшырны артыкул пра беларусаў, якія пражываюць на Беласточчыне.

19.07. Былі арганізаваны 2 беларускія народныя фестыны ў амфітэатры ў Гайнаўцы. Перад звыщдвухтысячнай публікай ў канцэрце





Гледачы фестыну БГКТ у Бельску. 1998. *Фота С. Грынявіцкага.*

выступілі: хор ГДК, «Васілёчкі» з Бельска Падляшскага, «Чыжавяне» з Чыжоў, «Незабудкі» з Курашэва, «Збучанкі» са Збуча, фальклорны калектыў з Нараўкі, «Расспяваны Гарадок», эстрадны калектыў «Капры» з Беластока і калектыў «Радуйся» з Мінска.

Удзельнікі фестыну мелі нагоду купіць магнітафонныя касеты, кніжкі з аўтографамі Віктара Шведа і Янкі Целушэцкага. Кніжны кірмаш арганізаваў дырэктар Цэнтра славянскай кнігі з Варшавы Янка Заброцкі.

Арганізатарамі фестыну былі БГКТ і гарадская ўправа ў Гайнаўцы.

— Адбыўся фестын у Борыку каля Гарадка. Сюды на канцэрт прыехалі калектывы: «Хлопцы-рыбалоўцы», «Васілёчкі», «Чыжавяне», «Есенны лісьць», «Расспяваны Гарадок», «Капры» і «Радуйся». Прысутнічала каля 1000 асоб. На фестыне прадаваліся магнітафонныя касеты, а свае кніжкі і тут падпісвалі В. Швед і Я. Целушэцкі.

Гасцямі фестынаў былі: пасол С. Плева, кіраўніцтва «Поліса», а ў Гарадку таксама віцэ-консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку — Павел Латушка.

5. Зак. 5488.



Беларускі фестын БГКТ у Чаромсе. 1998.
У цэнтры — старшыня Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Яцэк Курань. *Фота Т. Кердалевіч.*

26.07. — традыцыяй сталі ўжо беларускія фестыны ў Міхалове. У міхалоўскім парку быў арганізаваны канцэрт, у якім прынялі ўдзел: хор БГКТ, эстрадны калектыў «Капры» і «Каласкі» з Беластока, «Рэчанька» з Козлікаў і «Рассяпаны Гарадок».

Сярод запрошаных гасцей былі: генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, віцэ-консул Павел Латушка, пасол у Сейм С. Плева і кіраўніцтва «Поліса».

Кніжкі свае падпісваў Віктар Швед. Арганізатарамі фестыну былі: ГП БГКТ, гмінная ўправа і гмінны асяродак культуры ў Міхалове.

— З Міхалова ўсе калектывы і госці пераехалі ў Заблудаў, дзе ўпершыню ГП БГКТ і мясцовы асяродак культуры арганізавалі беларускі народны фестын. Публіка, якой было больш як 500 асоб, вельмі сардэчна прымала выканаўцаў. Дырэктар асяродка культуры Яцэк Люлевіч і яго працаўнікі вельмі актыўна ўключыліся ў арганізацыю фестыну і супольна



дайшлі да вываду, што такое мерапрыемства ў Заблудаве вельмі патрэбнае.

30.07. Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і сакратар В. Ласкевіч сустрэліся: — у Бельску Падляшскім — з бургамістрам А. Стэпанюком, старшынёю аддзела БГКТ В. Ляшчынскім, сакратаром А. Бжазоўскай і дырэктарам БДК С. Лукашуком. Абмяркоўваліся справы арганізацыі беларускага народнага фестыну (30.08.98):

— у Гайнаўцы — з войтам гміны Оляй Рыгаровіч па справе канкрэтызацыі некаторых спраў адносна арганізацыі беларускага фестыну ў Арэшкаве;

— у Нараўцы — з войтам гміны М. Павільчам, дырэктарам школы Я. Валкавыцкім і дырэктарам ГОК А. Скепка па справе арганізацыі беларускага фестыну ў Семяноўцы.

2.08. — Чарговы беларускі народны фестын адбыўся ў Кляшчэлях. Было гэта адно з мерапрыемстваў, запланаваных у рамках «Дні Кляшчэляў». У падрыхтоўку фестыну актыўна ўключылася гарадская ўправа ў Кляшчэлях. На жаль, праліўны дождж моцна папсаваў добры настрой арганізатараў. Заліло ўзмацняльную апаратуру, у сувязі з чым не ўсе калектывы змаглі выступіць на эстрадзе. А ў плане быў канцэрт у выкананні калектыву «Чыжавяне» з Чыжоў, эстрадных калектываў «Капры» і «Прымакі» з Беластока, «Монограм» з Кляшчэляў і калектыву «Гарадніца» з Гродна.

Гасцямі фестыну былі: генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, віцэ-консул Павел Латушка, войты гмін: Гайнаўка — Оля Рыгаровіч, Дубіч Царкоўных — Анатоль Паўлоўскі, прадстаўнікі «Поліса».

Дрэннае надвор'е не перашкодзіла, аднак, многім жыхарам Кляшчэляў і ваколіц прыбыць на беларускае свята. Было іх каля 600 асоб.

— Другі фестын адбыўся ў Чаромсе. Надвор'е было больш спрыяльнае. Побач эстрады пры Доме культуры сабралася больш за 1000 гледачоў. А было каго паслухаць. На сцэне прэзентаваліся: «Вульчанкі» з Вулькі Тэрэхоўскай, «Чарамшына» і эстрадны калектыў з Чаромхі, «Чыжавяне» з Чыжоў, «Капры» і «Прымакі» з Беластока, «Гарадніца» з Гродна.

Сярод запрошаных гасцей былі: старшыня Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Яцэк Курань, генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, віцэ-консул Павел Латушка, войты гмін: Гайнаўка — О. Рыгаровіч і Дубіч Царкоўных — А. Паўлоўскі, кіраўніцтва прадпрыемства «Поліс» з Беластока.

На фестынах прадаваліся магнітафонныя касеты. Арганізатарамі фестыну ў Чаромсе былі: ГП БГКТ, гмінная ўправа і асяродак культуры ў Чаромсе.

 

4.08. У ГП БГКТ адбылася сустрэча старшыні Я. Сычэўскага і сакратара В. Ласкевіч з дэлегацыяй Вышэйшай эканамічнай школы ў Беластоку, якую ўзначальваў рэктар праф. Рышард Городэньскі. Разглядалася справа дапамогі БГКТ у арганізацыі канцэрта калектыву «Чырвоныя гваздзікі» з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта ў Мінску.

# НАША СУЧАСНАСЦЬ

*Уладзімір Юзвюк*

## Цэнтральныя ўлады БГКТ (1956 — 1998)

Згодна са статутам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у Польшчы найвышэйшай яго ўладай з'яўляецца з'езд дэлегатаў. На працягу звыш 40-гадовага існавання гэтай арганізацыі адбылося трынаццаць з'ездаў БГКТ: 26.02.1956, 30.03.1958, 29.05.1960 (кожныя два гады), 16.06.1963, 26.02.1966, 11.05.1969, 22.06.1972 (кожныя тры гады), 30.05.1976, 1.06.1980, 6.05.1984, 23.10.1988, 23.05.1993 і 30.11.1997 года (кожныя чатыры гады). Дэлегаты выбіралі галоўныя праўленні колькасцю ад 31 да 48 членаў і галоўныя рэвізійныя камісіі колькасцю ад 5 да 7 членаў. Галоўныя праўленні БГКТ на першых пасяджэннях выбіралі са свайго складу 8—15-асабовыя прэзідыумы ГП. Персанальны склад цэнтральных уладаў таварыства паказаны ў табліцы. Не ўлічаны ў ёй змены, якія рабіліся паміж з'ездамі. Напрыклад, у 1956 годзе пасля «польскага кастрычніка» ад прыналежнасці да ГП адмовілася ў пісьмовай форме пяць членаў, а ў выніку яго ўздзеяння і іншых прычын у цэлым міжз'ездаўскім перыядзе чарговыя 30 членаў не ўвайшлі ў новае галоўнае праўленне і рэвізійную камісію. Нестабільнасць у гэтых уладах БГКТ адзначалася таксама ў час з'ездаў 1958, 1976, 1980 і 1997 гадоў, а ўстойлівасць — у 1969 і 1984 гадах.

Ніжэйпаказаная табліца складаецца з дзвюх частак: пераліку членаў ГП і ГРК БГКТ, якія ў 1956—1997 гадах выбіраліся па два і больш разоў, і такога ж пераліку членаў, якія выбіраліся па адным разе. Лічым, што сярод апошніх членаў многія знайшліся выпадкова і з увагі на малаэфектыўную працу або палітычныя націскі ПАРП у склад новых уладаў таварыства ўвайсці не змаглі.

Некаторыя з іх засяродзілі працу ў аддзелах або гуртках БГКТ.



 

# I. Члены галоўнага праўлення і галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ, якія выбіраліся ў 1956—1997 гадах па два і больш разоў

## Галоўнае праўленне БГКТ

| № | Прозвішча і імя | 1956 | 1958 | 1960 | 1963 | 1966 | 1969 | 1972 | 1976 | 1980 | 1984 | 1988 | 1993 | 1997 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Азябла Янка | | | I | I | | | | | | | | | |
| 2. | Альшэўскі Язэп | | I | I | I | | | | | | | | | |
| 3. | Аляксяюк Мікалай | | | | | | | | | | I | I | I | |
| 4. | Амбражэй Анна | | | | | | I | I | I | I | | | | |
| 5. | Антанюк Уладзімір | | | | I | I | | | | | | | | |
| 6. | Антыпюк Васіль | | | | | | | | | I | | | | |
| 7. | Артышэвіч Міхась | | I | I | | | | | | | | | | |
| 8. | Баравік Міхась | | I | I | | | | | | | | | | |
| 9. | Баранчык Уладзімір | | | | | | | | | | I | I | | |
| 10. | Баршчэўскі Аляксандр | | | | I | I | I | I | I | I | I | I | I | |
| 11. | Баршчэўскі Васіль | | | I | | I | I | | | | | | | |
| 12. | Барута Анатоль | | | | | | | | | | I | I | | |
| 13. | Бура Віктар | | | | | | | | | I | I | I | | |
| 14. | Бусловіч Юры | | | | | | I | I | | | | | | |
| 15. | Бушко Мікалай | | | | | | | | | | I | I | | |
| 16. | Бялецкая Лідзія | | | I | I | | | | | | | | | |
| 17. | Валкавыцкі Георгі | I | I | I | I | I | I | I | I | I | | | | |
| 18. | Валкавыцкі Яўген | | | | | | | | | | I | I | | I |
| 19. | Ваппа Яўген | | | | | | | | | | I | I | | |
| 20. | Вішанка Янка | | | I | I | I | I | I | | | | | | |
| 21. | Врублеўскі Яўген | | | | I | | I | | | | | | | |
| 22. | Гайдук Мікалай | | I | I | | | I | I | I | I | I | I | | |
| 23. | Галёнка Хведар | | | | | | | | I | I | I | I | I | I |
| 24. | Гаўрылюк Люба | | | | | | | | | I | I | I | I | I |
| 25. | Голуб Міхась | | | | | | | | | | | | I | I |
| 26. | Грыгарук Віктар | | | | | | | | | | I | I | | |
| 27. | Грыка Валянціна | | | | | | | | | | | | I | I |
| 28. | Давідзюк Аляксандр | I | I | | | | | | | | | | | |
| 29. | Даніловіч Надзея | | | | | | I | I | | | | | | |
| 30. | Дземяновіч Макар | | I | I | I | | | | | | | | | |
| 31. | Дзун Васіль | | | I | I | I | | | | | | | | |
| 32. | Добаш Янка | | | | | | | | | | I | I | I | |
| 33. | Дулько Міхась | | | | | | | | | | I | I | | |
| 34. | Зенюк Янка | | | | | | I | I | I | I | I | I | I | I |
| 35. | Іванюк Аляксандр | | | | | I | I | I | I | I | I | I | I | I |
| 36. | Іванюк Анна | | | | | | | | | | I | I | | |
| 37. | Каленік Аляксандр | | | | | I | I | | I | | | | | |
| 38. | Карпюк Аляксей (а) | I | | I | | | | I | | | | | | |
| 39. | Карпюк Аляксей (б) | | | | | | | | I | I | I | I | I | I |
| 40. | Кастыцэвіч Яраслаў | | I | I | I | | | | | | | | | |
| 41. | Кацэйка Таіса | | | | | | | | | | | | I | I |
| 42. | Кізевіч Пілін | I | I | | | | | | | | | | | |
| 43. | Кіндзюк Янка | | | | I | I | I | | | | | | | |
| 44. | Кіслы Юрка | | | | | | I | | I | | | | | |
| 45. | Крупа Янка | | | | | | | | | | I | I | | |
| 46. | Красько Анна | | | | | | | I | | I | | | | |
| 47. | Краўчук Мікалай | | | | | I | I | | | | | | | |
| 48. | Крышэнь Сяргей | | | | | | | | | | I | I | | |
| 49. | Крэйза Сяргей | | | | I | I | I | | | | | | | |
| 50. | Куптэль Мікалай | | | | | | | | I | I | | | | |
| 51. | Куршаль Уладзімір | | | | | | | | | | I | I | | |
| 52. | Ласкевіч Валянціна | | | | | | | | I | I | I | I | I | I |
| 53. | Ластаўка Пётр | | I | | I | | | | | | | | | |
| 54. | Лаўрыновіч Аляксандр | | | | | | | | | | I | | | |
| 55. | Лебядзінскі Мікалай | I | | | I | I | | | | | | | | |
| 56. | Луба Віталіс | | | | | | | | I | I | I | I | | |
| 57. | Лукашук Сяргей | | | | | | | I | I | I | I | I | I | |
| 58. | Ляшчынскі Канстанцін | | | I | I | | | | | | | | | |
| 59. | Мазалеўскі Расціслаў | | | | | I | I | | | | | | | |
| 60. | Мазалеўскі Аляксандр | | | | | | | | | I | I | | | |
| 61. | Майсеня Канстанцін | I | I | I | I | I | | | | | I | I | I | |
| 62. | Мароз Рыгор | | | | | | | | | | I | I | | |
| 63. | Мартыновіч Анатоль | | | | | I | I | I | I | I | I | I | | |
| 64. | Масальскі Канстанцін | | | | | I | I | | | | | | | |
| 65. | Мацеюк Іван | | I | I | | | | | | | | | | |
| 66. | Міруць Мікалай | | | | I | I | | | | | | | | |
| 67. | Мушынская Ніна | I | | I | | | | | | | | | | |
| 68. | Навіцкая Зінаіда | | | | | | | | | | | | I | I |
| 69. | Навіцкі Язэп | | | | | | | I | I | | | | | |
| 70. | Нікалаюк Мікалай | | | | | | | | | | I | I | I | I |
| 71. | Нікіцюк Барыс | | I | | I | | | | | | | | | |
| 72. | Паўлоўскі Уладзімір | | | | | | I | I | I | | | | | |
| 73. | Паўлючук Ольга | | | | | I | I | | | | | | | |
| 74. | Петручук Васіль | | | | | | | | | | I | I | | |
| 75. | Піруга Мікалай | | I | I | | | | | | | | | | |
| 76. | Полацкі Янка | | I | | | I | | | | | | | | |
| 77. | Пракапюк Мікалай | | | | | | | | | | | | I | I |
| 78. | Прышчэпка Пётр | | | | | | | | | | | | I | I |
| 79. | Раеўскі Уладзімір | | | | | I | I | I | | I | | | | |
| 80. | Раманюк Аляксандр | | | | | | | | | I | I | I | | |
| 81. | Рафаловіч Аляксандр | | | I | I | I | I | I | I | I | I | | | |
| 82. | Рудчык Максім | | I | | I | | | | | | | | | |

| № | Прозвішча і імя | 1956 | 1958 | 1960 | 1963 | 1966 | 1969 | 1972 | 1976 | 1980 | 1984 | 1988 | 1993 | 1997 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 83. | Русачык Тамара | | | | | | | | | | | | I | I |
| 84. | Саевіч Лідзія | | | | | | | | | | | | I | I |
| 85. | Садоўскі Хведар | | | | | | | | I | I | | | | |
| 86. | Сакоўскі Васіль | | | | | | I | | | | I | I | I | |
| 87. | Самоцік Мікалай | I | I | I | I | I | I | I | I | I | | | | |
| 88. | Семенюк Рыгор | | | | I | I | | | | | | | | |
| 89. | Серадзінскі Мікалай | | | | | I | I | | | | | | | |
| 90. | Склубоўскі Вінцук | | | | | I | I | I | I | I | | | | |
| 91. | Станкевіч Уладзімір | | I | I | | I | | | | | | | | |
| 92. | Суліма Мікалай | | | | | | I | I | I | | | | | |
| 93. | Суліма Янка | | | | | | I | I | | | | | | |
| 94. | Суліма Аркадзь | | | | | | | | | | | | I | I |
| 95. | Сцяпанюк Уладзімір | | | | | | | I | I | | | | | |
| 96. | Сыч Люба | I | I | | | | | | | | | | | |
| 97. | Сычэўскі Янка | | | | | | | | | | | | I | I |
| 98. | Тапалянская Гелена | | | | | | | I | I | I | I | I | | |
| 99. | Трафімюк Сцяпан | | | | | | | I | I | I | | | | |
| 100. | Тропак Анастасія | | I | | I | | | | | | | | | |
| 101. | Туронак Юры | I | I | I | I | | | I | | I | | | | |
| 102. | Федарук Сымон | | | | | | | | | | I | I | | |
| 103. | Федзюкевіч Янка | | | | | | | | | | I | I | | |
| 104. | Філіпюк Сяргей | | | | | I | I | I | | | | | | |
| 105. | Харкевіч Аляксандр | | | I | I | I | I | | | | | | | |
| 106. | Харытанюк Лявон | | | | | | | | | | | | I | I |
| 107. | Хіліманюк Янка | | | | | | | | | | I | I | | |
| 108. | Хлябіч Аляксандр | | | | | | | | | | I | I | | |
| 109. | Хлябіч Мікалай | | | | | | | | I | I | | | | |
| 110. | Хмялеўскі Міхась | | | | I | I | I | | | | I | I | | |
| 111. | Хмялеўскі Юры | | | | | | | | | | I | I | | |
| 112. | Храноўскі Аляксандр | | | | I | I | I | | | | | | | |
| 113. | Ціванюк Янка | | | | | | | | | | I | I | | |
| 114. | Цыванюк Ніна | | | | | | | I | I | I | I | I | | I |
| 115. | Шаховіч Міхась | | | | | | | | | | I | I | | |
| 116. | Швед Віктар | | I | I | I | I | I | | I | I | I | I | | |
| 117. | Шыманюк Сымон | I | I | I | I | I | I | I | | | | | | |
| 118. | Юзвюк Уладзімір | | | I | I | I | I | I | I | | | | | |
| 119. | Якімюк Рыгор | | | | | | | | | | | | I | I |
| 120. | Яновіч Сакрат | | | I | | | | | | I | | | | |
| Разам | | 45 | 45 | 31 | 38 | 39 | 40 | 41 | 45 | 44 | 45 | 48 | 35 | 35 |

## Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ

| № | Прозвішча і імя | 1956 | 1958 | 1960 | 1963 | 1966 | 1969 | 1972 | 1976 | 1980 | 1984 | 1988 | 1993 | 1997 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Аляксеюк Мікалай | | | | | | | | | | | I | | |
| 2. | Баршчэўскі Аляксандр | | | | | I | I | I | I | I | с | с | с | |
| 3. | Бушко Мікалай | | | | | | | | | | I | I | | |
| 4. | Бялецкая Лідзія | | | I | I | | | | | | | | | |
| 5 | Валкавыцкі Георгі | н | I | н | I | I | | н | н | н | | | | |



| № | Прозвішча і імя | 1956 | 1958 | 1960 | 1963 | 1966 | 1969 | 1972 | 1976 | 1980 | 1984 | 1988 | 1993 | 1997 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6. | Валкавыцкі Яўген | | | | | | | | | | | | | I |
| 7. | Галёнка Хведар | | | | | | | | | | | | I | I |
| 8. | Гарустовіч Яўген | | | I | | | | | | | | | | |
| 9. | Грыцук Канстанцін | | | I | | | | | | | | | | |
| 10. | Давідзюк Аляксандр | с | н | | | | | | | | | | | |
| 11. | Добаш Янка | | | | | | | | | | | | I | |
| 12. | Зенюк Янка | | | | | | к | к | к | к | н | н | | |
| 13. | Іваноўскі Аляксандр | | | | | | | | | | | Н | | |
| 14. | Іванюк Аляксандр | | | | | | | I | I | I | I | I | I | |
| 15. | Каліна Юрка | | | | | | | | | | | I | | |
| 16. | Канапелька Янка | I | | | | | | | | | | | | |
| 17. | Казёл Аляксей | к | | | | | | | | | | | | |
| 18. | Кізевіч Піліп | н | н | | | | | | | | | | | |
| 19. | Ласкевіч Валянціна | | | | | | | | | I | | I | к | К |
| 20. | Ластаўка Пётр | | | | I | | | | | | | | | |
| 21. | Лаўрэшук Іраней | | | | | | | | | | | | | Н |
| 22. | Літвінчык Васіль | | I | | | | | | | | | | | |
| 23. | Луба Віталіс | | | | | | | | | | К | I | | |
| 24. | Лукашук Сяргей | | | | | | | | | | | I | | |
| 25. | Ляшчынскі Канстан. | | | I | | | | | | | | | | |
| 26. | Мазалеўскі Расціслаў | | | | | I | | | | | | | | |
| 27. | Майсеня Канстанцін | I | I | | I | I | | | | | I | к | I | |
| 28. | Максімюк Янка | | | | | | | | | | | К | | |
| 29. | Мартыновіч Анатоль | | | | | | | | | | I | I | | |
| 30. | Матэйчык Мікалай | | | | | | I | | | | | | | |
| 31. | Мушынская Ніна | I | | | | | | | | | | | | |
| 32. | Навіцкая Зінаіда | | | | | | | | | | | | I | I |
| 33. | Нікалаюк Мікалай | | | | | | | | | | | н | Н | Н |
| 34. | Пракапюк Мікалай | | | | | | | | | | | | I | I |
| 35. | Прышчэпка Пётр | | | | | | | | | | | | I | I |
| 36. | Рафаловіч Аляксандр | | | | I | I | I | I | I | | | | | |
| 37. | Русачык Тамара | | | | | | | | | | | | Н | I |
| 38. | Саевіч Лідзія | | | | | | | | | | | | I | |
| 39. | Самоцік Мікалай | | | | н | н | н | с | с | с | | | | |
| 40. | Сачко Яўген | | | | | | | | | | | | | I |
| 41. | Серадзінскі Мікалай | | | | I | | | | | | | | | |
| 42. | Склубоўскі Вінцук | | | | | с | | | I | I | | | | |
| 43. | Станкевіч Уладзімір | | с | с | | | | | | | | | | |
| 44. | Сычэўскі Янка | | | | | | | | | | | | с | с |
| 45. | Тарасевіч Мікалай | | I | | | | | | | | | | | |
| 46. | Трафімюк Сцяпан | | | | | | | I | I | I | | | | |
| 47. | Туронак Юры | | I | | | | | | | | | | | |
| 48. | Федаровіч Ільля | I | | | | | | | | | | | | |
| 49. | Цыванюк Ніна | | | | | | | I | I | I | | | | |
| 50. | Хількевіч Мікалай | I | | | | | | | | | | | | |
| 51. | Хмялеўскі Міхась | | | | с | I | с | | | | I | | | |

6. Зак. 5488.

 

| № Прозвішча і імя | 1956 | 1958 | 1960 | 1963 | 1966 | 1969 | 1972 | 1976 | 1980 | 1984 | 1988 | 1993 | 1997 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 52. Швед Віктар | | к | | | | | | | | I | | | |
| 53. Шыманюк Сымон | I | | I | | | I | I | | | | | | |
| 54. Юзвюк Уладзімір | | | к | к | к | I | | | | | | | |
| 55. Яновіч Сакрат | | | | | | | | | | | I | | |
| Разам | 9 | 9 | 9 | 8 | 9 | 9 | 9 | 9 | 9 | 10 | 15 | 14 | 11 |

### Галоўная рэвізійная камісія БГКТ

| № Прозвішча і імя | 1956 | 1958 | 1960 | 1963 | 1966 | 1969 | 1972 | 1976 | 1980 | 1984 | 1988 | 1993 | 1997 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Альшэўскі Язэп | | | | | | с | | | | | | | |
| 2. Антанюк Уладзімір | | | | | | | | | і | | | | |
| 3. Антыпюк Васіль | | | | | | | I | I | | I | | | |
| 4. Артышэвіч Юрка | | к | | | | | | | | | | | |
| 5. Баранчык Уладзімір | | | I | | | | | | | | | | |
| 6. Бялецкая Лідзія | | | | | н | н | | | | | | | |
| 7. Гайдук Мікалай | | | | I | | | | | | | | | |
| 8. Галёнка Хведар | | с | с | с | с | | | | | | | | |
| 9. Грэсь Янка | с | | I | I | I | | | | | | | | |
| 10. Іванюк Анна | | | | | | | | | | | | I | |
| 11. Кізевіч Піліп | | | н | н | I | I | | | | | | | |
| 12. Кунах Аляксандр | | н | к | к | к | к | | | | | | | |
| 13. Лемеш Павел | | | | | | | | | | | I | I | н |
| 14. Ліцкевіч Уладзімір | | | | | | | | | | | | I | I |
| 15. Масальскі Канстанцін | | | | | | | | к | | к | к | к | к |
| 16. Навіцкі Уладзімір | | | | | | I | I | I | | | | | |
| 17. Стрышко Янка | | | | | | | | | I | I | | | |
| 18. Шыманюк Сымон | | | | | | | | н | н | н | | | |
| 19. Харытанюк Лявон | | | | | | | | | | | I | | |
| 20. Хмялеўскі Міхась | | | | | | | с | с | с | | н | ц | с |
| 21. Юзвюк Уладзімір | | | | | | | | | к | с | с | с | I |
| Разам | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 7 | 5 | 6 | 6 |

Умоўныя знакі: с — старшыня, н — намеснік старшыні, к — сакратар.

## II. Члены галоўнага праўлення і галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ, якія выбіраліся ў 1956—1997 гадах па адным разе

### Галоўнае праўленне БГКТ

Аверчук Ніна — 1980
Аверчук Сяргей — 1972
Алексін Яфім — 1958
Алекша Крысціна — 1984
Аляксюк Тамара — 1976
Аляксюк Янка — 1976
Андрэюк Валянціна — 1972
Андрэюк Лідзія — 1963



Аніська Уладзімір — 1958
Антыпюк Янка — 1956
Арцямюк Уладзімір — 1958
Баран Анна — 1956
Бернат Ільья — 1956
Бжазоўская Анна — 1997
Бушка Аляксандр — 1976
Васілюк Анна — 1976
Васілюк Канстанцін — 1956
Вашчук Тэкля — 1969
Вішанка Уладзімір — 1956
Вішнеўскі Аляксандр — 1956
Гайдук Уладзімір — 1972
Галавачык Ірына — 1980
Гарустовіч Ольга — 1976
Гарустовіч Яўген — 1960
Гацута Міхась — 1976
Глэмбоцкая Яўгенія — 1963
Голуб Дарота — 1993
Гонта Павел — 1956
Грыгарук Канстанцін — 1960
Грыгарук Міхась — 1956
Грыцук Канстанцін — 1960
Грэсь Аляксандр — 1958
Давідзюк Надзея — 1956
Данілюк Мікалай — 1972
Дарашкевіч Валянціна — 1980
Дзярманскі Аляксандр — 1958
Другавец Лявон — 1963
Закройшчык Ольга — 1980
Іваноўскі Аляксандр — 1988
Іванюк Яўген — 1972
Ігнацюк Анна — 1976
Ігнацюк Мікалай — 1997
Казберук Янка — 1956
Кананюк Крысціна — 1993
Канапелька Янка — 1956
Казлоўскі Генадзь — 1976
Казлоўскі Аляксандр — 1956
Каліна Юрка — 1988
Калядка Мікалай — 1958
Кардзюкевіч Васіль — 1958
Карпач Вальдэмар — 1993
Казёл Аляксей — 1956
Карнілюк Уладзімір — 1988
Карпенюк Уладзімір — 1958
Карпюк Мікалай — 1963
Касцюк Анатоль — 1966
Касцюк Мікалай — 1988
Кірызюк Янка — 1980
Кісель Янка — 1972
Кісель Васіль — 1956
Кісялеўскі Эдуард — 1980
Краскевіч Янка — 1956
Красоўскі Мікалай — 1963
Кузьмін Сымон — 1956
Куршэль Якуб — 1958
Кусачык Мікалай — 1997
Кучка Міхась — 1976
Кучынскі Уладзімір — 1958
Лавіцкі Янка — 1956
Лаўрашук Іраней — 1997
Лебедзінская Ніна — 1956
Літвінчык Васіль — 1958
Мікуць Янка — 1966
Міруць Мікалай — 1963
Макаль Аляксандр — 1963
Максімюк Анна — 1997
Максімюк Янка — 1988
Маркевіч Вінцук — 1956
Маркоўскі Язэп — 1960
Мароз Валянціна — 1976
Матэйчык Мікалай — 1969
Маісеюк Лявон — 1958
Монах Аляксандр — 1980
Навіцкая Ірына — 1980
Навіцкі Анатоль — 1997
Навіцкі Уладзімір — 1976
Назарчук Яўген — 1956
Насовіч Міхась — 1958
Ніканові Надзея — 1956
Новік Мікіта — 1956
Панасюк Аляксандра — 1969
Панько Людміла — 1956
Панфілюк Мікалай — 1980
Парфенюк Мікалай — 1958
Пашкоўскі Мікалай — 1976
Перута Мікалай — 1958
Пучынскі Уладзімір — 1958
Пяткевіч Янка — 1956
Пятручук Пётр — 1958
Рагацэвіч Віктар — 1966
Радзіцкая Кіра — 1966
Радышук Лідзія — 1972
Ражноўскі Славамір — 1956
Раманюк Мікалай — 1976
Рачкевіч Тамара — 1976
Рошчанка Сцяпан — 1993
Рубчэўскі Янка — 1958
Сапежынская Марыя — 1997
Сарока Сяргей — 1956
Сачко Яўген — 1997



 




Калектыў з Нараўкі. *Фота С. Грынявіцкага.*

| | |
|---|---|
| Рышчук Аляксандр | — 1958 |
| Рышчук Сцяпан | — 1972 |
| Сегень Васіль | — 1997 |
| Семеновіч Антон | — 1956 |
| Семянковіч Антон | — 1997 |
| Скарынкевіч Рыгор | — 1958 |
| Сохар Аляксандр | — 1966 |
| Сталулка Лідзія | — 1956 |
| Станько Аляксандр | — 1980 |
| Суліма Язэп | — 1966 |
| Сыч Люба | — 1958 |
| Сычэўскі Аляксей | — 1966 |
| Сычэўскі Уладзімір | — 1997 |
| Сяткоўская Ала | — 1993 |
| Тамашук Агафон | — 1956 |
| Тарасевіч Лявон | — 1988 |
| Тарасевіч Мікалай | — 1958 |
| Тарасевіч Пётр | — 1966 |
| Трахімчук Юльян | — 1956 |
| Федаровіч Ілья | — 1956 |
| Філіпчук Янка | — 1956 |
| Філіпюк Валянціна | — 1972 |
| Уголік Стэфанія | — 1956 |
| Харкевіч Сяргей | — 1980 |
| Хіліманюк Валянціна | — 1972 |
| Хількевіч Мікалай | — 1956 |
| Хлябіч Канстанцін | — 1958 |
| Храноўскі Віктар | — 1993 |
| Целушэцкі Янка | — 1997 |
| Цэгель Віктар | — 1956 |
| Цэцэрка Зафія | — 1976 |
| Чыжык Раіса | — 1972 |
| Чыквін Арцём | — 1960 |
| Цюрук Марыя | — 1980 |
| Шаўчынскі Язэп | — 1956 |
| Шафаловіч Эдуард | — 1976 |
| Шыманская Анна | — 1993 |
| Янчук Аляксандр | — 1980 |






**Галоўная рэвізійная камісія БГКТ**

| | |
|---|---|
| Артышэвіч Юрка | — 1958 |
| Астравецкі Віктар | — 1958 |
| Баранчык Уладзімір | — 1972 |
| Бароўскі Сяргей | — 1972 |
| Вішнеўскі Аляксандр | — 1956 |
| Грэсь Янка | — 1956 |
| Кузмін Сымон | — 1958 |
| Літвінчык Васіль | — 1960 |
| Марціновіч Валянціна | — 1997 |
| Моцька Канстанцін | — 1984 |
| Назарчук Сяргей (н) | — 1956 |
| Панфілюк Валянціна | — 1984 |
| Парманчук Зафія (к) | — 1956 |
| Рачкевіч Тамара (к) | — 1976 |
| Таранта Андрэй | — 1956 |

У цэнтральныя ўлады Беларускага грамадска-культурнага таварыства выбіраліся ў 1956—1997 гадах 288 членаў, у тым ліку 141 з іх — па два і больш разоў. Неабходна адзначыць, што Міхась Хмялеўскі і Уладзімір Юзвюк выбіраліся па 11 разоў, з той розніцай, што першы два разы быў старшынёю ГП і чатыры разы старшынёю ГРК БГКТ, а другі — тры разы штатным сакратаром і тры разы старшынёю ГРК БГКТ.

Хведар Галёнка і Сымон Шыманюк выбіраліся па 10 разоў, але першы быў чатыры разы старшынёю ГРК БГКТ. Урэшце па 9 разоў выбіраліся Аляксандр Баршчэўскі, Георгі Валкавыцкі, Аляксандр Іванюк, Мікалай



«Купалле-98» у Белавежы. *Фота С. Грынявіцкага.*

Самоцік, Віктар Швед і Мікалай Гайдук. Сярод іх — А. Баршчэўскі і М. Самоцік былі па тры разы старшынямі ГП, а Г. Валкавыцкі — пяць разоў намеснікам старшыні ГП БГКТ.

Чарговыя 13 членаў выбіраліся ў ГП і ГРК ад 5 да 8 разоў. Сярод іх — Янка Вішанка, Люба Гаўрылюк, Янка Зенюк, Аляксей Карпюк (б), Піліп Кізевіч, Аляксандр Кунах, Валянціна Ласкевіч, Сяргей Лукашук, Канстанцін Майсеня, Аляксандр Рафаловіч, Гелена Тапалянская, Юры Туронак і Ніна Цыванюк.

Многаразовы выбар у цэнтральныя ўлады з'яўляецца пацвярджэннем бязмежнага заангажавання ў справы БГКТ і ахвярнай грамадскай працы на карысць усёй беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

*Надзея Галубкова,*
*Ларыса Саглаева,*
*навуковыя супрацоўнікі*
*Цэнтра сацыялагічных і палітычных*
*даследаванняў БДУ*

## Беларусы Беласточчыны
*(сацыялагічныя рысы партрэта)*

Цікавасць да гэтага пытання з боку жыхароў Рэспублікі Беларусь — адметная прыкмета станоўчых змен на Беларусі. У першую чаргу — гэта змяненне дзяржаўна-этнічнага статута (утварэнне нацыянальнай дзяржавы) і пільная ўвага да пытанняў нацыянальнай свядомасці беларусаў. Пошукі шляхоў павышэння ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці тытульнай нацыі абгрунтоўваюць інтарэс да жыцця беларусаў у другіх краінах, асабліва ў суседніх: ці адчуваюць яны сябе беларусамі, ці захоўваюць (а калі так, то ў якіх формах) беларускую культуру, мову, нацыянальную самасвядомасць.

На высвятленне гэтых пытанняў былі накіраваны сацыялагічныя даследаванні, матэрыялы якіх дазваляюць уявіць іх агульны этнічны партрэт.

Найбольш важным з'яўляецца пытанне самаідэнтыфікацыі беларусаў Беласточчыны. Кім яны сябе лічаць у першую чаргу? Вынікі праведзенага апытання сведчаць аб тым, што амаль палова рэспандэнтаў суадносяць сябе з беларусамі як па сваім паходжанні, так і па культурным развіцці. Другая палова раздзялілася на тых: а) хто лічыць сябе палякамі, хаця і мае беларускія карані; б) каму цяжка вызначыць сваю нацыянальнасць. Члены апошняй групы знаходзяцца на стадыі станаўлення сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці. Працэс выбару стварае сітуацыю параўнання ўласнага становішча са становішчам другіх груп і вынікамі іх дзейнасці (поспехамі і няўдачамі). Іншымі словамі, асабістая і групавая ідэнтычнасць устанаўліваецца звязваннем сябе і сваёй групы з рэчаіснасцю грамадства, часткай якога яны з'яўляюцца. Гэта як бы рэзервная група, ідэнтыфікацыйныя пошукі якой змогуць прывесці як да беларускай нацыянальнасці, так і да польскай.

Кожны чалавек мае сваё паняцце Радзімы. Для значнай часткі рэспандэнтаў найбольш характэрна прадстаўленне аб Радзіме як аб месцы,

дзе ён нарадзіўся ці жыве. Чвэрць апытаных назвалі сваёй Радзімай Польшчу.

Захоўванне і развіццё нацыянальнай культуры неадрыўна звязана з выкарыстаннем беларускай мовы. Мова адносіцца да тых кампанентаў духоўнай культуры, функцыянальнае значэнне якой адлюстроўваецца найбольш адметна.

Трэба адзначыць, што больш палова рэспандэнтаў лічаць беларускую мову сваёй роднай і даволі часта ўжываюць яе. У сувязі з гэтым мы можам гаварыць аб існаванні адпаведнага моўнага асяроддзя, якое значна ўплывае як на пазітыўныя адносіны да беларускай мовы, так і на ўзровень валодання ёю. Часцей за ўсё размаўляюць на ёй дома, у сям'і і з сябрамі. Праца ж патрабуе ў асноўным ведання польскай мовы. Праўда, трэцяя частка апытаных і ў адносінах з калегамі на працы ўжывае беларускую мову, што, хутчэй за ўсё, звязана з кампактнасцю пражывання і месцам іх працы менавіта на гэтай тэрыторыі.

Прыведзеныя, дастаткова агульныя, даныя даюць знешне суцяшальную карціну. Але пры далейшым яе аналізе гэта карціна аказваецца няпоўнай і не такой радужнай. Пры ацэнцы становішча мовы істотную ролю адыгрываюць спосаб і парадак яе засваення (праз школу або праз сям'ю, непасрэднае акружэнне), яе камунікатыўная значнасць, эмацыянальная ацэнка не толькі самім носьбітам, але і яго бліжэйшым і аддаленым асяроддзем, значэнне яе для ўзвышэння ў грамадстве і інш. Працэс авалодання роднай мовай пачынаецца ў дзяцінстве праз сям'ю і ўдасканальваецца ў школе. Эмпірычныя даныя даюць падставу адзначыць памяншэнне колькасці тых, чые дзеці вывучаюць беларускую мову, і павелічэнне тых, хто пры выбары школ аддае перавагу польскім. Зазначым пэўную арыентацыю беларусаў на абучэнне дзяцей у польскай школе ў двух яе варыянтах: ці з пашыраным вывучэннем беларускай мовы, літаратуры і гісторыі Беларусі (палова апытаных выказалі такое жаданне), ці ў звычайнай польскай школе (шостая частка апытаных выказаліся за гэта). Яшчэ чвэрць не змаглі адказаць на пастаўленае пытанне аб прыярытэтнай школе навучання. Такім чынам, сучасная моўная сітуацыя далёка неадназначная. З аднаго боку, вусная мова ў сваёй гутарковай форме займае значнае месца як першасны сродак зносін у сям'і і бліжэйшым акружэнні, з другога — беларуская мова (што з'яўляецца натуральным, бо мы гаворым аб польскай дзяржаве) не мае той камунікатыўнай каштоўнасці ў афіцыйна-дзелавых сферах у параўнанні з дзяржаўнай польскай мовай. Апошняе мае вялікае значэнне для будучыні многіх беларусаў у Польшчы (і не толькі маладых) у сэнсе авалодання спецыяльнасцю, далейшай кар'еры, шырокіх і рознабаковых магчымасцей, якія адкрывае польская мова.



Усё вышэйадзначанае з'яўляецца важным сведчаннем культурна-псіхалагічнай падасновы сучаснай самаідэнтыфікацыі беларусаў, сутнасць якой праяўляецца ў арыентацыі не на аб'ектыўныя прыкметы «беларускасці», а на суб'ектыўнае самаадчуванне чалавека («лічыць сябе беларусам»). Адсюль і станоўчыя адказы амаль паловы рэспандэнтаў на пытанне «Ці можна заставацца беларусам, размаўляючы і думаючы па-польску?». Іншымі словамі, яны падтрымліваюць думку аб рэальнай магчымасці нацыянальнай самаідэнтыфікацыі нават у выпадку страты сваёй мовы. Пятая частка апытаных адмоўна ставіцца да такой магчымасці, лічачы, што застацца беларусам можна толькі ў выпадку актыўнага захоўвання сваёй мовы. Застаецца яшчэ трэць апытаных, якім або было цяжка адказаць на пытанне, або яны не думалі пра гэта. Відавочна, што сённяшняя этнакультурная сітуацыя дастаткова складаная і супярэчлівая, што патрабуе вельмі далікатнага і асцярожнага падыходу да яе тлумачэння.

У працэсе апытання мы сутыкнуліся з вялікай зацікаўленасцю беларусаў у справе захавання традыцый нацыянальнай культуры. Галоўнымі фактарамі, якія спрыяюць, на іх думку, захоўванню нацыянальнай культуры, выступаюць народныя святы, абрады і рэлігія; народная творчасць і штодзённая бытавая культура. Павінны сказаць, што многія рэспандэнты звярталі ўвагу на мізэрную долю мастацтва і сродкаў масавай інфармацыі ў справе захавання беларускіх традыцый. У большай меры станаўленню нацыянальнай самасвядомасці спрыяюць сям'я і культурнае асяроддзе. Толькі $^1/_5$ частка апытаных лічаць валоданне беларускай мовай фактарам, спрыяемым нацыянальнай самасвядомасці. Асабістае значэнне мае рэлігія, якая ўплывала і ўплывае на этнічную самасвядомасць, асабліва ў Польшчы, дзе такія моцныя традыцыі каталіцызму. Рэлігія тут заўсёды выконвала і выконвае этнакансалідацыйную функцыю як на бытавым ўзроўні, так і ў дзяржаўнай ідэалогіі. Па нашых назіраннях, рэлігія для жыхароў Польшчы не проста канфесійная прыналежнасць, а ўзор жыцця. Рэлігійныя традыцыі ўкаранёны ў самім народным жыцці, пастаянна актуалізуюцца ў масавых абрадах, звычаях, святах.

Абсалютная большасць беларусаў на Беласточчыне — праваслаўныя. Склалася ўсталяванае меркаванне, што «паляк — гэта католік, а беларус — праваслаўны». Ці так гэта на самай справе, ці можа быць беларус католікам? Большасць рэспандэнтаў не звязваюць рэлігійныя ўяўленні з этнічнай прыналежнасцю, лічачы, што беларус можа быць католікам. Не згодныя з гэтай думкай 16 % апытаных, якія сцвярджаюць, што беларус — гэта заўсёды праваслаўны. Такія адказы даюць падставу гаварыць аб зніжэнні колькасці людзей, схільных ідэнтыфікаваць «беларускасць» з праваслаўем, аб разбурэнні традыцыйных уяўленняў, жорстка звязваючых на-



Калектыў «Капры» з Беластока. 1998. *Фота С. Грынявіцкага.*

цыянальнае са «сваёй» канфесійнай прыналежнасцю. Ускосным пацвярджэннем гэтага можа, у прыватнасці, служыць той факт, што рэлігія не выступае ў якасці галоўнай этнавызначальнай прыкметы ў стэрэатыпным уяўленні беларусаў аб паляках.

Выяўленае «размыццё» этнанацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў Беласточчыны ні ў якім разе не адбілася на іх адносінах да сваёй нацыянальнасці.

Даследаванне выявіла высокую ступень задавальнення беларусаў сваёй нацыянальнай прыналежнасцю. Адзначаны працэс праяўляецца ў пазітыўных прыярытэтных ацэнках пачуццяў, і асабліва такіх, як годнасць, павага, гонар. Абсалютная перавага пазітыўных пачуццяў, выклікаемых у рэспандэнтаў іх нацыянальнай прыналежнасцю, сведчыць аб устойлівым станоўчым «вобразе» свайго народа. Але пятая частка апытаных зусім абыякава адносіцца да сваёй нацыянальнасці, якая не выклікае ў іх ніякіх пачуццяў: ні добрых, ні дрэнных.

Сацыялагічныя даныя і нашы назіранні раскрываюць яшчэ адну, але вельмі значную, рысу самасвядомасці беларусаў — іх народную памяць. Яна жыве, захоўваецца і развіваецца, з'яўляецца асновай самасвядомасці беларускай супольнасці. Найбольш актыўныя яе носьбіты — людзі старэйшага ўзросту. Дзякуючы ім і іх бацькам фарміруюцца, замацоўваюцца і ўтрымліваюцца, становяцца набыткам супольнасці звычаі, традыцыі, стыль жыцця — сацыяльна-ўстойлівыя формы грамадскіх каштоўнасцей. Аб'ядноўваючы разам працу продкаў, духоўныя каштоўнасці, любоў да сваёй Радзімы, адданасць традыцыям, напаўняючы ўсё гэта духам сучаснай эпохі, народная памяць зацвярджае мудрасць нацыі, яе жыццяздольнасць. Увасабляючыся ў фальклоры, літаратуры і мастацтве, творчасці, народная памяць матэрыялізуецца і засвойваецца маладым пакаленнем. Але, на жаль, што і адзначаецца вынікамі даследавання, сёння назіраецца для моладзі зніжэнне значнасці захоўвання нацыянальных традыцый, ведання мовы, літаратуры і гісторыі Беларусі. Для яе характэрна арыентацыя на больш шырокія формы ідэнтычнасці. Ці будзе яна знаходзіцца ў пераемнай сувязі з нацыянальным, залежыць таксама ад дзейнасці беларускіх аб'яднанняў і культурнай дапамогі дзяржавы Беларусь.

## Traktat między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy, Warszawa, dnia 23 czerwca 1992 r.

*(Dz.U. nr 118 z 9.12.1993 poz. 527)*

### Artykuł 13

Umawiające się Strony zobowiązują się do respektowania międzynarodowych zasad i standardów dotyczących ochrony praw mniejszości narodowych, w szczególności w Międzynarodowych Paktach Praw Człowieka, Akcie Końcowym Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie, Dokumencie Spotkania Kopenhaskiego w sprawie ludzkiego wymiaru KBWE oraz Paryskiej Karcie Nowej Europy.

### Artykuł 14

1. Umawiające się Strony potwierdzają, że osoby należące do mniejszości polskiej w Republice Białoruś oraz mniejszości białoruskiej w Rzeczypospolitej Polskiej mają prawo, indywidualnie lub wespół z innymi członkami swojej grupy, do swobodnego zachowania, rozwijania i wyrażania swojej tożsamości etnicznej, kulturowej, językowej i religijnej, bez jakiejkolwiek dyskryminacji i w warunkach pełnej równości wobec prawa.

2. Umawiające się Strony potwierdzają, że przynależność do mniejszości narodowej jest sprawą indywidualnego wyboru dokonywanego przez osoby i że nie mogą z tego wynikać dla niej żadne negatywne następstwa.

### Artykuł 15

Umawiające się Strony gwarantują, że osoby wymienione w artykule 14 mają w szczególności prawo, indywidualnie lub wespół z innymi członkami swej grupy, do:

- swobodnego posługiwania się językiem ojczystym w życiu prywatnym i publicznym, dostępu do informacji w tym języku, jej rozpowszechniania i wymiany, a także używania swych imion i nazwisk w brzmieniu przyjętym dla języka ojczystego;
- zakładania i utrzymywania własnych instytucji, organizacji lub stowarzyszeń oświatowych, kulturalnych i innych, które mogą się ubiegać o dobrowolną pomoc finansową lub inną, jak również o pomoc państwową, zgodnie z prawem krajowym, korzystać z dostępu do środków masowego przekazu, a także uczestniczyć w działalności międzynarodowych organizacji pozarządowych;
- wyznawania i praktykowania swej religii, w tym nabywania, posiadania i wykorzystywania materiałów religijnych oraz prowadzenia oświatowej działalności religijnej w języku ojczystym,
- ustanawiania i utrzymywania niezakłóconych kontaktów między sobą na terytorium swego państwa, jak również kontaktów poprzez granice z obywatelami innych państw, z którymi łączą ich wspólne pochodzenie etniczne lub narodowe, dziedzictwo kulturalne lub przekonania religijne;
- korzystania ze środków prawnych, przewidzianych ustawodawstwem wewnętrznym państwa zamieszkania dla urzeczywistnienia i ochrony swych praw.

### Artykuł 16

1. Umawiające się Strony będą rozwijać konstruktywną współpracę w zakresie ochrony praw osób należących do mniejszości narodowych, traktując je jako czynnik wzmocnienia wzajemnego zrozumienia i dobrosąsiedzkich stosunków między narodami polskim i białoruskim.

2. Umawiające się Strony będą w trakcie realizacji rozwoju regionalnego uwzględniać społeczne i ekonomiczne interesy osób wymienionych w artykule 14 oraz ich organizacji lub stowarzyszeń.

3. Umawiające się Strony będą starać się zapewnić osobom, o których mowa w artykule 14, odpowiednie możliwości nauczania ich języka ojczystego lub nauczania w tym języku w placówkach oświatowych, a także, gdzie jest to możliwe i konieczne, posługiwania się językiem ojczystym wobec władz publicznych. W programach nauczania placówek oświatowych, do których uczęszczają wyżej wymienione osoby, będzie uwzględniona w szerszym zakresie historia i kultura mniejszości narodowych.

4. Umawiające się Strony będą szanować prawo osób, o których mowa w artykule 14, do uczestnictwa w sprawach publicznych, w szczególności dotyczących ochrony i umacniania ich tożsamości, a także w razie potrzeby przeprowadzać konsultacje z organizacjami lub stowarzyszeniami tych osób.

### Artykuł 17

Umawiające się Strony są zgodne co do tego, że osoby, o których mowa w artykule 14, powinny przestrzegać ustawodawstwa państwa swego zamieszkania.

 

*Ніна Петухова,*
*супрацоўнік Дзяржкамітэта*
*па справах рэлігій*
*і нацыянальнасцей РБ*

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

З даўніх часоў на Беларусі дружна жывуць прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. На яе гасціннай зямлі побач з добрымі і мяккімі па характару беларусамі ўсе адчуваюць сябе ўтульна, як у адной вялікай сям'і.

У канцы 80 — пачатку 90-ых гадоў актывізавалася жыццё нацыянальных меншасцей Беларусі. У гэты ж час беларускія арганізацыі ўзнікаюць у Прыбалтыцы, Расіі, Сібіры, Сярэдняй Азіі, на Украіне, у Малдове. На Беларусі актыўна ствараюцца культурна-асветныя таварыствы рускіх, украінцаў, азербайджанцаў, армян, літоўцаў, татар, яўрэяў, карэйцаў, палякаў, немцаў, латышоў і інш.

На Беларусі ніколі не было міжэтнічных канфліктаў. Але ж беражонага Бог беражэ, да таго ж міжнацыянальныя адносіны — вельмі важная сфера, якая складаецца з эканамічных, сацыяльных, палітычных, рэлігійных, дэмаграфічных і іншых фактараў. І гэта добра разумее кіраўніцтва суверэннай Беларусі, якое ўдзяляе сур'ёзную ўвагу фарміраванню новай нацыянальнай палітыкі. Адзін з сур'ёзных крокаў гэтага — прыняцце Закона «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь». Яшчэ адно сведчанне — стварэнне Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, галоўная задача якога — каардынацыя дзейнняў міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання, грамадскіх арганізацый у сферы рэлігійных, міжнацыянальных адносін, адносін з беларускай дыяспарай, садзейнічанне захаванню і развіццю культуры нацыянальных меншасцей на Беларусі, а беларускай культуры — за мяжой.

Узначальвае камітэт Аляксандр Білык, кваліфікаваны спецыяліст у гэтай галіне, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі нацыянальных меншасцей, які ўдзельнічаў у распрацоўцы Закона аб нацыянальных меншасцях у Вярхоўным Савеце 12-га склікання і доўгі час займаўся ў Савеце Міністраў пытаннямі рэлігіі, нацыянальнасцей і беларускай дыяспары.






Урачыстае адкрыццё гала-канцэрта V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98». Я. Сычэўскі на фоне Дзяржаўнага народнага хору імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам прафесара М. Дрынеўскага. *Фота С. Грынявіцкага.*

11 студзеня 1998 г. споўніўся роўна год з таго часу, як пачаў працаваць камітэт. Што ж зроблена за гэты кароткі прамежак часу і якія перспектывы на будучыню?

«Адзін з асноўных накірункаў працы нашага камітэта — абарона правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей», — расказвае А. Білык. — У верасні 1997 года мною ад імя ўрада Беларусі падпісана міжурадавае пагадненне з Рэспублікай Малдова, завяршаецца праца над аналагічным пагадненнем з Украінай, прапрацоўваюцца праекты пагадненняў з Расіяй і Літвой. А гэта значыць, што правы нашых беларусаў у гэтых краінах будуць больш абаронены. Вялікую ўвагу камітэт надае пытанням работы з беларусамі замежжа. Намі распрацавана праграма па аказанні дапамогі ў культурна-нацыянальным развіцці беларусам Польшчы, рэгіянальныя праграмы па краінах Балтыі, Расіі, Украіне. Што датычыць гэтага года, то ён сапраўды адказны. Мы плануем у гэтым (1998) годзе распрацаваць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб суайчынніках, якія пражываюць за мяжой». У пачатку гэтага года запрасілі на нараду па абмеркаванні Дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў свеце» прадстаўнікоў зацікаўленых міністэрстваў, устаноў, грамадскія



 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

арганізацыі «Радзіма» і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, на якой была падсумавана праца з беларусамі замежжа за мінулы год, абмеркаваны сумесны план работы на бягучы год з улікам прапаноў беларускіх арганізацый у замежжы. Кіраўніцтвам камітэта былі выкладзены асноўныя прыярытэтныя накірункі ў **стварэнні сістэмы супрацоўніцтва з суайчыннікамі**. Гэта і падпісанне міжурадавых пагадненняў, і стварэнне культурных цэнтраў, помнікаў беларускім дзеячам гісторыі і культуры, развіццё беларускамоўных школ у замежжы, прадаўжэнне працы над энцыклапедычным даведнікам «Беларусы ў свеце», правядзенне навуковых канферэнцый і г.д. Вялікую ўвагу плануецца ўдзяліць інфармацыйнаму забеспячэнню беларускай дыяспары. У мінулым годзе мы пачалі вырашаць гэтую праблему. Закуплены камп'ютэры для некалькіх беларускіх арганізацый за мяжой, каб яны змаглі апаратыўна атрымліваць інфармацыю, у тым ліку і перыядычныя беларускія выданні, праз электронныя сродкі сувязі. Многія таварыствы атрымалі ад нас тэлевідэаапаратуру з відэакасетамі, дзе запісаны беларускія спектаклі, вучэбныя праграмы, перадачы аб беларускіх пісьменніках, а таксама аглядныя аб нашым прыгожым Мінску і гістарычных мясцінах нашай роднай Бацькаўшчыны.

Мы вельмі спадзяёмся на ўзаемнае супрацоўніцтва з усімі суайчыннікамі за межамі Беларусі, якім не абыякавы лёс сваёй Радзімы. У гэтым супрацоўніцтве мы хацелі б бачыць «вуліцу не з аднабаковым, а з сустрэчным рухам». Гэта значыць, узаемныя намаганні з двух бакоў да пашырэння і паглыблення рознабаковых сувязей як з боку Беларусі, так і з боку беларусаў замежжа.

Таксама трэба адзначыць той факт, што наша маладая незалежная беларуская дзяржава хутчэй пройдзе этап станаўлення, калі таксама будзе адчуваць рэальную падтрымку з боку сваіх суайчыннікаў.

*Канстанцін Масальскі*

## Помнік праваслаўным жыхарам Беласточчыны

15 лістапада 1996 года члены беларускіх арганізацый Беласточчыны Аляксандр Вярбіцкі, Юрый Каліна, Пятро Крук, Кастусь і Марк Масальскія ды Ян Сычэўскі заснавалі ініцыятыўна-арганізацыйную групу па ўшанаванні памяці праваслаўных жыхароў Беласточчыны, якія загінулі ў 1939—1956 гадах. Галоўнай задачай групы, якую ўзначаліў Кастусь Масальскі, было стварэнне Таварыства пабудовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны. Гэта мэта будзе ажыццяўляцца шляхам узвядзення Помніка, збору даных пра ахвяры вайны, рэпрэсій і тэрору ды запісвання ўспамінаў аб трагічных падзеях 1939—1956 гадоў.

У гэтым духу быў распрацаваны праект Статута Таварыства пабудовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны, забітым, замардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939—1956 гадах. Яго аўтарам з'яўляецца магістр Яраслаў Матвяюк. Праект быў адобраны Яго Высокапраасвяшчэнствам архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савам. Затым ініцыятыўна-арганізацыйная група звярнулася да вядомых дзеячаў розных нацыянальнасцей і палітычных плыняў з прапановай уключыцца ў справу стварэння Таварыства пабудовы Помніка. Станоўча адгукнуліся, між іншым, і цяперашнія парламентарыі Сяргей Плева і Ян Сычэўскі, былы пасол Сейма Яўген Чыквін. 6 сакавіка 1997 г. на арганізацыйны сход сабралася 18 чалавек, з ліку якіх сфарміраваліся Праўленне Таварыства з 5 асоб і Рэвізійная камісія з 3 асоб.

Членамі Праўлення Таварыства пабудовы Помніка сталі:

1. Кастусь Масальскі — старшыня (Беларускае грамадска-культурнае таварыства).
2. Пятро Крук — намеснік старшыні (Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне).
3. Сцяпан Зенюк — сакратар (Беларускае грамадска-культурнае таварыства).
4. Рыгор Падляскі — скарбнік (Брацтва праваслаўнай моладзі).

5. Мікалай Капчук — член (рускае культурнае таварыства «Русь»).

У склад Рэвізійнай камісіі ўвайшлі:

1. Міхась Хмялеўскі — старшыня (Беларускае грамадска-культурнае таварыства).

2. Уладзімір Якімюк — член (Саюз украінцаў Падляшша).

3. Пятро Юшчук — член (Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне).

Удзельнікі сходу адобрылі прапанаваны статут і прызналі яго асноўным дакументам для дзейнасці Таварыства пабудовы Помніка.

15 красавіка 1997 г., пасля атрымання папярэдняй станоўчай ацэнкі з боку Аддзела грамадзянскіх спраў ваяводскай управы ў Беластоку, ваяводскі суд зарэгістраваў арганізацыю пад назвай: **Таварыства пабудовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны, забітым, замардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939—1956 гадах**. Таварыства з'яўляецца непалітычнай арганізацыяй з праваслаўным ухілам. Пасля атрымання статусу юрыдычнай асобы Таварыства звярнулася да аддзела архітэктуры, прасторавай гаспадаркі і аховы асяроддзя гарадской управы ў Беластоку з просьбай даць дазвол на размяшчэнне і ўзвядзенне Помніка на скверы ля праваслаўнай Свята-Мікалаеўскай царквы па вул. Ліпавай у якасці дадатковага праваслаўнага сімвала ў гэтым месцы. Абгрунтоўваючы просьбу, заснавальнікі Таварыства напісалі:

«Помнік будзе сімвалам грамадскай сувязі ў рэлігійным вымярэнні з трагічнай смерцю людзей, якія:

1) змагаліся і загінулі ў абароне II Рэчы Паспалітай у 1939 г., а таксама памерлі ў лагерах для ваеннапалонных,

2) пры савецкай уладзе былі сасланы і не вярнуліся або былі прызваны ў савецкую армію і загінулі,

3) загінулі на заходніх франтах,

4) падчас нямецкай акупацыі загінулі ў канцэнтрацыйных лагерах або ад рук акупантаў на Беластоцкай зямлі,

5) былі вывезены на прымусовыя работы ў III Рэйх і не вярнуліся,

6) загінулі пасля вызвалення ў 1944—1956 гадах з прычыны палітычных поглядаў і рэлігійнай прыналежнасці».

Пасля атрымання прашэння гарадская ўправа пачала збіраць неабходныя для выдачы дазволу на пабудову Помніка рэкамендацыі. 28 мая 1997 г. гарадская адміністрацыя выслала пісьмо ваяводскаму рэстаўратару помнікаў і ўжо 9 чэрвеня 1997 г. атрымала станоўчы адказ. 15 ліпеня 1997 г. гарадская ўправа перадала пісьмо дырэктару Рэгіянальнага цэнтра доследаў і аховы культурнага асяроддзя ў Беластоку. Да сёння пазіцыя гэтай установы нам невядомая. 22 жніўня 1997 г. Таварыства даведалася, што неабходна яшчэ адабрэнне праекта



Помніка, распрацаванага скульптарам Ежы Грыгорчукам, ваяводскай камісіяй аховы помнікаў змагання і пакут. Адпаведная дакументацыя ў гэтую арганізацыю была выслана 23 кастрычніка 1997 г.

У тым часе Таварыства звярнулася да бурмістраў і войтаў, а таксама да старшынь гмінных рад, на тэрыторыі якіх пражывае праваслаўнае насельніцтва, з пісьмом, у якім тлумачыліся мэты ўзнікнення Таварыства і быў змешчаны заклік фінансава падтрымаць ідэю пабудовы Помніка і дасылаць даныя аб загінуўшых (паводле спецыяльнай анкеты). Першымі фінансавую падтрымку аказалі Чаромхаўская, Нурэцкая і Гайнаўская гміны.

Апрача гэтага, Таварыства звярнулася да мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы, Яго Блажэнства, Блажэннейшага Васілія з просьбай дазволіць збіраць ахвяраванні ў цэрквах на пабудову Помніка. Адказ быў неадкладны і станоўчы: «Благаслаўлю! Збор ахвяраванняў на пабудову Помніка за кожным разам трэба ўзгадняць з паасобнымі настаяцелямі». Пасля быў зварот да настаяцеляў тых прыходаў Варшаўска-Бельскай епархіі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, правесці збор грошай. Першым адгукнуўся невялікі прыход у Саках Кляшчэлеўскага благачыння. Затым паступілі ахвяраванні ад Благавешчанскага прыхода ў Бельску і з Орлі. Нашых дзеячаў цешыць прыхільнасць гмін і прыходаў.

У Таварыства ёсць ужо свой банкаўскі рахунак:

**PKO BP I/O Białystok nr 10201316-379887-270-1,**

на які можна пералічваць грашовыя ахвяраванні на высакародную мэту — ушанаванне памяці праваслаўных бацькоў, маці, братоў, сясцёр, сыноў і дачок іх нашчадкамі.

Таксама старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, пасол Ян Сычэўскі пачаў хадайнічаць перад уладамі Рэспублікі Беларусь аб выдзяленні некаторых будаўнічых матэрыялаў, неабходных для ўзвядзення Помніка. Беларускія ўлады паабяцалі шырокую падтрымку.

Беласток. 30.04.1998 г.

## АНКЕТА

1. Прозвішча і імя ..............................................................................
2. Імёны бацькоў ................................................................................
3. Дата і месца нараджэння ................................................................
4. Сацыяльнае паходжанне ..................................................................
5. Сямейнасць.......................................................................................
6. Адукацыя .........................................................................................
7. Прафесія і занятасць.........................................................................
8. Апошняе месца працы і становішча...................................................
9. Апошняе месца жыхарства...............................................................
10. Прыналежнасць да палітычных партый і грамадскіх арганізацый
    а) да 1939 г.......................................................................................
    б) ад 1939 да VII.1944 г. ...................................................................
    в) пасля VII.1944 г. ..........................................................................
11. Дзень смерці ...................................................................................
..........................................................................................................
    мясцовасць, гміна ...........................................................................
12. Абставіны смерці ............................................................................
..........................................................................................................
13. Устаноўлена на аснове: ....................................................................
    а) дакументаў (якіх)...........................................................................
    б) апавядання (чыйго) ........................................................................
14. Хто склаў анкету .............................................................................
    дата.................. мясцовасць ............................................................
15. З а ў в а г і .......................................................................................
..........................................................................................................
..........................................................................................................
..........................................................................................................
..........................................................................................................

Запоўненыя анкеты просім дасылаць на адрас ГП БГКТ у Беластоку.

*Уладзімір Юзвюк*

## Музейны лабірынт

Змешчаная ў папярэднім «Беларускім календары» ГП БГКТ інфармацыя аб стварэнні ў 1997 годзе Музея беларускай культуры аказалася неправўдзівай. Мела гэта стацца згодна з падпісаным 22 лютага 1996 года пагадненнем паміж беластоцкім ваяводам, з аднаго боку, і Грамадскім камітэтам пабудовы музея і Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства — з другога. Але яно выконвалася нерашуча і фактычна засталося на этапе разважанняў аб патрэбе існавання на Беласточчыне беларускага музея. А пасля, 21 верасня 1997 года, у нашай краіне адбыліся парламенцкія выбары, у выніку якіх улада трапіла ў рукі малапрыхільнай нам правай прасалідарніцка-каталіцкай арыенціроўкі і абавязацельствы бакоў пагаднення адкладзены на бліжэй неакрэслены тэрмін. Спробы атрымання ад новых ваяводскіх уладаў фінансавай падтрымкі не прынеслі ніякіх вынікаў.

У другой палове 1997 года будаўнічыя работы ў музеі працягваліся яшчэ дзякуючы зычлівасці тагачаснага прэм'ер-міністра Польшчы Уладзімежа Цімашэвіча. Грамадскі камітэт пабудовы музея атрымаў 400 тысяч злотых датацыі, змог дапоўніць устарэлыя будаўнічыя праекты, а пасля ўстанавіць электраабсталяванне, у тым ліку супрацьпажарнае, ахоўнае і іншае, а таксама ўнутраную тынкоўку, усе музейныя дзверы з дубу і некаторыя іншыя неабходныя работы.

За ўласныя сродкі, пры дапамозе гарадской управы Гайнаўкі ў гэты час быў арганізаваны адзіны ў горадзе кіназал. У выніку гэтага прыбыло заняткаў шасціасабоваму штатнаму калектыву музея, але прыбытковасць не павялічылася нават пры атрыманні ад гарадской управы Гайнаўкі ўмоўнай датацыі, якая ў тым жа годзе склала 31,4 тысячы злотых. Відаць, мясцовых гледачоў не надта захапляе яго рэпертуар, абапёрты на вытворчасці амерыканскай і заходнееўрапейскай кінематаграфій. Беларускіх кінастужак няма. Кіно не ўзбагачае напрамкаў працы асяродка беларускай культуры.

Упарадкавана музейная бібліятэка, якая зараз налічвае каля трох тысяч кніжак.

Фінансавае становішча Грамадскага камітэта пабудовы музея ў першай палове бягучага 1998 года пагоршылася. Вельмі слаба рэалізаваліся членскія ўзносы, не было ахвяраванняў з мясцовых устаноў і ад прыватных асоб нашай краіны і з-за мяжы, не было дзяржаўных датацый. На няшчасце, у выніку пагаршэння здароўя, працу надоўга пакінуў старшыня Грамадскага камітэта Канстанцін Майсеня.

Усё ж установа існуе і крыху дзейнічае. Асноўнай крыніцай фінансавання гэтай дзейнасці былі арэндныя аплаты за памяшканні, якія склалі 71 % усяго прыбытку. Каля 18 яго чарговых працэнтаў атрымана з кіно і 11 % — з гасцінных пакояў і іншай дзейнасці.

Цяжка гаспадарыцца ўстанове, калі прыбытак з яе дзейнасці ў 1997 годзе склаў 117,5 тысячы злотых, а неабходныя выдаткаванні, асабліва заработная плата, абаграванне памяшканняў, электраэнергія, транспарт і іншае — 103 тысячы злотых. Невялікія ашчаднасці фінансавых сродкаў выкарыстаны будуць на бягучыя патрэбы ўстановы. На прадаўжэнне будаўніцтва сродкаў яшчэ няма.

Пасол Саюза левых дэмакратаў, старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі намагаўся ўвесці прадугледжаныя сумы грошай на заканчэнне будаўніцтва музея ў дзяржаўны бюджэт 1998 года. Аднак іх у ім не знайшлося. Адмовіла ў дапамозе сучасны беластоцкі ваявода Крысціна Лукашук. Пасол двойчы складаў інтэрпеляцыі ў Сейм.

Прыкметныя змены наступілі ў зацікаўленні пытаннямі сцэнарыя музейных экспазіцый. Іх навуковая і мастацкая канцэпцыі былі выпрацаваны некалькі гадоў раней спецыялістамі Рэспублікі Беларусь і прадыскутыраваны ў Грамадскім камітэце пабудовы музея ў Гайнаўцы. Затым працаўнікі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі падрыхтавалі праект сцэнарыя гістарычнай часткі, які таксама некалькі разоў дапаўняўся, але не быў прыняты праўленнем камітэта да рэалізацыі. У давядзенні справы да канца не дапамагла існуючая Праграмная рада беларускага музея. Відаць, таму ў яго дапрацоўку стаў уключацца рэактываваны XIII з'ездам БГКТ навуковы гурток пры ГП БГКТ. Падрыхтаваныя раней матэрыялы (праект сцэнарыя гістарычнай часткі, сцэнарый мастацка-вобразнага рашэння экспазіцыі і іншыя) у красавіку 1998 года былі прадстаўлены гісторыкам на разгляд, а ў верасні прадбачана канферэнцыя для вырашэння выступаемых у матэрыялах супярэчлівых ацэнак некаторых фактаў. Выпрацаваны накірунак будзе прадстаўлены Грамадскаму камітэту для канчатковага зацвярджэння.

Больш складана праходзіць падрыхтоўка сцэнарыя этнаграфічнай часткі музея. Усе мы лічылі, што яго праект прадставіць вядучы з боку РБ мастак Эдуард Агуновіч. У канцы 1997 года, у час сустрэчы з мастаком, мяне ўстрывожыла яго заўвага аб тым, што «...сцэнарыя этнаграфічнай часткі спецыялісты Рэспублікі Беларусь належна падрыхтаваць не змогуць. Будзе ён празмерна адарваны ад вашай падляшскай рэчаіснасці. Па гэтай прычыне праект сцэнарыя павінны зрабіць беластаччане».



Каб выратаваць становішча, я паабяцаў старшыні камітэта К. Майсені выканаць частку такога сцэнарыя. Першая пробная апрацоўка захаплення ў будаўнікоў музея не выклікала. Адкідваючы дыскусію над матэрыяламі, яны прапанавалі падрыхтаваць даведнік збіральнікам экспанатаў. Зноў давялося заўзята працаваць. Атрымалася каля 30 эскізаў, якія былі дасланы камітэту і мастаку Э. Агуновічу, які аднёсся да іх даволі прыхільна. Спадзеючыся на дапамогу чытачоў, падаём да ведама тытулы эскізаў: «Жорны», «Сіта», «Хлеб», «Ганчарства», «Кудзельніцы», «Лён», «Выраб палатна», «Вытворчасць калаўротаў», «Вышыўка», «Карункі», «Беларускае рэгіянальнае адзенне», «Вытворчасць колаў да воза», «Шыткі», «Сталярства», «Знешняе ўпрыгожванне хат», «Выдзеўбаны з дрэва посуд», «Пляценне з лазы і карэння», «Саломаткацтва», «Саха, плуг і акучнік», «Вёска ўсходняй Беласточчыны» (макеты сядзіб і пабудоў), «Мясцовыя народныя майстры».

У кожным эскізе даецца кароткая характарыстыка акрэсленай групы экспанатаў, іх супольных рысаў і адрозненняў, неабходны лік для стварэння экспазіцыі і раёны сучаснага месцазнаходжання. Для прыкладу:

**Ткацтва**

Усходняя Беласточчына вядома з архаічнага, простага але ўстойліва самабытнага ўзорнага ткацтва, асабліва бранага, двух, чатырох- і шматнітовага, а таксама пазнейшага пераборнага і двухасноўвага, у мясцовай назве: «нічальнага» і «многанічальнага». Вырабы захоўваюцца яшчэ паўсюдна, але ў 90-ыя гады выконванне іх спынілася, ужыванне карыстаецца яшчэ даволі шырокай папулярнасцю.

Ткацтву неабходна адвесці асобнае месца для наладжвання значнай экспазіцыі.

Экспанаты:

1. Зманціраваць 2—3 ткацкія станы (кросны), розныя па форме.
2. На адных кроснах заткаць двухнітовай тэхнікай выраб, у якім аснова і ўток у перапляценні складуць адна- або шматколерны матэрыял на спадніцы, ручнікі, абрусы ў паскі і клетачкі.
3. Другія кросны заткаць чатырохнітовай тэхнікай, у якой ніткі асновы па-рознаму накідваюцца ў ніты і спалучаюцца з рухам панажоў. Атрымліваецца выраб на плахты, абрусы, ручнікі — палатно ў клетачкі і іншыя ўзоры.
4. Трэція кросны заткаць перабіранай тэхнікай — нічальніц і дошак. Заснаваць living рознымі ніткамі. Для выканання затыкання запрасіць мясцовых дасведчаных ткачых.



Беларускі фестын у Гайнаўцы. 1998. *Фота С. Грыняўіцкага.*

5. Выставіць па 5—10 экспанатаў кожнага вырабу розных колераў, арнаментаў рэгіянальнага паходжання. Можна таксама экспанаты згрупаваць паводле матэрыялаў: льняныя, паўваўняныя, ваўняныя.

6. Выставіць двухнітовыя дываны з Сакольшчыны, якія на поўдні Беласточчыны называюцца грубымі.

7. Падрыхтаваць выстаўку шырока распаўсюджаных самаробных палавікоў. Звярнуць увагу на іх узорыстасць і колеры.

### Знешняе ўпрыгожванне хат

Архітэктурная народная разьба па дрэве як форма знешняга ўпрыгожвання падляшскіх хат — з'ява, распаўсюджаная ва ўсходняй славяншчыне, але на Падляшшы па сваім мастацтве непаўторная. Дасканалае дрэва з Белавежскай пушчы, умелыя мастакі і падганяемая іх канкурэнцыя прымушалі ўдасканальваць свае вырабы. Яны дапрацаваны ў кампазіцыі і ў



дэталях. Разам з агульнай канструкцыяй пабудоў складаюць тып беларускай падляшскай хаты.

Экспанаты:

I. Фота або макеты трох тыпаў хат:

— з круглякоў, з саламянай страхой,

— з абразнога дрэва і з драўляных шчытоў, крытыя чарапіцай,

— сучаснага драўлянага або мураванага будаўніцтва.

На аснове апрацовак «Знешняе ўпрыгожванне хат паўднёвага ўсходу Беласточчыны» («Ніва». 1970. № 4—28) і «Беларускага календара» ГП БГКТ 1969-га і іншых гадоў падрыхтаваць інфармацыю.

II. 5—10 фота шчытоў і замалёвак, копіі элементаў іх формаў: шалёўкі, вятровак, акенцаў, ліштваў вакол іх.

5 — 10 фота вуглоў розных узораў і колераў, элементаў.

*Прыклады «модлаў»* (мадэляў з дрэва і паперы).

3—5 копій узораў найпрыгажэйшых вуглоў хат.

5—10 вільчакоў, іх фота або замалёўкі.

5—10 фота ўпрыгожанняў акон, некалькі копій верхняй і ніжняй ліштваў.

7. Зак. 5488.

3—5 падстрэшных ліштваў, іх копіі, рысункі або фота.
5—10 фота верандаў і ганкаў з розных рэгіёнаў.
5—10 фота выдатных майстроў мясцовага дойлідства.

З а ў в а г а: У рэалізацыі эскіза трэба выкарыстаць частку чорна-белых фотаплёнак, выкананых У. Юзвюком у шасцідзесятых гадах і перададзеных Гайнаўскаму музею ў 1997 г. Экспанаты размясціць у фрагменце збудаванай хаты.

Імкнуліся мы ў гэтых апрацоўках выказаць думку падрыхтоўкі этнаграфічнай экспазіцыі не як магазіна антыкварыяту XVIII і XIX стагоддзяў, а як жывой павучальнай выстаўкі, найчасцей у форме кампазіцый («Кудзельніцы», «Саломапляценне», «Лён», «Вытворчасць калаўротаў» і гэтак далей). Амаль усе экспанаты адносяцца да беларускай матэрыяльнай культуры Падляшша. У галіне духоўнай культуры мясцовага насельніцтва закранаем толькі некаторыя пытанні, таму што большасць іншых, на нашую думку, патрабуе дадатковых даследаванняў.

Аб выпрацоўцы праекта адпаведнай экспазіцыі клапоціцца вядомы ў Беларусі музеязнавец, мастак Эдуард Агуновіч. Згадзіўся ён праінфармаваць чытачоў «Беларускага календара» 1999 года аб сваіх намерах.

Апрацаваныя эскізы былі прадастаўлены для ацэнкі зацікаўленым мясцовым дзеячам і спецыялістам, а ў красавіку праўленне Грамадскага камітэта пабудовы музея арганізавала іх абмеркаванне. Прысутныя ўнеслі многа дапаўненняў, а менавіта гэта і было мэтай сустрэчы. Трэба адзначыць асаблівую актыўнасць працаўніка Варшаўскага этнаграфічнага музея Уладзіміра Гацуты, які быў у канцы шасцідзесятых гадоў кіраўніком Беларускага рэгіянальнага музея БГКТ ў Белавежы, а таксама мясцовага мастака Віктара Кабаца.

Матэрыялы сустрэчы былі даручаны мастаку Э. Агуновічу, які выкарыстаў іх у падрыхтоўцы праекта экспазіцыі. 18 ліпеня 1998 года з удзелам мастака, мясцовых спецыялістаў і дзеячаў была праведзена першая канферэнцыя, прысвечаная дыскусіі над праектам этнаграфічнай экспазіцыі Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Відаць, успрыняты слушны напрамак падрыхтоўкі музейнай экспазіцыі будзе рэалізоўвацца без грошай і даволі доўга. Яшчэ ў выставачных залах будучага музея не пакладзена плітка (грыс), не хапае экспанатаў. Цяжар музейных клопатаў перасоўваецца ад будаўнічых работ да падрыхтоўкі экспазіцый і дзейнасці асяродка беларускай культуры. Але складаныя грамадскія абставіны ў нашай краіне і на Беласточчыне аптымізму не выклікаюць.

*Эдуард Агуновіч*
Мастак. Мінск

## Мастацка-вобразнае рашэнне экспазіцыі Беларускага музея ў Гайнаўцы *(прапановы)*

У пабудове будучай экспазіцыі Беларускага музея ў Гайнаўцы вельмі важна не толькі вызначыць напрамкі эмацыянальна-вобразнага строю, характэрныя для Падляшша, як рэгіёна заходняга Палесся, але і знайсці такое пластычнае рашэнне, якое ў гаме фактур экспанатаў, абсталявання, каларыстыкі рытмаў, свету і г.д. вылучала б яе сярод шматлікіх музеяў Польшчы.

Для стварэння эпічнай суцэльнасці гістарычнага лёсу гэтай часткі Еўропы прапануецца падаць матэрыял праз паэму Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» як праз прызму рэнесанснай класікі беларускай літаратуры. Гэта не толькі ўздыме навуковы і мастацкі ўзровень экспазіцыі, але дасць магчымасць аб'яднаць у адзінае цэлае шматфактурныя матэрыялы музея.

По ўзгадненні з Грамадскім камітэтам пабудовы музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы пастаянная экспазіцыя музея будзе складацца з трох частак:

Этнаграфічнай (I паверх),
Гістарычнай (II паверх),
Пераменных выставак.

Вестыбюль пастаяннай экспазіцыі будзе выглядаць так: у скульптуры і вітражах — алегарычны вобраз краю пад умоўнай назвай «Белавежская пушча». У нішы — жаночая постаць з крыжам Ефрасінні Полацкай, а каля яе ног — зубраня на фоне прыроды пушчы. Абапал постаці — у бронзе надпіс з паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра» на беларускай, польскай і англійскай мовах:

«Кожны народ не без роду і племя, і мае
Летапіс свой і гісторыі след на старонках»...

Паабапал, у праёмах, — геральдычны вітраж. Тарэц лесвіцы афармлены габеленам у выглядзе карты з выявамі гістарычных мясцін і храмаў.

Трэба паказаць унікальнасць прыроды гэтага прыгожага краю, архаічнасць сонечных каляндарных абрадаў, сувязь з ведычнымі вытокамі ў міфалогіі, арнаменце, песнях, замовах і г. д. — гэта і ёсць асноўная мэта стварэння экспазіцыі музея.

 



Калектыў «Красуні» на Аглядзе абрадавых калектываў-98 у Ласінцы.

Этнаграфічную частку экспазіцыі першага паверха прапануецца скласці з трох асноўных тэм:

Духоўная культура,

Матэрыяльная культура,

Драўляная архітэктура і храмы.

Пачынаецца экспазіцыя з прадмовы фарміравання беларускага этнасу на гэтай тэрыторыі ў картах. У цэнтры кампазіцыі — надпіс:

«Край наш — дзівосны прыстанак загадак і цудаў:
Ці то сам Бог пажадаў, каб усё ў ім на волі
І вырастала і гінула, ці гараўнічай
Воляю нечай ўсё занядбана — не знаю.
Часта з трывогай думаеш, чым растлумачыць
Сілу, што ў нас надаецца змовам і травам».

Паабапал карты прапануецца размясціць партрэты дзеячаў польскай і беларускай культуры (злева ад карты), з правага боку ад яе — партрэты беларускіх даследчыкаў і збіральнікаў, якія цікавіліся міфалогіяй, выкарыстоўвалі песні, казкі, прымаўкі, замовы, музыку і г.д. Нават можна выкарыстаць і іх выказванні аб высокай духоўнасці нашай культуры, напрыклад, выказванне А. Міцкевіча: «...З усіх славянскіх народаў



русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іх казках і песнях ёсць усё». Трэба набыць зборнікі Я. Чачота, Я. Карскага, М. Федароўскага, Е. Раманава, П. Шэйна, запісы песень Р. Шырмы, Ю. Ярашэвіча і публікацыі фалькларыстаў Беласточчыны А. Баршчэўскага, М. Гайдука, географа У. Юзвюка і г.д.

Вялікая работа па зборы экспанатаў, запісаў, фарміраванні фонду, на мой погляд, можа быць зроблена толькі штатным навукоўцам, які будзе планаваць экспедыцыі па плану, патрэбнаму для стварэння экспазіцыі.

Тэма каляндарных абрадаў беларусаў будзе па-мастацку вырашана ў выглядзе некалькіх сегментаў сонечнага гадавога круга з язычніцкімі і хрысціянскімі святамі вакол калоны.

У экспазіцыі па тэме «Бытавыя абрады, радзіны, хрэсьбіны, вяселлі і г.д.» трэба абавязкова мець хоць бы па адным камплекце жаночага, дзявочага і мужчынскага нацыянальнага касцюма. Патрэбны строі, карункі, пасцілкі, ручнікі.

Такі экспазіцыйны комплекс, як «Дзяды», павінен быць асабліва навукова і па-мастацку апрацаваны з-за незвычайнай цікавасці да гэтай тэмы польскага і іншага наведвальніка, у гістарычнай культуры якіх яе няма.

Зал па тэме «Матэрыяльная культура» прапануецца пабудаваць па гадавых сельскагаспадарчых работах. Канструкцыя вітрын будзе нагадваць драўляную гаспадарчую пабудову, вядома, стылізаваную, каб яе па шаблонах змог вырабіць звычайны сталяр. Этнаграфічныя экспанаты павінны быць згрупаваны ў комплексы. Гэта тэмы: «Ганчарства», «Дрэва», «Саломапляценне», «Бортніцтва», «Хлеб і земляробчыя прылады», «Кузня» і г.д. Тэма «Лён» павінна арганічна расказаць пра ткацтва, арнамент, салярныя сімвалы ў арнаменце, вячоркі і г.д.

Ужо сёння трэба вырашыць задачу фарміравання экспанатаў па тэмах: «Ганчарства», «Музыка», «Адзенне» і г.д., пастаянна камплектуючы фонды.

Трэба сказаць, што Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь абяцала не толькі навуковую дапамогу, але і дапамогу экспанатамі і муляжамі са збораў Брэсцкага і Гродзенскага дзяржаўных музеяў гісторыі і культуры.

Кампануючы экспазіцыйныя комплексы, трэба будзе рабіць рэканструктарскія, рэстаўрацыйныя і муляжныя работы. Таму павінен быць спецыяліст — сталяр з задаткамі макетчыка.

Спатрэбіцца зрабіць на заказ і некалькі ручнікоў, посцілак, павукоў, лапцей, карзін і г.д.

Прадугледжаная модульнасць канструкцый дае магчымасць рабіць загатоўкі стандартных дэталяў на вытворчасці са зборкай потым брыгадай сталяроў па экспазіцыі. Металічныя дэталі павінны нагадваць коўку.



 

Я не трачу надзеі, што беларускія музеі, калі да іх звярнуцца, дапамогуць і навуковай кансультацыяй, і экспанатамі, асабліва калі нагадаць ім аб пастанове міністэрства ад 1991 года.

Гістарычная частка экспазіцыі павінна, на мой погляд, асвятляць духоўную асаблівасць гэтага рэгіёна; старажытныя гарады Тураўскага княства Драгічынскай зямлі: Бельск, Мельнік, Сураж, Каложа; хрысціянізацыю гэтага краю.

Трэба выкарыстаць тэкст з паэмы М. Гусоўскага
«Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх,
Граматай рускіх, кірыліцай пісанай вязкай».

Наогул трэба значную ролю адвесці такім цэнтрам, як Заблудаў, Супрасль і г.д. Я разлічваю на дапамогу мясцовых духоўнікаў не толькі парадай, але і экспанатамі.

Экспазіцыі па тэме «Беларуска-Літоўская дзяржава» мяркуецца зрабіць так: даць карту асноўных бітваў паміж Галіцкай Руссю і крыжакамі. Комплекс матэрыялаў «Грунвальд» прапануецца размясціць у цэнтры зала, там, дзе будзе знаходзіцца меч крыжакоў з надпісам: «Пі кроў». Змясціць муляж Лаўрышаўскага евангелля з Гродзенскага музея.
«Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы
Росквітам княства Літоўскага, — нашага краю,
і называюць той век залатым».

Абавязкова павінны быць адлюстраваны тэмы:
Першая друкаваная кірыліца 1491 г.
Рэканструкцыя Заблудаўскай друкарні І. Фёдарава
(муляжы кніг Ф. Скарыны).
Статут ВКЛ Л. Сапегі.
Люблінская унія. Адносіны да уніі А. Хадкевіча
(карта яго уладанняў).

Брацкія праваслаўныя школы. Базыльяне. «Кінуўшы здрадліва ворагам лютым на здзекі веру дзядоў і бацькоў, нам адно застаецца — Літасці боскай чакаць і прасіць прабачэння».

Забарона беларускай мовы. 1697 г.
М. Сматрыцкі, Філіповіч.
Падзел Рэчы Паспалітай.
Карта тэрыторыі беларускіх зямель, якія адышлі да Расійскай імперыі.
Вільня, Гродна: росквіт барока. Віленскі універсітэт,
яго роля.
Ананімныя творы «Тарас на Парнасе», «Энеіда».
Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына.
«За нашу і вашу свабоду». 1863 год. «Мужыцкая праўда».
Карта моўных і этнічных межаў 1917—1918 гг.
на Беласточчыне. «Наша Ніва». БНР.
«Грамада».



Таварыства Беларускай школы. Гурткі, 20—30-ыя гады.
Выданні «Беларускага календара» за 1922—1936 гг.
Другая сусветная вайна.
БГКТ.
Школы. Гурткі. Хоры. Дзеячы культуры.

Трэба, на мой погляд, увесці і такую тэму, як «Гісторыя стварэння музея» (уклад К. Майсені, У. Юзвюка і г.д.).

Тэма «Беларусы ў свеце», на мой погляд, патрэбна менавіта ў Гайнаўцы, таму што беларуская дыяспара зрабіла вялікі ўклад у фарміраванне музея. У цэнтры можа быць устаноўка накшталт глобуса, дзе будуць паказаны ўсе дыяспары беларусаў на Зямлі. Праца В. Кіпеля.

Вядомыя людзі, такія як Т. Касцюшка, І. Дамейка, Г. Судзілоўскі і іншыя. Уклад іх як грамадзян планеты Зямля.

Першы і другі з'езды беларусаў свету.

Трэба выкарыстаць вельмі дакладны архіў Кастуся Калошы з Кліўленда пра ўсе суполкі беларусаў ЗША.

Роля цэнтра «Полацк».

Я зберагаю для музея эскізы эмблем, сувеніраў, білетаў, мандатаў, дакументаў з Першага з'езда беларусаў свету 1993 года. Ёсць палатно з подпісамі мастакоў — удзельнікаў першай сусветнай выстаўкі ў Мінску.

Важна, каб былі творы мастакоў (хаця б некалькі): Пашкевічаў, М. Стагановіч, Т. Русак, Н. Кудасавай, Л. Тарасевіча, Вячка (з Рыгі) і г.д.

Трэба расказаць аб ролі Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку і Ф. Скарыны ў Лондане.

Выданні пісьменнікаў.

Роля такіх культурных дзеячаў, як М. Прускі, С. Карніловіч, А. Шукелойць, Я. Запруднік.

Запісы песняў у выкананні М. Забэйды-Суміцкага, Б. Данчыка і г.д.

Успаміны Н. Арсеньневай і ўсе яе выданні і г.д.

Экспазіцыя музея павінна быць унікальнай і значнай падзеяй у культурным і духоўным асяроддзі Беласточчыны. Сцены пабудаванага музея — толькі скрынка для брыльянтаў — экспанатаў, якія павінны адшліфаваць навукоўцы высокага прафесіяналізму і грамадзянскай адказнасці. На аматарскім узроўні мы атрымаем «школьны» ўзровень экспазіцыі. На мой погляд, узначаліць навуковы калектыў можа Праграмная рада музея, у тым ліку ўжо многа зрабіўшыя У. Юзвюк ці У. Гацута пры штаце спецыялістаў.

Я збіраюся ўдзельнічаць не толькі ў стварэнні экспазіцыі, а запрасіць дыпломнікаў, якія абараніліся па тэме «Гайнаўскі музей» у Беларускай Акадэміі мастацтваў, і другіх мастакоў (як В. Кабац, Тарасевічаў) і г.д.

Вядома, што мае прапановы не з'яўляюцца дэталёвай прапрацоўкай усіх тэм і элементаў будучай экспазіцыі. Я выказаў толькі канцэптуальны падыход пры стварэнні музея і буду ўдзячны за прапановы і заўвагі.

## Грабаркаўскі вузел

Назва «Гра́барка» звязваецца насельніцтвам усходняй Беласточчыны з месцам паломніцтва на «Святую гару» Гра́барку ў дзень Спаса (19 жніўня). Месца гэтае атрымала папулярнасць нядаўна, у гады народнай улады ў Польшчы. Зараз залічваецца да найвялікшага санктуарыюму мясцовага праваслаўя. Аб ім выдадзена ўжо некалькі ілюстраваных брашур і многа артыкулаў у прэсе.

Нас цікавяць нацыянальныя і сацыяльныя праблемы вёскі Гра́барка, якая знаходзіцца ў адлегласці аднаго кіламетра ад упамянутай вышэй Святой гары, а таксама яе наваколля. Тут у тыя ж пасляваенныя гады наступіў поўны гаспадарчы заняпад.

Пісьмовых доказаў няма: ці першай была назва гары, ці вёскі. Спалучэнне іх паходжання з прафесіяй «грабара», («граба́жа») не пацверджана таму, што такая прафесія ў наваколлі не існавала, не было тут нават могілак. Магілы памерлым капалі сваякі або суседзі. Да таго ж, у адлегласці 10—20 кіламетраў, ёсць яшчэ дзве Гра́баркі (каля вёскі Паканева і частка Вэрпаля). Празмерна многа было б тут грабароў і вельмі мала жыхароў.

Больш праўдападобна, што назва паходзіць ад рамесніцкіх вырабаў з грабавага дрэва (грабары) і продажу іх на ўзбярэжжы ракі Буг.

Гістарычных звестак аб узнікненні вёскі таксама няма. Захавалася некалькі легендаў аб Святой гары, аднак з засяленнем тэрыторыі яны не звязаны. Улічваючы развіццё гандлю па рацэ Буг, можна меркаваць, што першыя насельнікі ў адлеглай усяго каля васьмі кіламетраў ад яго мясцовасці маглі з'явіцца ў XI—XIII стст., а можа крыху пазней, у перыяд надзелаў («наданняў») зямель літоўска-рускім феадалам. У кожным выпадку А. Ябланоўскі (1909) адзначыў, што ў Мельніцкім павеце, які ў 1571—1591 гадах займаў 25 кв. міляў, было 109 вёсак, у тым ліку 20 каралеўскіх, 5 царкоўных і 84 прыгонныя. Адной з апошніх магла быць Гра́барка. Зноў А. Вавжынчык у пасляваенным выданні назвала вёскі: Паканева, Жэрчыцы, Машчона, Вілінава, Нурэц і іншыя, якія існавалі ў XV ст., але сярод іх няма Гра́баркі. Упершыню з'явілася яна ў






Вёска Гра́барка. *Фота В. Бонды.*

дакументах паловы XIX ст. як вёска і фальварак Грабарка. Фальварак у 1893 годзе быў распарцэляваны, а след па ім загінуў.

Звесткі з апошняга стагоддзя існуюць і захоўваюцца ў памяці насельніцтва. Наш субяседнік, 86-гадовы Іван Бонда, — дасканалы расказчык, карыстаецца мясцовай архаічнай мовай, якая нагадвае нам мову старабеларускую і якою хочам перадаць яе змест.

— Раскажыце што-небудзь аб сабе.

— Што там о собіе говорыті. Уродівсе я в 1912 році ў вёсці Ослово (Ослуовка) коло Мэльніка. Вэрнувшысе з бэжэнства, жыті было вэльмі тяшко. З малых ліет робів дэ туолькі было можна: у господаруов, в ліесі, на орэльці по Бугові. Заробляв добрэ. Купів собіе косцюм пуввэленок, крамную сорочку, за што батько накрычав. Послі назоробляв трыста злоты і задумав купіті, пэршым в околіці, ровэр. Але грошы шчэ трохі нэхватало, а пожычыті ніхто нэ хотіев. Муой дятько і одно ж продавэць Баена з Нурця згодівсе доложыті трыццэть злоты, але на вэксэль. Нэхай будэ вэксэль. Вывюв ровэр і я прыехав на ём до дому. Езділі вжэ научывсе раней на ровэрах поліціянтув з Мэльніка. Батько шчэ буольш быв нэдовольны. Ездів на ём всюды: на вэсіля, по забавах, до роботы, до Брэсця і Білостоку (130 кіламетраў!). Ого, што тогды быв Бондув Іван!

8. Зак. 5488.



І. Бонда рыхтуе касу. *Фота В. Бонды.*

В 1941 році пушов в прыступы до Гра́баркі. Господарка была вэліка — двананцэть гэктарув, але зэмля пішчаная. Якось жылі. Зімою дороблялі в лі͡есі, на колеі. Тогды ў вёсці было вусімнанцэть господару͡ов і почті всі͡е дороблялі.

— Памятаеце іх па вясковых клічках?

— А чом жэ: Агатіха, Бонда, Васіль, тры Годуны, Кузьмюк, Мітька, Мэльнік, Пілiп Прушко, два Радівуны, Сахарыха, Смоляк, Староста, Якубы і Ясько. Сэм'і мелі вэлікі, разом в вёсці было коло ста чолові͡ек. Былі католікі — одна сэм'я, але жылі мы добрэ, в часі вуйны таксамэ дружно. Погу͡оршылосе, як зачалі ходіті банды, выганяті в Росію і мордоваті.

Посьлі вуйны жылосе лі͡епі. В 1961 році ўвэлі электрычэство. Воно было в нас од сорокового року з мліна на ры͡эчці Мошчонці, але гу͡оршэ. Два рокі послі зробілі шосу, гміну і была своя школа, почалі сеяті навозы штучны і збіраті бу͡ольш збу͡ожа, картофэль, набылі машыны, пэрэбудовалісе. Але молодые выіхалі в городы, там робота лёкша, а жывэцце выгудней. Му͡ой сын таксамэ вывучывсе на інжыні͡ера і оставсе в Білостоці. Ест пудполкоўніком стражы пожарное, а ёго колега Годун —



пудполкоўніком ву͡ойська. Ест шчэ одін інжыні͡ер будовніцтва, два ўчытэля, два духовных і одін офіці͡ер поліції. Вёсочка малая, а ву͡осім чолові͡ек заку͡ончыло вышшы школы.

Мы з жу͡онкою шчэ господаровалі, але посьлі робіті нэ далі рады. Зэмлю в 1986 році здалі панству і пэрэйшлі на рольнічу эмэрытуру. Тэпэр я оставсе вжэ сам, лі͡етом жыву на вёсці, а зімою в сына. Тут тэпло, ест што і͡есті, тэлевізор, ді͡еті і внукі до мэнэ добры. Але як ту͡олькі потэпліее, хочэцце в вёску. Там свое людэ, всё жывэ, зэленіт. Походжу по ўсадьбі, поoглядаю, штось зроблю і дэнь пру͡ойдэ. Я люблю косіті, шчэ і тэпэр всё пообкошую на ўсадьбі, а трава нэ потры͡ебна.

Одін раз сусед едэ в поле ораті і кажэ: сядайтэ, пудвэзу на вашэ поле. А чом жэ, пуд'еду. Поглянув я на ёго і мэнэ аж в зімну дрыготку кінуло. Я сюды ту͡олькі гною пэрэвозів, высіяв навозув, а ку͡олькі разу͡ов орав, жав збу͡ожэ! Тэпэр облу͡ог, зі͡еле большэ мэнэ і молодая дэрэвіна. Зэмлі в нас слабые, як згорок, то пісок, а як доліна, то болото, але роділо.

— А ці ў суседніх вёсках ёсць аблогі?

— Усюды таксамэ.

— А колькі жыхароў зараз налічвае вёска Гра́барка?

— Ест нас разом трыццэть тры чолові͡екі, а господарыт всёго штыры, з того таксамэ мало што выходіт — нэма дэ продаті ні збу͡ожа, ні мяса. А шчэ в замкнёнуй в 1990 році повшэхнуй школі жывэ дэвэть учытэльскіх сэм'яў. Одны на эмэрытуры, другі ўчат в суci͡едніх вёсках, бо ў нашуй тэпэр всёго шэстэро діті. Эта школа была семдэсят лі͡ет. Была в нас гміна, тэпэр нэма нічого. Одін кіломэтр од вёскі, в полі͡етку суседніх Оксютыч жывут в урочыску Суміншчына на Святу͡ой горы Гра́барка* монашкі і батюшка. До вуйны прыхода нэ было, але тры монашкі жыло. У 1947 році нашу былую доэтуль філіяльну сэмятыцку цэркву замінілі на прыход і організовавсе православны жэнскі монастыр. Тэпэр жывэ тут дэвэть монашок. Але вуны з вёскою нічого вспу͡ольного нэ мают.

Пры нагодзе прыпамянулі назвы іншых урочышчаў вёскі Гра́барка.

| У напрамку ад вёскі | Назва ўрочышча і яго паходжанне |
|---|---|
| 1 | 2 |
| На ўсход | 1. Бурок — стары і малады сасновы лес.<br>2. Трустынэць — поле, парослае трасціною. |

* З геаграфічнага пункту гледжання, Святая гара Гра́барка гарой не з'яўляецца. Гэта паўднёвая надбужанская частка Бельскага ўзвышша, размытая з поўначы прытокам Машчонкі Т р у с т ы н э ц ь. Паўночна-заходняе ўзбярэжжа даліны сапраўды стварае ўражанне гары адноснай вышынёй 20—30 метраў.

*Праця́г табл.*

| 1 | 2 |
|---|---|
| | 3. Звэрынэць — стойла жывёлы ўлетку. |
| | 4. Дорога до Кўонскіх горув — дарога ад вёскі да месца конскіх могілак. |
| На поўдзень | 5. Пўод Сумінщчыною — вясковыя агароды каля Сумінічыны. |
| | 6. Болото — забалочаная даліна ракі Грустынэць. |
| | 7. Грудок — узвышша сярод балота з каменнем. |
| На захад | 8. Багно — забалочаная даліна ракі Машчонкі. |
| | 9. Кут — частка даліны міжрэчча. |
| На поўнач | 10. Старое поле — залесенае поле. |
| | 11. Бабізна — вясковая лясная супольнасць (?). |
| | 12. Старополіця-Вакуловске—Вакулоўскае старое поле. |
| | 13. Новіны — поле на месцы выррубленага лесу. |
| | 14. Буцянка — месца частай прысутнасці буслоў. |

— Скажыце, што будзе з вясковай зямлёй?

— Нэ ведаю. Одін прыежджы купів кусок поля, трохі погосподарыв — нэ оплатілосе. Всё залесів і бўольш нэ показавсе в вёсці. А другі купів в Кўонскіх горах вёскову хату і часом появіцце, трохі пожывэ. Робів вэсіеле по нашому звычаі. Вэсіельнікам з Варшавы подобалосе.

Хвалілі нас за тое, што заховуем старые звычаі.

— Але вашы мігранты ў Беластоку захоўваюцца інакш: гаворыць папольску, і, што горшае, яны перакананы, што аб сваім нацыянальным паходжанні выказвацца нельга. Чаму?

— В Білостоці нашы пэрэселенці всёго свого встыдающце. Одны ополячующце, а рэшті так выгудней.

— А вясковае насельніцтва залічвае сябе да нейкай нацыянальнасці ці хоча быць таксама безнацыянальным?

— І пэрэд вуйною і тэпэр залічуецце до белорусув.

— А ці ёсць украінцы?

— Об украінцях в нашуй вёсці я нэ чув. Былі воны дэсь на Люблінщчыні, але послі вуйны іх повывозілі. Нас нэ вывозілі. Мы з властю былі ў згоді. Нэдавно говорылі в тэлевізіі, што знайшлісе коло Мэльніка, але я іх там нэ бачыв.



Калектыў «Любашкі» з Дабрывады. *Фота С. Грынявіцкага.*

— У «Беларускім календары 1997 г.» прыведзены спіс насельніцтва і яго нацыянальны склад у былым Сямяціцкім павеце ў 1957 годзе. Скажыце, ці ў вядомых вам вёсках ён пададзены праўдзіва? Скажам: Гра́барка, Сычы, Паўлавічы, Баратынец, Каянка, Машчона, Радзівілаўка, Мельнік і многа іншых.

— Тогды так было, а тэпэр нас всюды мэнч. Чужы прыедэ і выідэ, остающце старые.

Пагутарылі мы шчыра з Іванам Бондам, але гэтым надбужанскіх вёсак ад заняпаду не выратавалі. За гаспадаранне адказваюць улады.

*Гутарку вёў Уладзімір Юзвюк*

# З НАШАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

*Уладзімір Юзвюк*

## Старонка біяграфіі айца Я. РЭШАЦЯ

Усяго паўвека таму мелі мы яшчэ ксяндзоў-беларусаў высокай нацыянальнай свядомасці і зычлівых адносін да вернікаў праваслаўнай Царквы. Пасля іх ужо быццам не было, а ў дзевяностых гадах адзначаны нават вельмі незычлівыя адносіны. Сведчаннем гэтага ёсць спасылкі ў беларускіх календарах ГП БГКТ на 1996 і 1997 гады аб бязмысным абвінавачванні ўсяго беларускага насельніцтва ў незычлівасці да Польшчы, выказаныя іерархамі мясцовай каталіцкай епархіі архіепіскапам С. Шымэцкім, біскупам Э. Азароўскім і іншымі.

Публікаваныя лісты не менш вядомых каталіцкіх іерархаў міжваеннага і пасляваеннага перыядаў а. Язэпа Рэшаця і Янкі Тарасевіча сведчаць аб іх надзвычай дбайных адносінах да беларускай праблематыкі. Таму хочам прысвяціць ім крыху ўвагі.

Ксёндз Язэп Рэшаць нарадзіўся ў вёсцы Рушчаны каля Беластока, у сялянскай сям'і. Закончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю (1908—1913), якая была тады «кузьняй нацыянальна-рэлігійнай думкі» беларускага культурнага адраджэння. Пасля вучыўся да 1921 года ў вышэйшых установах Рыма, атрымаў свяшчэнне, доктарскую ступень і вярнуўся ў Вільна. Але «знайшоў замест сваёй дзяржаўнасці разгулле польскага дзікага нацыяналізму. Аб арганізацыі сваёй нацыянальнай Царквы, так усходняга, як і заходняга, абрадаў ня было мовы» (Ю. Трачук).

Працаваў у сваёй духоўнай семінарыі і ўдзельнічаў у беларускім тагачасным руху. Гераізмам Я. Рэшаця трэба назваць падпісанне разам са святарамі Абрамовічам, В. Гадлеўскім і А. Станкевічам пратэсту супраць падпісання Польшчай у 1925 годзе канкардату, асабліва забароне ўжывання беларускай мовы ў набажэнствах і катэхізацыі моладзі без дазволу епіскапа. Пасля гэтага ён трапіў у няласку да сваіх ерархаў.

У 1927 годзе, у час разгрому БСР «Грамады», новы епіскап, беларусаненавідзец Р. Ялбжыкоўскі, перавёў Я. Рэшаця ў Беласток, які тады лічыўся ў іх ссыльным месцам. Але тут а. Рэшаць хутка ўвайшоў у кантакты з беларускімі дзеячамі і моладдзю мясцовых сярэдніх школ. Падрыхтаваў таксама некалькі публікацый. Відаць, па гэтай прычыне зноў быў пераведзены ў вясковы прыход у Гельчына, а пасля — у Даўнары польска-беларускага этнічнага пагранічча. Замест чарговай ссылкі святар пачаў пашыраць сярод вернікаў пачуццё беларускасці і любоў да беларускай культуры. Падрыхтаваў нават некалькі п'есаў для моладзі. Гэтым разам трапіў пад надзор паліцыі. Аб гэтым сведчыць недапушчэнне да сустрэчы ў 1935 годзе з а. Янкам Тарасевічам, які дзеля гэтага прыехаў са Злучаных Штатаў Амерыкі.





Калектыў з Маліннікаў з абрадам вяселля. Агляд абрадавых калектываў-98 у Ласінцы. *Фота С. Грынявіцкага.*

У 1938 годзе, аднак, эміграваў у ЗША з думкай арганізацыі там беларускай місіянерскай групы. Але другая сусветная вайна паблытала яго планы, стаў манахам, затым многа працаваў (ведаў дзесяць моў), вельмі перажываў адарванасць ад бацькаўшчыны. Памёр у 1958 годзе ў Лаелі*.

---

* Дакладней з жыццём і дзейнасцю а. Я. Рэшаця можна пазнаёміцца ў артыкулах Ю. Трачука «Першыя ластаўкі Язэпа Рушчаньца». Ніва. 1992, № 11—12.

Першы ліст свайму «прелюбезному НМ!» — Мікалаю Марозу з вёскі Міневічы Заблудаўскай гміны а. Я. Рэшаць напісаў вясною 1946 года, а другі, як сам адзначыў, — «роўна праз год». Было гэта, аднак, аднаўленне папярэдніх блізкіх кантактаў. На жаль, апрача нейкіх запрашэнняў на адзначанне гадавін і сустрэч у Беластоку, нічога больш не захавалася, а ўсе старэйшыя члены сям'і Мікалая ўжо не жывуць. Вядома толькі, што ў пасляваенныя гады лістоў было даволі многа, у тым ліку на англійскай мове, якой адрасат не ведаў (лісты пісаў на рускай мове). Адзін з іх быў перакладзены на рускую мову, але, з увагі на недахоп фінансаў, справа была закінута, а пасля смерці М. Мароза лісты знішчаны. Захаваўся адзін толькі ліст а. Я. Тарасевіча з 1948 года — уражанне ён робіць!

Недзе ў гэтых жа гадах Марозы атрымалі пасылку ласункаў. Перапіску Мікалай Мароз падтрымліваў даволі доўга, але не заўсёды атрымліваў адказы. Святар Рэшаць цаніў інфармацыю і паважаў іх аўтара за разважлівасць у палітыцы, нацыянальную свядомасць, захоўванне талерантных адносін да іншых веравызнанняў, станоўчасць у абароне сваіх ідэалаў. Мікалай Мароз (1902—1962) паходзіў з сям'і харашчанскага валаснога пісара. Вучыўся ў Беластоцкім рэальным вучылішчы, але сярэднюю адукацыю закончыў, як беженец, у Палтаве. Некалькі гадоў быў студэнтам Харкаўскага тэхналагічнага інстытута. Да ўдзельнікаў рэвалюцыі не належаў, але ўспрыняў яе лепшыя ідэалы. У 1922 годзе вярнуўся на бацькаўшчыну ў вёску Паўлы. Хацеў прадоўжыць навуку ў Інстытуце сувязі ў Быдгашчы — не выйшла, потым — працаваць настаўнікам у Брэсцкай рускай школе, Заблудаўскай гміне і яшчэ невядома дзе, але ўсюды — з увагі на праваслаўнае веравызнанне — атрымліваў адказ. Звязаўся з прагрэсіўным людовым рухам, належаў нават да легальнай НПХ, за што трапіў на некалькі месяцаў у Бярозу Картузскую, а пасля быў арыштаваны за спробу нелегальнага выезду ў ЗША. Працаваў на гаспадарцы ў Міневічах, быў гмінным радным, а пасля вызвалення — першым войтам гміны ў Заблудаве, дзеячам людоўцаў, крыху працаваў у Беластоку і далей гаспадарыў.

Відаць, рысы характару і зацікаўленне беларускай праблематыкай адказвалі імкненням а. Я. Рэшаца, якога па-сапраўднаму цікавіла жыццё суродзічаў, становішча Праваслаўнай аўтакефальнай Царквы ў пасляваеннай Польшчы, будучыня Супрасльскага манастыра як помніка нашай даўніны, сляды Хадкевічаў у Заблудаве, новае жыццё ў Беларусі, праца беларускіх паслоў у польскім Сейме, выхад беларускай газеты ў Беластоку і многае іншае.

Лісты айцоў Язэпа Рэшаца і Янкі Тарасевіча друкуюцца з захаваннем моўных асаблівасцей.



Христос воскресе!
(у меня сегодня Пасха)

**Дорогой и прелюбезный НМ!**

Глубоко тронут Вашим благосклонным вниманием. Не знаю, право, как и возблагодарить Вас за столь любезное отношение ко мне. Картинки настоящего действительно прискорбны, но, как говорит Янка Купала: «ночка цёмная на сьвеце вечна не пануе». Все перемелется. Исторический ход действий, по мнению многих, развивается по таинственным, но в то же время определенным, законам. А следовательно: все к лучшему! Многие внушительно стремятся воздействовать на Бога, что, мол, не надоело ли Тебе возиться с этим дурацким человеческим родом, не пора ли было бы покончить с ним! Этих господ оспаривать мы не будем: это скептики или пессимисты. Оставим их в покое. Их заблуждения странны. Вот то ли дело мы! У нас явление совершенно противоположное. У нас: ни в сказке сказать, ни пером описать! Не знаю, с чего и начать: говорить ли о всемирном возрождении на незыблемых началах чего-то нового, прогрессивного, или же выставить на первый план, выдвинуть вопрос о будущем (оставим прошлое) Белоруссии, как передового отряда человечества на историческом пути нашего полушария? Но, во-первых, статья получилась бы слишком длинная, во-вторых — для Вас лично ничего нового не представляющая; в-третьих, забывать и того не надо, что язык мой — враг мой (в американском мировоззрении это особенно ценно, ибо молчание — золото); в-четвертых, и т.д., и т.д. Одно лишь сделаю примечание (совершенно мимоходом и про себя): идея и мания — это далеко не одно и то же. Да пусть их впрочем. Всяк с ума сходит посвоему. Перемелется. А вот еще одна, злободневная тема: уния! Заманчивая тема. «В зобу дыхание сперло», не знаю, право, что и как, вправо или влево, туда или сюда, словом, полная дезориентация, я потерял равновесие; простите меня, тут уж действительно я растерялся. Так и быть, оставим этот вопрос или, если угодно, поставьте мне круглую двойку, даже единицу, но говорить наотрез отказываюсь! Я не приготовлен. Возможно, Вы улыбнетесь; Вы скажете: к чему это пустословие? Очень просто, сегодня праздник, мечтательное настроение, хотя я, собственно, и не поэт, но все-таки человек, да и христианин (первой ранги!), так чего же стесняться? Мы ведь воспитываемся на демократических началах свободы, равенства!

Мой частный образ жизни не представляет никакого интереса: монотония и подруга ее — скука. Я надеюсь, мы встретимся с Вами в более оживленных обстоятельствах. Вот тогда запоем, как наш Игорь (известно наш!) ходил на половцев!

А пока желаю Вам счастливо оставаться в м и р е и р а д о с т и!

Преданный Иосиф Р. *(неразборчивая подпись)*

Христос воскрес!

1947

**Дорогой Николай М.!**

Итак, как видите, пишу Вам ровно в год!.. Пасха!.. Совпадение, во всяком случае, приятное и вместе с тем величаво-торжественное. Ведь же Пасха — Праздник Праздников!

Из Вашего письма заключаю, что жизнь у вас — кипятком! Да, действительно, строительство вещей общественного порядка, в послевоенных особенно условиях — дело нелегкое; оно поглощает много и внимания, и труда, и времени; требует притом немало терпения, снисходительности, великодушия. Но зато... сладко когда-то будет почивать на лаврах, душевно радуясь плодам своих благородных усилий, самоотвержения, своей жертвенной деятельности!

Разрешите обременить Вас еще одной дружеской повинностью. Вот у меня к Вам несколько вопросов: если это не сделает Вам большого затруднения, удовлетворите, пожалуйста, следующему моему любопытству:

I) Во-первых: жив ли и здрав ли отец Гушкевич (Белосток)? Почтенный старик — умный и хороший человек!

II) К какой епархии принадлежит в настоящее время Православие Белосточчины? Не к Варшавской ли?

III) Что из себя представляет в юридическом отношении и в фактическом сегодняшнем состоянии бывший православный монастырь в Супрасле? Кто в нем сейчас проживает и на каких условиях? Какова перспектива в будущем сего памятника нашей старины?



IV) Сохранились ли в Заблудове какие-либо исторические следы, воспоминания по Ходкевичах?

V) Издаются ли в настоящее время белорусские газеты в Белостоке?

VI) Вошли ли в польский парламент представители от белорусского населения Белосточчины?

Желаю Вам успеха во всех Ваших

общественных и частных предприятиях (*неразборчивая подпись латинкой: Решець).*

13-го лютага 1948 г.

**Дарагі Грамадзянін!**

Добры айцец Рэшэць даў мне прачытаць Ваша пісьмо. Вельмі цікава яно было для нас. Пішыце нам больш.

Нас вельмі трывожыць вапрос беларускіх бежанцаў ува Францыі, Германіі, Англіі і другіх краінах. Яны вельмі варожа настрояны да Савецкага Союзу і громяць яго і клянуць на чым сьвет стаіць праз сваю прапаганду. Для нас цікава ведаць, ці добра яны гэта робяць. Ім здаецца, што Савецкі Союз рухнець, калі не сягоння, дык заўтра, і яны вернуцца на Радзімую закладаць новы парадак жыцця — хрысьціянскую дэмакрацію! Але пытанне паўстаець: чаму хрысьціяне не ствáрылі дэмакраціі дагэтуль? Дык ці яны маюць права цяпер на тварэнне якой-небудзь дэмакраціі? Расея і другія краі былі цэлымі вякамі хрысьціянскімі краінамі, а бедным людзям жылося там страшэнна цяжэрна. Вялікія і сільныя гэтаго сьвету эксплятавалі іх, як толькі хацелі, і хрысьціянскія папы, ксяндзы, архіереі былі па старане крыўдзецялёў народа! Дык ці не супрацоўнічаць нам усім цяпер з тымі, каторыя сталі на чале народных масаў і хочуць паправіць іх цяжэрны лёс. Я духоўнік, як і айцец Рэшэць, але мы думаем крыху інačэй ад другіх духоўнікоў.

Увесь западны мір вельмі ваража глядзіць на Савецкі Союз. І гэта вялікае няшчасьця для людзкасьці — ад гэтаго асабліва церпяць народныя масы. Сільныя і багатыя гэтаго сьвету ад гэтаго ня церпяць. Ім хочацца другой вайны, каб шчэ большыя капіталы зрабіць для сябе. І нам здаецца, што беларусы, украінцы, палякі ў западных краёх, як ува Францыі, Германіі і другіх краінах, толькі і чакаюць гэтай вайны. Дык ці яны супраўды маюць здаровы розум?

Вот ужо і пост вялікі у Западнай Царкве! Трэба аддацца малітве і пасніčанню! Вялікі Магатма Гандзі можэць паслужыць для нас прыме-

рам! Ён бароўся не аружжам, а біў урагоў малітвай і постам. Каб гэтак рабілі і другія главары сярод розных народаў, дык сьвет быў бы куды іншым і лепшым — не тварылі б атомных бомбаў для знішчэння сваіх братоў і сёстраў.

У Праваслаўнай Царкве пост вялікі ў гэтым годзе крыху пазьней! Але пакуль гэта пісьмо зайдзець да Вас, дык ужо і ў Вас будзець Вялікі Пост. Помніце нас сярод сваіх малітваў і добрых хрысьціянскіх дзеянняў. Мы будзем помніць Вас. Прывет Вам ад нас вельмі шчыры! Цісьнем Вашу руку!

а. Аляксандр Тарасевіч

*Уладзімір Юзвюк*

## УСПАМІНЫ ХЛАПЧУКА

Сярод жыхароў нашай вёскі Трысцянкі ў канцы жніўня 1939 года пачалі хадзіць чуткі пра чарговую вайну. Аджылі ўспаміны ўсіх жудасцей з перыяду першай сусветнай з Германіяй. У адзін з такіх падвячоркаў кіраўнік мясцовай паўшэхнай школы Браніслаў Журавінскі запрасіў выпускнікоў апошняга, шостага, класа на развітанне. Палова бацькоў пайсці на яе дзецям не дазволіла, таму што ён, будучы членам ББВР і актыўным дзеячам «Стшэльца», надакучыў ім знявагамі і рознымі палітычнымі даносамі. Сабралася нас перад школай каля 20 асоб. Наш кіраўнік прыкідваўся вясёлым, а побач яго жонка Браніслава, таксама настаўніца, — плакала. Прамову пачаў узнёслым, патрыятычным, як заўсёды, тонам. Гаварыў аб непазбежнасці вайны з Германіяй, хуткай перамозе пры дапамозе Францыі і Вялікабрытаніі. Пажадаў нам, а мы яму, добрага здароўя і дастатняга жыцця.

Першыя дні верасня былі ў вёсцы сапраўды спакойныя. Змабілізавалі некалькі маладых мужчынаў у Войска Польскае і забралі ў вайсковым пункце Орля некалькі лепшых вазоў і коней на патрэбы арміі. Мой бацька таксама атрымаў за каня квітанцыю.

Недзе каля 10 верасня вакол вёскі паявіліся польскія жаўнеры. Уздоўж даліны ракі Нарвы невялікімі адзінкамі прайшла на ўсход кавалерыя, а з паўночнай яе стараны — пяхота. Адзін узвод накіраваўся ў наш стары сад, які знаходзіўся непадалёк дарогі. Салдаты разлажыліся на кароткі адпачынак. Адзін толькі афіцэр сядзеў на кані і зухаваў, быццам на парадзе, але моцна сачыў за абставінамі ў наваколлі. Да салдатаў падышоў мой бацька і дазволіў частавацца яблыкамі, якіх яшчэ было поўна на дрэ-






Калектыў пад кіраўніцтвам І. Лаўрэшука з Бельска Падляшскага.
*Фота С. Грынявіцкага.*

вах і на зямлі. Па-польску гаварыў ён слаба і, відаць, сваім акцэнтам выклікаў у афіцэра падазрэнне ў нечым дрэнным, таму што той нечакана загадаў жаўнерам пакінуць сад. Бацька запрапанаваў хоць пабольш набраць яблыкаў, але і гэтаму афіцэр востра запярэчыў. Салдаты крыху сфарміраваліся ў паходны строй і накіраваліся на ўсход.

Не паспеў я вярнуцца з саду да хаты, як убачыў на вясковай вуліцы велізарны абоз з фурманак. Тут дысцыпліны не было. Жыхары гутарылі з вазакамі, częставалі іх свежым малаком, пыталіся аб абставінах на фронце. Знеахвочаныя вазакі гаварылі, што накіроўваюцца ў Белавежскую пушчу, дзе далучацца да магутнага згуртавання, якое хутка пачне пераможнае контрнаступленне.

Нашыя мужыкі слухалі і хітравата ўсміхаліся. Ведалі з удзелу ў першай сусветнай вайне, што арганізаваць контрнаступленне з малых, бязладна адступаючых адзінак немагчыма. У натоўпе вясковага насельніцтва некалькі вазакоў пакінула абоз, а адзін з іх сякерай пабіў нават кола, і трэба было нейкія скрынкі пераставіць у іншыя вазы. Паколькі танкі і

гарматы, аб якіх гаварылі некаторыя вазакі, не падышлі, жыхары ацанілі, што на гэтым вайна закончылася. Значыць, канец і «панскай Польшчы».

У прыгнятаючай большасці яны не шкадавалі санацыйнай улады. Адчулі яе неталерантныя адносіны да беларускага мясцовага насельніцтва і безвыходнае эканамічнае становішча. Каб пражыць, загаспадарылі ўсе вясковыя землі, выпасвілі жывёлай дарогі, межы, выкарысталі магчымасці іншых заробкавых прац, але з бяды не вылезлі.

Адносіны да польскіх уладаў у нашай вёсцы пагоршыла канфіскацыя звыш 100 гектараў царкоўнай зямлі, якую яны прыдзялілі васьмі асадніцкім сем'ям з Мазураў як узнагароду за ўдзел у вайне з Савецкай Расіяй. Некаторыя асаднікі адносіліся да мясцовага насельніцтва даволі варожа.

Усяго праз некалькі дзён пасля адыходу Войска Польскага ў вёсцы з'явіліся немцы і таксама конны абоз, без цяжкай зброі. Першае ўражанне выклікалі велізарныя коні і вазы. Ды самі салдаты паводзілі сябе так, быццам прыехалі да нас у госці. Былі вясёлыя, прыхільна адносіліся да ўсяго насельніцтва, намагаліся гаварыць з ім па-руску. Старэйшых частавалі румам, дзяўчат і дзяцей — шакаладкамі, а пры тым заахвочвалі спяваць беларускія і рускія песні, асабліва «Волга, Волга» і танцаваць пад акардэонную музыку. «Вось гэта культура», — гаварылі старажылыя жыхары. Праз некалькі дзён мы даведаліся ад тых жа немцаў, што тут «будзе рус». Аб ніякіх дагаворах «Рыбентроп—Молатаў» ніхто не меў ніякага паняцця. Праўду кажучы, мала ведалі і аб Савецкім Саюзе.

Ноччу нечакана немцы пакінулі вёску, а пад вечар паявіліся на танкетках, танках, грузавіках часці Чырвонай Арміі. Невядомая дагэтуль зброя выглядала грозна. Мужыкі набліжаліся да яе асцярожна і з недаверам.

Адзін з танкаў затрымаўся на вуліцы насупраць нашай хаты. З яго высеў чырвонаармеец у вельмі дзіўнай шапцы і папрасіў бацьку прынесці напіцца вады. А той спытаў: «Можа паесці?» Хутка ўвесь экіпаж, апрача дзяжурнага, засеў за стол. Бацька праінфармаваў іх аб сваім удзеле ў першай сусветнай вайне і спачуванні салдацкаму жыццю. Пачаліся пытанні-адказы, маці, тым часам, насмажыла горбу яек на сале, падала хлеб і малако. У нейкі момант адзін з чырвонаармейцаў пацягнуў рукой па сцяне і спытаў бацьку, ці ён з кулакоў. Для нас зварот яшчэ не быў даволі зразумелы, але бацька адказаў яму, што амаль усе хаты ў вёсцы збудаваныя з абразнога дрэва. Нехта з іх заўважыў, што ўсе кулакамі быць не могуць. Развітваліся мы шчыра, адзін баец пакінуў нам нават крыху воблы.

Наш сусед-старэча заўважыў, што на такіх танках да самага Берліна даехаць можна.

Танкі хутка ад'ехалі на захад, а сваім грохатам нанеслі жыхарам перапалоху. На тым для вяскоўцаў, без адзінага выстралу, закончылася вайна, а дакладней — яе пачатак.





Калектыў «Каліна» з Дашоў. *Фота С. Грынявіцкага.*

Хіба ці не ў той самы дзень моладзь пабудавала ў канцах вёскі і перад школай прывітальныя брамы. Праз некалькі дзён у вёску пачалі прыязджаць агітатары. На школьнай спартыўнай пляцоўцы пачалі праводзіцца мнагалюдныя мітынгі, на якіх з палымянымі прамовамі выступалі, апрача агітатараў, мясцовыя беспрацоўныя дагэтуль настаўнікі, Андрэй Сяргеюк і Ігнат Савіцкі, і нават сяляне. Нам, хлапчукам, такія мітынгі падабаліся.

Пасля стварэння нейкай першай вясковай улады быў створаны камітэт падзелу сялянам царкоўнай зямлі, раней перададзенай асаднікам. Ім таксама выдзелілі па некалькі гектараў і пакінулі спакойна гаспадарыць.

Увага дзяцей была, аднак, накіравана на школу. Будынак быў той жа, але атмасфера іншая. Мы перасталі баяцца настаўнікаў, гаварылі і спявалі па-свойму, нават настаўнікаў спачатку называлі па-вясковаму — «дзядзькy». З шасцікласнікаў і старэйшых на 3—5 гадоў пераросткаў быў арганізаваны пяты клас, а малодшыя вучні выдзелены ў ніжэйшыя класы, часта туды, дзе было яшчэ месца. Да канца 1939 года ўсе мы знаёміліся з беларускай і рускай мовамі і выпраўноўвалі праграмы па іншых прадметах. Паявілася ва ўсіх вучняў нейкая цяга да навукі, а ўслед за ёю — поспехі, якімі настаўнікі не маглі нацешыцца.

Апрача школьных заняткаў існаваў шасцідзесяціасабовы школьны

хор, драматычныя і дэкламатарскія гурткі, «чытальны кружок» і іншыя формы пазакласных заняткаў. «У школе было цудоўна», — так яшчэ зараз выказваюцца былыя яе вучні.

У маёй памяці 1939 год закончыўся мітынгамі, навукай у школе і ажыўленай культурнай дзейнасцю ў асяроддзі, у якой я прымаў актыўны ўдзел.

*Уладзімір Юзвюк*

## «ЛІНІЯ КЕРЗАНА»

Спаўняецца васьмідзесятая гадавіна ўвядзення ў гісторыю назвы «Лінія Керзана». Вярхоўны савет Антанты рэкамендаваў яе 2.12.1919 года як усходнюю граніцу незалежнай Польшчы. З такой прапановай на яго пасяджэнні выступіў лорд Г. Керзан, які ў той час быў міністрам замежных спраў Вялікабрытаніі. Менавіта яго прозвішчам назвалі запрапанаваны адрэзак дзяржаўнай граніцы ад ракі Буг па паўночную Сувальшчыну. Сам ён быў прыхільнікам Польшчы, разам з Ю. Пілсудскім стварыў нават блокі краін для барацьбы з Савецкай Расіяй. Аднак складзенае становішча на ўсходнім фронце пасля астаўлення гэтага фронту аўстра-венгерскімі і нямецкімі войскамі і занятце іх пазіцый польскімі легіёнамі, ацэньваў крытычна. Запрапанаваная ўпамянутаму савету дзяржаўная граніца незалежнай ужо Польшчы праходзіла амаль 400 кіламетраў на захад ад тагачаснага савецка-польскага фронту. Прапанова Г. Керзана была адкінута таму, што беларуская акупацыйная прастора адказвала імкненням усіх польскіх нацыяналістычных арыентовак.

У дэкларацыі Вярхоўнага савета Антанты гаварылася, што Польшча мае права арганізаваць сваю адміністрацыю на тэрыторыі былой Расійскай імперыі, якая знаходзіцца на захад:

«ад пункта, дзе даўняя граніца паміж Расіяй і Аўстра-Венгрыяй сустракаецца з ракою Буг, і да пункта, дзе яна перасякае адміністрацыйную граніцу паміж паветамі Бельск і Брэст Літоўскі: цячэннем Буга ўніз;

адтуль на поўнач — гэтая адміністрацыйная граніца да пункта, дзе ствараe востры вугал, каля 9 кіламетраў на паўночны ўсход ад Мельніка; адтуль на паўночны ўсход да пункта цячэння Лясной Правай, дзе яе рэчышча перасякае лясная дарога ў напрамку з поўдня на поўнач, каля 2 кіламетраў на захад ад Скупава;

лінія, якая мае быць праведзена на месцы, пакідае ў Польшчы вёскі: Верпаль, Стоўбцы, Пішчатка і Волька і перасякае чыгунку з Бельска да Брэста Літоўскага, а затым дарогу з Высокага Літоўскага да Кляшчэляў;

адтуль на поўнач, да пункта, дзе дарога Нарва—Нараўка перакрэшчваецца з чыгункай Гайнаўка—Свіслач;



лінію вызначыць на месцы і ўздоўж вышэйупамянутай лясной дарогі;

адтуль на паўночны ўсход да пункта, які знаходзіцца 4 кіламетры на поўнач ад Ялоўкі, дзе рака Свіслач спалучаецца з той ракой, якая плыве праз той жа горад;

лінію ўстанавіць на месцы;

адтуль уніз цячэннем Свіслачы, пасля ўверх Ляшанкі і Лікоўкі $1^1/_2$ кіламетра навакол на захад ад Баранава;

адтуль на поўнач, паўночны захад да пункта чыгункі Гродна—Кузніца...»*

*(Пераклад з польскай мовы. — У.Ю.)*

«Лінія Керзана» не адпавядала ніякім крытэрыям дзяржаўнай мяжы. Быў праігнараваны прынцып мяжы: этнічнай, даследаванай у XIX стагоддзі, веравызнаўчай, вядомай намнога раней, гістарычнай і нават натуральнай, да якой імкнецца кожная краіна. Можа, па гэтай прычыне сталася яна шырмай ў ваенных дзеяннях Польшчы і Савецкай Расіі.

Пакуль польскія войскі знаходзіліся ў глыбіні беларускіх зямель на лініі: Дынебург, Полацк, Барысаў, Бабруйск і Пціч, «лініі Керзана» не прызнавала Польшча, а калі Чырвоная Армія набліжалася да Варшавы, яе ігнаравала Савецкая Расія.

Вялікім парушэннем гэтай лініі быў падзел беларускіх зямель у 1921 годзе згодна з Рыжскім мірным дагаворам, паводле якога польска-савецкая граніца ўстаноўлена каля 200 кіламетраў на ўсход ад яе, а пасля дваццаці гадоў — уз'яднанне Беларусі ў 1939 годзе і ўстанаўленне нямецка-савецкай граніцы ў 150 кіламетрах на захад ад той жа лініі.

«Лінія Керзана» была ўпамянута на Крымскай канферэнцыі ў Ялце. Гэта тады, 7.02.1945 года, І. Сталін унёс прапанову савецкай дэлегацыі наступнага зместу:

«1. Лічыць, што граніцай Польшчы на ўсходзе павінна быць лінія Керзана» з адступленнем у некаторых ваколіцах на 5—6 кіламетраў у карысць Польшчы»**. Прапанову прыняў адразу прэзідэнт ЗША Ф. Рузвельт.

На аснове гэтай пастановы 16.08.1945 года ў Маскве быў падпісаны дагавор паміж СССР і Народна-дэмакратычнай Польшчай аб савецка-польскай граніцы. Гэтым разам «лінія Керзана» перастала быць шырмай. З насельніцтва усходняй Беласточчыны створана беларуская нацыянальная меншасць.

---

* Dokumenty i materiały do stosunków polsko-radzieckich. Tom II, PAN-AN ZSRR, 1961, s. 482 + карта.

** «Polityka». 1965, с 437.




*Уладзімір Юзвюк*

# БГКТ У ШАСЦІДЗЕСЯТЫЯ ГАДЫ

## Факты, успаміны

### Адыход з працы

Пачатак трэцяй і апошняй кадэнцыі выбару мяне на сакратара Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку супаў з запрашэннем наведання свайго геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта дзеля аднаўлення кантактаў. На сустрэчы з выкладчыкамі пахваліўся публікацыямі і, відаць, таму быў прыняты ў завочную аспірантуру. Дысертацыю на тэму «Паўднёвы ўсход Беластоцкага ваяводства» падрыхтаваў у 1967—1968 гадах. У адарванні ад навуковых цэнтраў, перацяжаранні працай у БГКТ і без добрага валодання беларускай мовай, на якой выграшыў яе пісаць, прыйшлося салідна папрацаваць*.

Пачаў я задумвацца над сваёй будучыняй. На працягу дзевяці гадоў працы перажыў многа добрага і дрэннага, надакучыў дзеячам таварыства ўцягваннем іх у грамадскую працу, за якую ўзамен нічым аддзячыць не мог. У ТППР цанілася нават ахвярнасць ідэям арганізацыі, а праца ў БГКТ сцягвала на дзеячаў падазрэнні ўладаў. Пачаў я ў апошняй кадэнцыі заўважаць нейкія ненармальныя адносіны таксама і да мяне. Недавер узрастаў з кожным годам. На пасяджэннях крытычныя заўвагі прысутных у адрас уладаў успрымаліся нармальна, а мае занатоўваліся дзеля таго, каб адразу ў падсумаванні даць адмоўны адказ і пераканаць усіх удзельнікаў, што сакратар ГП БГКТ не меў рацыі. Мяне такія адносіны не пужалі, хваляваў той факт, што траціць на такіх адносінах арганізацыя. Было праведзена сачэнне за многімі дзеячамі па месцы жыхарства, але аб ім успамяне, можа, нехта іншы. Мяне абурала дурнота прадстаўнікоў некалькіх мясцовых уладаў.

З нагоды 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ГП ТППР запрапанавала ўсім выпускнікам савецкіх вузаў наведаць іх і прыняць удзел у свят-

* Дысертацыю абараніў у сакавіку 1970 года. На абароне прысутнічала каля 160 працаўнікоў мінскіх вузаў і ўстаноў. Ажыўленая дыскусія вялася ў асноўным на беларускай мове і ніякіх засцярог гэта не выклікала. Ці адбыліся чарговыя абароны на такой жа мове — не ведаю.




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Пасол У. Цімашэвіч на гала-канцэрце V агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-98». *Фота С. Грынявіцкага.*

каваннях гадавіны. Адзначана магчымасць адбыцця сустрэч і выступленняў з дакладамі. Я вырашыў скарыстаць гэтую рэдкую магчымасць і падаў тэму: «Беларусы ў Польшчы». Атрымаў пісьмовае пацвярджэнне, на аснове якога была арганізавана сустрэча з усімі студэнтамі геаграфічнага факультэта. Прайшла яна паспяхова. Шматлікія пытанні сведчылі аб зацікаўленні такой праблематыкай. У цэлым інфармацыя з сустрэчы паўздзейнічала на карысць нашай краіны. Праз некалькі месяцаў пасля я даведаўся, што абураныя працаўнікі Аддзела прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку адшукваюць нейкага лектара «Влодзімежа», які ў сталічным універсітэце Беларусі выступіў з дэмагагічнай тэмай, у той час, калі «ніякай беларускай праблемы на Беласточчыне няма і распаўсюджваць вестак аб ёй няма патрэбы». Гаварні было многа, а калі дайшла да БГКТ, занёс я абвінавачвальнікам дазвол ГП ТППР і папрасіў не рабіць з легальнай сустрэчы сенсацыі.

Іншым разам вымушаны быў вытлумачыцца ў партыйным кантролі ПАРП з нагоды недарэчнага закіду — наконт растрачвання фінансавых сродкаў таварыства. Аказалася, што пасля няўдалай спробы арганізавання



праз БГКТ экскурсіі ў Мінск бухгалтэрыя вярнула Гайнаўскаму ПЗГС, старшынёй якога быў праследуемы тады Кастусь Майсеня, уплачаныя за свой актыў грошы, але на іншы рахунак (конта) установы. На заканчэнне размовы я выказаў свае меркаванні, што закід мяне не тычыцца, ён быў накіраваны супраць К. Майсені, але добрых маіх адносін да яго такая гутарка не пагоршыць. Чуўся я на становішчы сакратара адносна пэўна. Можа, па сваёй наіўнасці і веры ў сацыялістычную справядлівасць часта выходзіў у дзейнасці за накінутыя беларускаму таварыству рамкі. Было гэта найбольш заўважальна ў публікацыях 1967—1969 гадоў, поўных супярэчлівасцей і нават фальшу, калі сутыкнуўся з гэтай літаратурай для дысертацыі.

У артыкуле «Падляшша ці Подлясе» *(«Ніва». 1967. № 44)* выказаўся за ўжыванне адносна тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны гістарычнага тэрміну «Падляшша», а да былога Падляскага ваяводства — «Падлясе». Атрымаў закід: дзеля якіх мэт мае служыць такая змена назваў?

За апублікаванне артыкула «Колькі нас ёсць» *(«Ніва». 1967. № 51)* вытлумачваўся спачатку галоўны рэдактар тыднёвіка Г. Валкавыцкі, а пасля паклікалі мяне ў Адміністрацыйны аддзел ВК ПАРП на гутарку, у якой удзельнічалі яго супрацоўнікі; старшыня Нацыянальнай камісіі пры ВК ПАРП, якой я быў членам, З. Дамброўскі і прадстаўнік Аддзела ўнутраных спраў М. Куц. Закід датычыў налічэння паміж этнічнай мяжой (*па Ю. Ярашэвічу* — 1844 г.) і сучаснай дзяржаўнай граніцай паміж Польшчай і Беларуссю 375 тысяч беларусаў, замест прынятых тады лічбаў каля 200 тысяч жыхароў. Абурэнне было вялікае, але гутарка прайшла даволі спакойна толькі таму, што я ва ўступе паведаміў прысутным, быццам такія падлікі патрэбны да лепшага выконвання статутовай дзейнасці БГКТ. Дасталася мне мала, але ўдзельнікі сустрэчы, відаць, залічылі мяне да ненадта надзейных карэспандэнтаў «Нівы».

Пасля дваццаці гадоў, у зусім змененых палітычных абставінах у нашай краіне, я вярнуўся да ўпамянутай вышэй праблемы, правёў аналагічным метадам падлікі беларускага насельніцтва чарговы раз і атрымаў яго — каля 350 тысяч чалавек *(«Ніва». 1987. № 12)*. Гэтым разам ніхто не звярнуў на артыкул ніякай ўвагі.

Праблема акрэслення ліку беларусаў на ўсходняй Беласточчыне дагэтуль вырашэння не дачакалася, паспела толькі вырасці да камізму. *«Часопіс» (1997. № 12)* услед за А. Садоўскім падае, што зараз ёсць нас у Беластоцкім ваяводстве каля 75 тысяч.

Даволі незычліва былі прыняты таксама мае заўвагі аб кніжцы памяці па загінуўшых у барацьбе за народную ўладу на Беласточчыне, у якой не пададзена нават месца нараджэння ахвяраў.

Занятасць днямі і вечарамі, у святы (далічыўся я ў адным годзе за-




Спявачка Н. Цыванюк з Гарадка. *Фота С. Грынявіцкага.*

нятымі 37 нядзель), частыя выезды надакучылі ўжо мне і сям'і. Падрасталі дзеці і трэба было ўсур'ёз імі заняцца. Таму перад чарговым з'ездам БГКТ зноў паведаміў Прэзідыум ГП аб сваім адыходзе. Пачаліся пошукі кандыдата. Энтузіястаў да працы ў таварыстве не было. Прыпомнілі пра энергічнага дзеяча маладзёжных арганізацый Янку Зенюка. На гэтым мая роля закончылася.

VI з'езд БГКТ падрыхтавалі старыя супрацоўнікі без перашкод. Адыход ад выбарных грамадскіх спраў пасля многагадовой працы даволі



прыкры. Трэба было зычліва расстацца з усімі дзеячамі, а гэта расчульвала і хвалявала. Не аднойчы прыйшлося выслухаць і публічныя падзякі за працу, і крытычныя, але шчырыя, заўвагі за дапушчаныя хібы.

Нечакана з трыбуны VI з'езда, які адбыўся 11.05.1969 года, я пачуў ад сакратара ВК ПАРП у Беластоку Вітальда Мікульскага толькі словы абвінавачанняў і пагарды. Мы ніколі не былі прыяцелямі, але нейкую культуру дыскусій захоўвалі. І хоць на з'ездзе ў мой адрас ад дэлегатаў істотных закідаў не было, а дасягненні БГКТ у міжз'ездаўскі перыяд ацэнены станоўча, сакратар нічога добрага ў адрас таварыства сказаць проста не хацеў. Верны сваёй стратэгіі беларусаненавісніка, выбраў тактыку прыніжэння і абражання некалькіх актыўных дзеячаў, і ў першую чаргу мяне. Відаць, прызнаў аўтарытэты ў БГКТ за з'яву шкодную і пры нагодзе з'езда вырашыў з імі расправіцца. Прыпомніў перапказанне маіх некалькіх «спраў» партыйнаму кантролю (глядзі вышэй!), разважаў нават аб патрэбе паведамлення ў пракуратуру (!), але не выказаў абвінавачання; далей гаварыў, што, паводле яго ацэнкі, вынікі працы таварыства даволі станоўчыя, а мае — надта мізэрныя, і ў такім напрамку аратарстваваў каля 15 мінут. Мне слухаць яго выступленне было вельмі прыкра, але на закіды вырашыў не адказваць. Прычына выступлення была зразумелая, не было ўпэўненасці, ці ўзгоднена з усім кіраўніцтвам ВК ПАРП. Лічыў я, што адказ на выступленне дасць нехта з вядомых дзеячаў таварыства. Яны, аднак, маўчалі.

Дэпрэсійныя абставіны выратавала дзяячка з Гарадка Ніна Цыванюк. Яна выступіла з вострай рэплікай, змест якой быў такі: як простая вясковая жанчына, яна інакш ацэньвае працу пакідаючага працу сакратара, што замест пужання трэба мне шчыра падзякаваць і жычыць сто год жыцця. Нечакана ўсе прысутныя ўсталі і адспявалі мне «Сто год». Не даведаемся, мусіць, мы ніколі, як гэты факт ацаніў сакратар В. Мікульскі, але я зразумеў яго як вялікую ўдзячнасць прысутных у зале ўдзельнікаў з'езда за працу і адначасна моцную аплявуху нахабніку. На наступны дзень высветлілася, што змест выступлення сакратара не быў калегіяльнай ацэнкай дзеячаў ГП БГКТ. Хацеў я гэты змест, запісаны на стужку журналістам «Нівы» Віктарам Рудчыкам, перадаць са скаргай ВК ПАРП на разгляд. Але журналіст адказаў, што існуе дамоўленасць, паводле якой змест будзе дапрацаваны і тады пададзены да ведама чытачоў беластоцкай прэсы.

Сапраўды, зусім змененае па зместу выступленне апублікавана ў «Беларускім календары» за 1970 год. У гэтую перапрацоўку, якая мяне ўжо не тычыцца, трэба ўважліва ўчытацца. Сакратар аказаўся дасведчаным палітычным маніпулянтам. Некалькі першых сказаў прысвяціў ён падхвальванню арганізацыі, пасля прывёў надуманыя закіды аб упадку бе-

ларускай песні, адыходзе дзейнасці БГКТ ад сучаснасці да мінуўшчыны — БСР Грамады і КПЗБ (апошняй мы шырока не адзначалі, а на з'ездзе ён аб гэтым не ўспамінаў), пасля крытыкаваў патрабаванні «штатнай культуры», а гэта значыць — выступаў супраць існавання штатнай эстрады «Лявоніха» і ўтрымлівання працаўніка Беларускага музея ў Белавежы. У гэтым выступленні, паводле мяне, закладзены фундамент ліквідатарства ўпамянутых напрамкаў найбольш эфектыўнай дзейнасці БГКТ. Выканала яго крыху пасля кіраўніцтва арганізацыі сваімі рукамі.

Пасля з'езда мне хацелася падзяліцца з новым сакратаром ГП вопытам у працы, а затым спакойна вярнуцца ў Настаўніцкую студыю. Аказалася, што майго прадмета там не існуе. Прапанавана мне было месца кіраўніка ваяводскага асяродка ўдасканалення працаўнікоў радаў нарадовых у Супраслі. Ад прапановы адмовіўся таму, што з дзяржаўнай адміністрацыяй ніколі не быў звязаны. І на гэтым аказаўся забытым.

У такіх неакрэсленых абставінах у чэрвені 1969 года выехаў на экзамены. Некалькі месяцаў старанна рыхтаваўся да філасофіі, сваёй геаграфіі і рускай мовы, якая для мяне была замежнай. Вярнуўшыся даведаўся, што тэрмін майго выхаду з таварыства назначаны на 30 верасня 1969 года. Хацеў праз дац. А. Барвіюка трапіць у Політэхнічны інстытут у Беластоку і атрымаў нават згоду рэктара дац. Уладзіміра Хомчыка, а пасля адмоўны адказ, матываваны катэгарычным загадам сакратара ВК ПАРП В. Мікульскага. Я тройчы намагаўся з ім сустрэцца, але так і не быў прыняты. Дамінавала арагантнасць у адносінах да такіх членаў, як я. Два чарговыя месяцы заставаўся без працы.

Дзякуючы прыхільнасці Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП атрымаў прапанову на месца намесніка дырэктара ваяводскага Аддзела сацыяльнага забеспячэння ў Беластоку. Выказаў згоду таму, што ва ўмовах канцэнтрацыі кадравай палітыкі становішча ўскладнялася і нечым трэба было заняцца. У новай установе быў сустрэты прыхільна, але мне была даручана найбольш адказная пенсіённая справа, аб якой я дагэтуль нічога не ведаў. Працавалася добра, але звязваць сваю будучыню з ЗУСам не хацеў.

Кантакты з БГКТ былі слабыя таму, што адчуваў непрыхільныя адносіны. Перастаў эмацыянальна ангажавацца ў працу, але новаму кіраўніцтву не перашкаджаў. Мне здавалася, што ўведзеная атмасфера шумлівасці і празмернага выслужвання ў выконванні добрых і дрэнных загадаў улад з часам згасне. Па гэтай прычыне заставаўся яшчэ ў складзе Прэзідыума ГП, але асаблівай актыўнасці не выказваў.

Адначасова з працай ў ЗУСе пачаў апрацоўваць раней сабраны матэрыял для «Нівы». На працягу 1970 года падрыхтаваў найвялікшы цыкл ілюстраваных артыкулаў на тэму знешняга ўпрыгожвання хат паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, чым да сёння ганаруся. Але ў наступныя некалькі гадоў не зрабіў ні адной апрацоўкі. Прычын было многа.

У 1971 годзе БГКТ адзначала пятнаццацігоддзе існавання. Было, як ніколі дагэтуль, многа ўрачыстасцей, сустрэч, змешчана многа апрацовак у «Ніве» з велізарнымі фота, адбылося пленарнае пасяджэнне. Узнагародзілі каля 190 дзеячаў, у тым ліку ўсіх былых старшынь і сакратароў ГП і аддзелаў, апрача мяне. Праўда, я знайшоўся разам з невядомай мне дагэтуль у грамадскай дзейнасці З. Красоўскай і вельмі заангажаваным у працы, асабліва ў Варшаўскім аддзеле, Юркам Туронкам пад грубай рысай ўзнагароджаных і атрымаў некалькі тамоў «Беларускай савецкай энцыклапедыі» (апошнія тамы ўручалі мне цэлае дзесяцігоддзе). Некаторыя ўдзельнікі пленума заўважылі гэты факт ігнаравання як працяг з'ездаўскага інцыдэнта. Але я моцна яго не пераживаў.

Канчаткова кантакты папсавала форма допыту ў справе разліку грашовых збораў на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Гэта слушна, што фінансавы кантроль МУС захацеў глянуць на прыпынены ўжо некалькі гадоў раней збор і дакументацыю. Але яе ў БГКТ пасля майго адыходу недзе падзелі (пасля знайшлі!). Мае тлумачэнні фінансавай працэдуры, якой кіравалі бухгалтэрыя і ўпамянуты камітэт, не памаглі, нават прадстаўленая копія справаздачы, таму што не прызнаваў гэтага сакратар ГП Янка Зенюк. Замест абароны члена свайго Прэзідыума я пачуў абвінавачанні. Ведаў ён, што перад сустрэчай былі праведзены размовы з працаўнікамі таварыства, якія ў свой час прымалі ўдзел у зборы ахвяраванняў на музей і што надзіральнік грамадскіх арганізацый ВРН Мікалай Куц паведаміў майму дырэктару, які западозранні назваў недарэчнымі. Было балюча тое, што аб гэтым факце пачаў гаварыць актыў БГКТ. Мы, пасля допыту, непрыемна разышліся на цэлае пяцігоддзе.

Усю разліковую дакументацыю знайшоў у шафе сакратара Я. Зенюка новы штатны старшыня ГП Мікалай Самоцік. Вялікае яму дзякуй!

Да канца сямідзесятых гадоў яшчэ тры разы выбіраўся я ў склад Галоўнага праўлення. У міжчассе атрымаў працу згодна з маімі зацікаўленнямі: васемнаццаць гадоў быў выкладчыкам геаграфіі беластоцкага аддзела Інстытута ўдасканалення настаўнікаў і кіраўніком кафедры («закладу») агульнаадукацыйных прадметаў, у якім працавала каля 120 выкладчыкаў і метадыстаў Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў.

Ад 1980 года ўвайшоў у склад Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ, якую пасля тры разы ўзначальваў, і так ужо засталося да сёння.



9. Зак. 5488.

# ЛІТАРАТУРНАЯ ЧАСТКА

*Віктар Швед*

## ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ МОВЫ

Цябе аплявалі, табой пагарджалі
І звалі хамскаю, звалі сялянскаю,
Цябе пакідалі, хоць часта і з жалем,
Мовы шукалі прыгожае, панскае.

І паплыла ў беларускія хаты
І агрэсіўная, і беспардонная,
І рускага брата, і польскага брата,
Быццам паводка, стыхія моўная.

Можа надыдзе гэткае свята,
Што родная мова да нас зноў прытуліцца?
Нат загаворваць на ёй бюракраты,
Якія выгналі мову і з вуліцы?

Ды пасадзілі яе за краты
З перакананнем, што стуль і не вернецца,
І будзе мова старэйшага брата
Царстваваць вечна ў найменшай аселіцы.

Усмерціць мову, аднак, не ўдалося,
Рухнулі планы іх беспадстаўныя,
Моўны палетак зноў спеліць калоссе —
Становіцца мова наша дзяржаўнаю.

Наша ўваскрэслае роднае слова
Зноў паплыве над палямі, дубровамі.
І беларуская зойме зноў мова
Пачэсны пасад сярод іншымі мовамі.



## ТРЭБА ВУЧЫЦЦА КАХАЦЬ ЛЮДЗЕЙ

Śpieszmy się kochać ludzi,
Tak szybko odchodzą
*Ян Твардоўскі*

Нас выкрадаюць адгэтуль гады,
На нашай зямельцы мы толькі госці.
Быў жа тут нехта яшчэ малады
І нечакана спачыў на пагосце.

А як жа многа сумных падзей
І калатнечы ліхой ў народзе!
Трэба вучыцца кахаць людзей,
Надзвычай хутка яны адыходзяць.

Мы не спраўляемся з нашым жыццём,
Не пражываем яго сур'ёзна.
Не ўзбагачаем людзей пачуццём,
Кахаем замала або запозна.

## РЭЧАІСНАСЦЬ

У таўпе таўкуся
Нямых беларусаў.
Яны і глухія,
Яны і чужыя,
Калі скажу слова
У іх даўняй мове,
Калі адазвуся
Наконт Беларусі.
Тут нашы «людкове»
Ўжо пані, панове,
Яны ў Беластоку —
Палякі навокал.



Школьны калектыў з Гарадка. *Фота С. Грынявіцкага.*

## ДЗІЎНЫ ГОРАД БЕЛАСТОК

Сталі мы свайго цурацца,
А нас мо тут і палова.
Дзетак-школьнікаў пятнаццаць
Вывучае сваю мову.

Карысць нам з таго малая,
Гэта ж толькі кропля ў моры.
Ад свайго заўжды ўцякаем,
Гэта сум наш, наша гора.

Тут імкненне ўжо такое,
Каб палякамі ўсе сталі.
Сядзім як мыш пад мятлою,
Каб нас толькі не кранаді.



Будучыня — нецікавая,
Расплываемся ў краіне.
Відавочна, неўзабаве
Тут і след па нас астыне.

## МЕТАМАРФОЗА

Маці калісь яму спявала
На роднай мове калыханкі.
А потым захапіў Купала,
І стаўся ён таксама Янкам.

Знайшоўшыся ў палоне Фета,
Траціў у роднае пашану.
Зрабіўся модным больш паэтам,
З Янкі становіцца Іванам.

Ну а ўжо потым, як вядома,
Так распанеў ён нечакана,
Што не завецца па-другому,
Як толькі афіцыйным Янам.

## ПАЭТАЎ ЦЭНЯЦЬ ПАСМЯРОТНА

Адышоў ад нас паэт
Туды, адкуль няма звароту.
І пасмутнеў раптоўна свет,
І пачаліся тут турботы.

Ды на парозе небыцця
Жывых кранула на хвілінку:
Неацанілі за жыццё
Надзвычай здольнае адзінкі.

З мясцовых нават нехта ўлад
Пачаў тут дамагацца цвёрда,
Каб хутка вынесці загад:
Паэту прыдзяліць крыж-ордэн.

А будзе сэнс з таго які ж,
Што нешта ўсё-такі зрабілі?
Памерламу паэту крыж
Сям'я паставіць на магіле.

## СТАРЭЧЫ

На лаўках вулічных старэчы
Ля ўжо старых вясковых хатак,
На цёплым сонцы грэюць плечы
У дні будзённыя і святы.

Вясна прыгожая такая,
Птушкі яе красу галосяць,
Уся прырода расцвітае,
У іх, старых, паўсюдна восень.

Найбольш самотныя на свеце,
Сядзяць маўклівыя ў маркоце.
У гарадах унукі, дзеці,
Цяжка ім жыць тут у самоце.

І думаюць яны аб нечым,
Часта аб тым, што час памерці.
Сядзяць на лавачках старэчы
І выглядаюць сваёй смерці.

## ЧАСАМ ДЛЯ ШЧАСЦЯ МАЛА ТРЭБА

Помніцца летняя нядзеля.
Я са знаёмаю асобай
У гарадскім натоўпе селі
У перапоўнены аўтобус.

Знаёмы адазваўся гэтак
З настроем радасна-прыўзнятым:
— А я ўжо езджу без білета!
(Мінуў яму семдзесят пяты.)





Калектыў «Арляне» з Орлі. *Фота С. Грынявіцкага.*

Сэрца маё засумавала:
Усім вядомае спрадвеку,
Што ўжо для шчасця вельмі мала
Трэба старому чалавеку.

## АЧАЛАВЕЧАНЫЯ ДРЭВЫ

*Народнаму разьбяру*
*Уладзіміру Наўмюку*

У маляўніча-казачным ваколлі
Нарвы, санліва-ласкавай ракі,
Жыве сваёю незавіднай доляй
Загубленая вёска Канюкі.

У ёй, над стромкім берагам пясчаным,
Вырас таленавіты самавук,
З душой крылатай, сэрцам палымяным,
Разьбяр народны Уладзімір Наўмюк.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Тут у камлях драўніны цвёрдай мары
Здзяйсняе працай здольных рук сваіх,
Аднавяскоўцаў ажываюць твары,
Уваскрасаюць постаці Святых.

О, колькі ж хараства ў разьблёных працах,
Які ж цудоўны гэта Божы дар!
Мы не маглі б бясконца захапляцца,
Калі б не тхнуў у іх душу разьбяр.

## ВАЛЯНЦІНА

Так тужу я па табе
Тут у кожную хвіліну.
Я жыву заўжды ў журбе,
Валянціна, Валянціна.

Прывялі мяне сюды
Майго лёсу каляіны.
Без цябе больш нікуды,
Валянціна, Валянціна.

Так імчыць стралою час,
Вось і наша гадавіна.
Пачуццё яднае нас,
Валянціна, Валянціна.

Я наяве, нат у сне
Еду да цябе няспынна.
Калі ж стрэнеш ты мяне,
Валянціна, Валянціна?

## ЦІ МЯНЕ КАХАЕШ ТЫ?

Сыпле восень залатая
На лясны падол лісты.
Я вандрую і гадаю:
Ці мяне кахаеш ты?



Колькі ж хараства навокал
У святой лясной цішы!
Ад цябе я так далёка,
Смутак родзіцца ў душы.

З кожным днём чутны ўжо подых
Надыходзячай зімы.
Па табе тужу заўсёды,
Стрэнемся калі ж зноў мы?

Госць я ў беларускім краі,
Дзе жывуць мае браты.
Моцна так цябе кахаю,
Ці мяне кахаеш ты?

## УСМЕШКА

Нас часта не трывожыць лёс жанчыны,
Дык робім мы яе сваёй ахвярай.
Таму так часта з нашае прычыны
Усмешка нікне і з вачэй, і з твару.

А мы ўсе хочам безупынна
Каб гасцявала радасць на яе абліччы.
Ёй у душы крываваяць нашы здрады,
Благія ўчынкі, што ўжо іх не злічыш.

І нашая жанчына ўжо не тая,
Якой была ў жыцці сваім калісьці.
І пачуццё ранейшае ўмірае,
І часта ўжо яна не бачыць выйсця.

Жанчына, веру, кончацца нягоды,
Зноў стрэнеш шчасце на жыццёвай сцежцы!
Тады ў абліччы і вачах заўсёды
Напэўна будзе гасцяваць усмешка.

10. Зак. 5488.

## АПЛАДЗІРУЮЦЬ ЛЮДЗІ ЎСПАМІНАМ

Яна выйшла ізноў на эстраду
Пасля многіх і многіх гадоў.
Захаплення ўжо менш, больш спагады,
Сярод верных яе гледачоў.

І няма ўжо прыгожай дзяўчыны,
Ва ўспамінах жыве надалей.
І прапаў галасок салаўіны,
Заваражваўшы сэрцы людзей.

Жыццё наша так хутка ўцякае,
Нам мяняецца ўсё на вачах.
І чулліва мы ўсё ўспамінаем,
Што жыве ў нашай памяці, снах.

Яна ўжо пажылая жанчына:
Не той выгляд, і голас не той.
Апладзіруюць людзі ўспамінам,
Астанецца ў якіх маладой.

## ПЕРШАЯ КНІЖКА

Калі я пасвіў ля чыгункі
З аднавяскоўцамі скаціну,
Нейкі панок мне ў падарунак
З акна вагона кніжку кінуў.

Малюнкаў мноства каляровых
У кніжцы гэтай я прыкмеціў.
Плакаць ад радасці гатовы,
Найшчаслівейшым быў на свеце.

Маю цудоўнейшую кніжку
Насілу хлопцы адабралі.
Нат не дазволілі хоць крышку
Нацешыцца.., я плакаў з жалю.



І мушу сёння я прызнацца:
Хоць след астыў гадоў дзіцячых,
Чароўныя малюнкі сняцца,
Праз сон па першай кніжцы плачу.

## ВЕЛАСІПЕД

У свайго брата сярод хламу
Я экспаната ўгледзеў след,
Паўвеку маючую раму —
Калісьці мой веласіпед.

Стары быў, ды яшчэ талковы,
Прадаў яго сусед Максім
За нашу чорную карову.
У школу ездзіў я на ім.

Бывала, у гнілую восень,
Якіх было шмат у жыцці,
Татулька на плячы даносіў
Веласіпед мой да пуці.

І з хваляваннем я таксама
Узяў, як тата, на плячо
Старую дарагую раму...
Пачуўся зноў малым хлапчом.

## ПРЫГОДА З ПЧОЛАМІ

*Ірыне і Валодзі*
*Паўлючукам*

На аўтобусным прыпынку,
Што стаіць паміж двух сёл,
Давялося летнім ранкам
Стрэцца мне з атакай пчол.

І быў гэта за хвіліну
Проста для мяне кашмар.
Пчолы джалілі няспынна
Мае рукі і мой твар.

Уцякаў да крайняй хаты,
Скусаны ўжо напавал,
Там мне вынялі багата
З маіх рук і твару джал.

І мой добры друг Валодзя,
Мне ўжо хвораму да слёз,
Дапамог у той прыгодзе —
«Фіяцікам» сваім адвёз.

## НАТАЛЛІ

Ужо мне семдзесят мінула,
Табе, дачушка, толькі восем.
У твар табе вясна зірнула,
А у мяне ўжо толькі восень.

Я перажыў, дачушка, многа,
Узлётаў шмат было, упадкаў.
Я — пры канцы жыцця дарогі,
Ты — толькі у яе пачатку.

Перад табою шлях навукі,
Даволі доўгі і складаны.
Патрэбны розум твой і рукі,
І вытрыманасць, і адданасць.

У творчым будзь заўсёды ўздыме
І здабывай упарта веды.
Жыві ў карысць сваёй Радзіме,
На радасць свайму бацьку Шведу.



## МАРЫ

Часта я пасвіў ля чыгункі
Кароў маленькім хлапчуком.
І не было мне паратунку:
Марыў пад'ехаць цягніком.

Мара гэтая збылася,
Ўжо нельга жыць без цягнікоў.
Скорым аб'ехаў я ў міжчассе
Шмат краін і гарадоў.

Па моры плаваў я «Баторым»,
Вазіў мяне балтыйскі флот.
Мяне ў паднебную прастору
Не раз выносіў самалёт.

Яшчэ жыву я марай гэтай:
Пасля ўсіх зведаных дарог
Каб хоць адзін разок з ракеты
Я шар зямны агледзець мог.

## ПРЫЗЯМЛЕННЕ

Я адарваўся ад зямлі,
Пакінуў свае Мора
І навакольныя палі
Ды паляцеў у горад.

На шлях жыццёвы маладосць
Мне падарыла крылы,
Каб гарадская прыгажосць
Мяне запаланіла.

З бетоннай клеткі, з вышыні
Глядзеў я на зямліцу,
І засыхалі карані
Айчынныя ў сталіцы.



Калектыў «Незабудкі» з Курашэва. *Фота С. Грынявіцкага.*

І без зямлі, як дрэва, тут
Я пагасаў няспынна,
І сніўся мне бацькоўскі кут —
Маленькая Айчына.

Наяве, а таксама ў снах,
Таўпіліся імкненні,
Каб хоць у пажылых гадах
Там здзейсніць прызямленне.

*Васіль Петручук*

## НАЧАВАЛА ДЗЕ ПАПАЛА

Хмара чорна, з градам
Над вёскай бушуе,
А дзяўчо ў садочку,
Плачучы, сумуе.

— Чаму ты, дзіцятка,
У садку бядуеш,
Чаму разам з бацькам
Ў хаце не начуеш?

— Ой, мая вы цёця,
Як не наракаці,
Калі мне ўжо нельга
Ў хаце начаваці.

Бедна сіраціна
Вярнулася з поля,
Але не дадому...
Ах, доля, ты, доля!

Змочана да ніткі,
Марыла пра хату,
Мачыха прагнала,
Прамаўчалі тато.

— Сёння жа нядзелька,
Была ў царкве служба,
Дык можа і між намі
Запануе дружба?

Я вельмі хацела б
Мачыху ласкаці,
Але яна толькі ўмее
Біць і празываці.




Калектыў «Арэшкі» з Арэшкава. *Фота С. Грынявіцкага.*

Кажа: «Ты шчанё,
Вон з маеі хаты,
Бо і так не сядзеш
З намі вячэраці.

Йдзі жэрці да тога,
Адкуль твая маці,
Няхай цябе кормляць
Ды паложаць спаці!»

— Я ўцякла ў садочак,
Залілась слязамі:
«Божа Ты, наш Божа,
Чаму забраў маму?»



Прасядзела ночку
Пад галлём ляшчыны
(Цёця не забрала
Да сябе дзяўчыны).

Ранкам зноў у поле:
Трэба ж працаваці,
Каб дапамагаці
Сям'ю гадаваці.

— А сама я ела,
Што доля паслала,
І там начавала,
Дзе ночка застала.

Не ўсім так жылося,
Хаця і без маці.
Шкада, што не можна
Бацькоў выбіраці.

*Беласток, 4.X.1997*

## ТАМ ЗА ЛУГАМ

Там за лугам, па-над рэчкай
Хлопцы траву косяць,
А дзяўчына сена сушыць
Ды ў капіцы носіць. } 2 разы

— Эй ты, дзеўка маладая,
Пайдзі да крыніцы.
І вазьмі ты наш збаночак,
Прынясі вадзіцы. } 2 разы

— Я не дзеўка, мілы хлопча,
Я ўжо маладзіца.
І не знаю, дзе збаночак,
Дзе тая крыніца. } 2 разы

— Чом так рана выйшла замуж,
Скінула вяночак?
На вадзе ён закруціўся,
Выплыў на пясочак. } 2 разы

— Дык таму я выйшла замуж —
Хлопца палюбіла.
Заўтра буду у салдаты
Яго праважаці. } 2 разы

— Пэўна, будзе ён салдатам
Кашу там варыці.
А цябе мы, маладзіца,
Будзем ўсе любіці. } 2 разы



## МАРОЗ

Ўстаньце, хлопчыкі, глядзіце,
За лапаты ўсе бярыцесь.
Курганы ўжо на дварэ,
За акном мароз бярэ.

Дроў дахаты нанасіце,
Ў печцы добра напаліце,
Каб з акна мароз ўцякаў
Ды на вуліцы гуляў.

Дзед з бабуляю ў хаці
Сталі ў печку падкладаці.
А мароз тады спужаўся,
Дзеда й бабкі пабаяўся.

І ад нас пайшоў далей,
Пагуляці больш смялей.
А у дзедушкі Ігната
Там з дравамі слабавата.

А суседзі здагадаліс,
Хатку прызбаю абклалі.
Сноп саломы у акне —
Мароз у дзверы загляне.

Задымілась над сялом:
Хто дравамі, хто пучком.
Падкладай, што ёсць, і грэйся,
Або ў кажухі адзенься.

Пакруціўся, пастаяў
І марозіць перастаў.
— Пэўна, ў горад я пайду,
Мо кагосьці ў ім знайду.

Там і людзі панскаваты
Павыходзяць з цёплай хаты.
Іх на вуліцы знайду
І зраблю для іх бяду.

Стаіць пані, круціць ўбокі,
А мароз малюе шчокі.
І калготкі папраўляе,
Быццам цеплыні шукае.

Тут марозу удаецца,
За другую ён бярэцца,

Што стаіць без рукавіцаў
У кароценькай спадніцы.

Вырашыў яе крануці,
Пад спадніЧку заглянуці.
І на ножкі так глядзіць —
Яна ў туфельках стаіць.

За цябе я і вазьмуся,
Тут нікога не баюся:
Ані дыму, ані печы.
Я вазьму цябе за плечы.

Цётка з вёскі падышла,
Тая ў валенках была.
Кажуха ўжо распінае
І на лавачцы сядае.

Рукавіцы паскідала,
Грубу хустку папраўляла.
На яе мароз глядзеў,
Дакранумца не хацеў.

Ідзе хлопец малады,
А мароз за ім туды ж.
І за вушы так шчыпае,
Бо адкрыту голаў мае.

Хлопец дзеўку дзесь праводзіць,
А мароз ім ў гэтым шкодзіць,
Да яе ўжо прытуліўся.
Не марозь і адчапіся!

## ВЯСНА

Ездзілі мы ў сяло,
Як цяпер там весяло́!
Салавей ў гаю пяе,
Зязюля у гаю куе.

На балоце буслы бродзяць,
А далей каровы ходзяць.
У полі груша зацвіла,
Там я з мамаю была.



Каб вы знали, даражэнькі,
Бегаў зайчык там маленькі.
Злапа́ць яго я не змагла,
Хаця і босая была.

Пад бярозаю з крыніцы
Напіліся мы вадзіцы.
Там і кладачка была,
Я сама па ёй прайшла.

## НЕ ЎМЕЕ ШАНАВАЦІ

— Вось прыгожая зіма,
Санкаў у мяне няма.
Я яшчэ ў мінулым годзе
Паламаў свае на лёдзе.
Можа, дзед пра іх забыў
І другія ўжо зрабіў?
Адгукнула яму маці:
— Не ўмееў пашанаваці!
— У Галінкі шаль парвалі,
Дык ёй новую купілі.
Рукавіцы як згубіла,
Бабка другі ёй зрабіла.
А як лыжы я згубіў,
Сабе з бочкі парабіў.
Гузікі павырываў,
Дык іх дротам прышываў.
Хто так можа мне сказаці,
Што не ўмею шанаваці?
Як насочак абарваў,
Я шнурочкам прывязаў.

## БОБІК

У бабулі ёсць сабачка,
Яго Бобікам завуць.
Сцеражэ хлявок бабулі,
Малачка яму даюць.

Будку новую зрабілі,
Бо прыйшла да нас зіма.
А чаго яшчэ забылі?
Там жа печкі ў ёй няма.
Пэўна, ў хаце будзе грэўся,
I ў акно з ёй спаглядаў.
Бо хлявок жа замыкаўся,
Каб курэй ліс не пакраў.
На дварэ бушуе ўюга:
Бабка, дзверы адчыні!..
Пад хлявок прыйшла лісюга,
Бяры кія ды гані.

## ХТО БЫЎ ВІНАВАТЫ

Сядзіць хлопчык у хаце
I глядзіць у акно.
— Пусці мяне, маці,
На санках быў даўно.
Мой татка стараўся,
Мне санкі зрабіў.
Я з горачкі гнаўся
I носік пабіў.
Віноўны тут санкі,
Іх доўгі шнурок.
Яны павярнулі улева,
А шнур — пад палазок.
I мама мяне пакарала:
— Не пойдзеш ужо нікуды.
На татку таксама сварыла:
— Больш не трэба нам бяды.
Лепш ацаніце вы самі,
Хто вінаваты тут быў:
Ці той, хто санкі зрабіў,
Ці той, хто носік пабіў?

*Гэлена Гулько*

## СУМНАЯ БАБУЛЯ

Сядзіць бабуля ля печы,
Грэе старыя плечы.
Села не толькі пагрэцца,
Ёй сумна і недзе дзецца.
Гора бабулю трывожыць,
Зрабілася надта нядужай.
Забыць аніяк не можа
Свайго памёршага мужа.
Разбрыліся дзеці па свеце,
У іх гарадская работа.
Свае ўжо гадуюць дзеці,
Уласныя маюць турботы.
Бабуля шчаслівай бывае,
Знікаюць смутак і мукі,
Калі да яе прыязджаюць
З горада дзеці і ўнукі.
Пенсія ж надта малая
За здадзеную гаспадарку,
Ледзьве пражыць ёй хапае
I дзеткам сваім на падаркі.
Калі надыходзяць святы,
Рыхтуецца бабка як можа.
Гасцей запрашае дахаты,
Іх госціць заўсёды прыгожа.
Шануйце бабуль, дзеткі, ўнукі,
Цалуйце спрацаваныя рукі,
Кланяйцеся ім да ног,
Прасіце, каб здароўя даў Бог.



Калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў. *Фота С. Грынявіцкага.*

# ТВОРЧАСЦЬ ВУЧНЯЎ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНАГА ЛІЦЭЯ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ НАВУЧАННЯ Ў БЕЛЬСКУ ПАДЛЯШСКІМ

*Юрка Буйнюк*

## ГЭТА НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ

Існуе ў жыцці штосьці важнае,
Сэрцу і душы дарагое, каштоўнае,
Без чаго цяжка жыць.
Гэтага нельга забыць!
Першы гук мовы роднай,
Мовы багатай, хоць простай,
Што, рэхам адбіты ад вуснаў тваіх,
Ляціць далёка, у прасторы.
Цяпло ў дзяцінстве ты зведаў
Дарагіх рук бацькоўскіх,
Рук далікатных, хоць спрацаваных,
Што далікатна лашчылі тваю галаву.
Гэта нельга забыць!
Хату, у якой ты жыў,
У якой узгадаваўся, узрос,
Хату, у якой сіла, шчасце і воля
На яе парозе ляжыць.
І гэта нельга забыць!
Гук песні роднай,
Сэрцу і душы дарагой,
Вясёлай, што па полі і лузе ляцела,
А тон яе ў сэрцы астаўся.
І яе нельга забыць!
Мову родную, старажытную,
Адвечную, беларускую, якой
Думкамі сваімі дзяліліся

Твае дзяды, прадзеды, бацькі,
І ты ў маленстве на ёй гаварыў.
І цяпер яе нельга табе забыць!
І першую школу сваю
Ва ўспамінах не абмінай,
У якой ты сяброў першых пазнаў,
З якой ты вынес на шлях жыцця
Навуку, веды, гісторыю Бацькаўшчыны і мовы.
Гэтага нельга забыць!
І родную мясціну сваю,
Вядомую табе з маленства,
Адкуль пайшоў па сваім шляху,
Памятай, каб не забываў!
І ўсё, што табе дарагое,
Мілы дружа, не забывай,
І ў сэрцы ды памяці, сябра,
Навек трымай!

## ЯБЛЫНЯ

О, яблыня, колькі гадоў ты тут пражываеш?
Колькі пакаленняў ты ўзгадавала!
Нават найстарэйшы ў вёсцы не памятае,
Якая гэта вясна да цябе завітала.
О, яблыня, як прыемна, калі вясною
Зелень лісткоў цябе ахінае
І ніводзін шпак цябе не абмінае.
На цябе, дарагая, гляджу,
Калі ты ўлетку жыццём набрыняеш,
А людзей у свой халадок запрашаеш.
А калі восень на панадворак завітае,
І многа птахаў ў вырай адлятае,
Даеш ты дар свой дарагі,
Плод жыцця свайго — яблык залаты.
Калі зіма ўсё белай пярынай прыкрывае,
Ты ад трудоў жыцця адпачываеш,
І ранняй вясною зноў ажываеш.



*Люцына Данілюк*

## ДЗЯКУЮ

Дзякую Табе, за ўсё.
Дзякую за каханне,
За радасць і шчасце.
Дзякую Табе таксама за пакуты,
За ночы бяссонныя і боль.
Дзякую Табе, што выявіў Ты мне,
Выявіў пачуцці свае.
Дзякую, што Ты не прыйшоў,
Дзякую, бо ведаю цяпер...
Ведаю, што Ты не хочаш ужо мяне...

## НОЧ НАДЫХОДЗІЦЬ...

Сонца заходзіць, свет засынае,
Месяц усходзіць, зоркі вітае.
Ноч надыходзіць, неба цямнее,
Дзе-нідзе вецер ціха павее.
Павольна, ціха дзень уцякае,
Бяжыць па полі, нас пакідае.
Усё змяняецца і прамінае,
І так, як людзі, дзіўным бывае...

*Моніка Тамчук*

## ЧУЖЫ

Калісьці сустрэла я чалавека, поўнага тугі,
тугі па чымсьці, што кахаў,
з сэрцам, скрываўленым ад жалю,
шукаючага чагосьці, што страціў,
а можа чагосьці, чаго не меў.
Я запытала яго: «Што табе, чалавеча?»
Глянуў смутнымі, поўнымі слёз, вачыма і
...маўчаў.
Я адышла, не могучы яго зразумець.



Калектыў «Збучанкі» са Збуча. *Фота С. Грынявіцкага.*

Час, аднак, прынёс зразуменне.
Я сустрэла яго другі раз.
Гэта было маё люстранае адбіццё.
І я ўжо ведала, я ўжо разумела,
што было прычынай яго псіхічнага заняпаду.
Ён шукаў Айчыну.

## ПРЫЯЦЕЛЬ

Ты — адзін, патрабуеш спачування,
пачынаеш блудзіць паміж людзьмі,
шукаеш дружбы,
заглядаеш прахожым у вочы,
распорваеш ім целы, каб заглянуць у душы,
стараешся падпарадкаваць кагосьці да агульнай
схемы так званага прыяцеля.



Хтосьці, аднак, будзіць цябе з твайго вар'яцтва,
хтосьці гладзіць цябе па галаве,
прытуляе да сваіх грудзей,
абцірае крадком пушчаную слязу.
Гэта хтосьці, каго не знайшоў бы ты
ў недарэчным натоўпе,
хтосьці, хто ёсць з табою, хаця ты аб гэтым
не ведаеш.
Гэта твой прыяцель.

## МАРЫ

Як вельмі прагну быць дзіцём
нявінным і бесклапотным стварэннем
якое свабоднае ад рэалій жыцця
існавала б у сваім выдуманым свеце
не дбаючы пра наступны дзень
усміхацца да лялек
і прытуляць свайго плюшавага прыяцеля
я аднак толькі я
з безнадзейнасцю ўступаючая
ў дарослую рэчаіснасць.

## ТЫ

Ты заняў лепшую палову майго я.
Тырчыш ў ёй, не думаючы пра адыход.
Кожную раніцу будзіш, а ўвечары закалыхваеш
аднолькава маю, як і сваю, частку.
Кожны дзень усё больш
паглыбляешся ў маю асобу.
Намагаюся вырвацца з кіпцюроў,
якія так упарта раздзіраюць штосьці, што
з'яўляецца мною.
Ты, аднак, завалодаў мною надта моцна,
каб змагла я існаваць самастойна.

*Анеля Місяюк*

нахабны свет
нягледзячы на гэта хачу жыць
аднак лавіна праклёнаў
уцягвае мяне ў сваё нутро
другая палова майго «я»
як катаклізм вынішчае маю душу
хачу крычаць
але каханне засланяе рукою вусны
назаўсёды
мая вартасць як градуснік зімою
паказвае мінуснае бяздонне
не хапае мне духу
каб дыхаць забруджаным паветрам
вымешаным з пахам асобы
якая рэалізуе сцэнарый
майго знішчэння.

гома сапіенс
істота поўная няшчырасці
што крок — языкі
поўныя яду горычы
пранікаюць чыюсьці ўнутранасць
забіваюць апошнюю волю існавання
недахоп сэнсу жыцця
не дазваляе жыць яго паўнатой
адсякае ўсякія дарогі да праўды
нашто тады ўвогуле прабаваць
калі і так
памрэш прыгнечаны валуном ілжы

## ТЫ І Я

закрываю вочы
бачу нашы вусны
сплеценыя вейкі
сэрцы б'ючыя
ў прасторы няпэўнасці



як музыка
кружаць словы ў лабірынтах
розуму
твае вочы
прыкрытыя імглою пачуцця
жадаюць пяшчотнасці
распаленымі вуснамі
датыкаеш маіх
рук
з далікатнасцю зефіру
ўцякаеш
у далёкае бяздонне
бяскрайнасці

## ШЧАСЦЕ

мне сумна жыць
і цяжка думаць
толькі добра марыць
мне хочацца ісці
не магу
таму што людзі
не знаюць мяне
мае вочы цёмныя
сэрца хоча жыць
чаму шчасце маё
так далёка
не ведаю

*Тамаш Лукашук*

## ТЫ І Я

Ты і я сярод дрэў
Загубленыя ў часе
Нішто нас не кранае
Каханне нас абараняе



Калектыў «Душкі з пушкі» пачатковай школы ў Нараўцы.
*Фота С. Грынявіцкага.*

А пад плашчом ночы
Рукі мае трымаеш
Нясмела цалуеш мяне
А я плачу баюся

Ніхто не даў мне столькі
Ніхто не кахаў як ты
Зорка на небе міргае
Месяц засынае а мы разам
адплываем

## ТУГА

...я ў сярэдзіне плачу
А кроплі так моцна ўдараюць у сэрца
Што кожны раз трачу памяць
Я тужу за тым што было
За тым што ўжо не вернецца
— За чым?
Сам ужо не ведаю...



## КАРАЛЕЎНА

*Маёй настаўніцы прысвячаю*

Жыла сабе на свеце
Маладая каралеўна
Захацела першы раз
Каго-небудзь пацалаваць
Ой, будзе цяжка дарагая
Так гаварыла маці
Ты яшчэ многа часу маеш
Трэба яшчэ пачакаці
Праз некалькі гадоў
Каралеўна маці кажа
Дазволь каго-небудзь пацалаваці
Бо мне ўжо дваццаць пяць
Ой, будзе цяжка дарагая
Так гаварыла маці
Ты яшчэ многа часу маеш
Трэба лепш працаваці
Прайшло зноў некалькі гадоў
І памерла маці
Цэлы час яна вучыла
Што не трэба цалаваці
Цяпер кажу ўсім бацькам
Дазвольце дочкам цалаваць
Ніхто не хоча цалаваць
Калі мінае дваццаць пяць
Як унукаў бацькі хочаце мець
Дазвольце дочкам падурэць

## МАЕ СНЫ

Цэлую ноч сніцца мне
Што так цудоўна пры табе
Вецер за акном гуляе
Зімовую пару прыпамінае

А нашы рукі размаўляюць
Мае калені тваіх датыкаюць
Вусны твае цёпла цалую
Гэта ўсё ноччу чую



11. Зак. 5488.

Ранкам цябе не стала
Сонца ў праменнях схавала
Сонца з неба праганяю
Нецярпліва цябе чакаю

Зноў настала ціхая ноч
Ты сказала рабі што хоч
Перада мною так стаяла
Моцна мае рукі сціскала

Я не смеў нічога зрабіць
Хацелася толькі з табою быць
Ты ўсміхнулася і знікла
Бяздзейна стаяць не прывыкла

*Лукаш Сцепанюк*

## УСПАМІНЫ ПРА БУДУЧЫНЮ

Калі ем закрываю вочы
здымкі мае вісяць
а я сярод ночы
не бачу іх
я ем

Я калі ем слухаю
спяваюць птушкі
я вушы настаўляю
добра іх чую
лепш ем

Калі ем думаю
таксама як заўсёды сонца
тады не вельмі паміраю
пачынаю плакаць
і ем



## КВЕТКІ

...наступную ўсмешку хаваю ў руках
і бачу, як тану ў нябыце,
гублю сэнс існавання,
потым засынаю. Разам з агнём іду па палях,
нягледзячы на тое, што праз сон.
Твар чувае — думаю.
І, ступаючы па балоце,
стаўлю чалавека на прайгранай пазіцыі,
зноў я думаю.
Таксама як учора кветкі,
аднак абсалютна прыгажэй.
Пачынаю губляцца ў жыцці
і чую падказ:
— Не губляйся, бо не спынішся.

*Моніка Юрчук*

## АДЗІНОТА

Чатыры пустыя куты ў маім доме
На двары вецер гуляе
І ў маім сэрцы пуста
А ў душы іграе пакута
Падымаю галаву
Іду да Сонца

Мая надзея пагасла
А сэрца патрабуе пачуцця
Раздзіраецца
ад самоты
Крычу з надзеяй
што хтосьці пачуе мяне

* * *

ідзе такі вялікі дождж
мільён кропляў
як мільён слёз
успамінаю
майго каханка
з краіны слёз
як у лівень
мы сустрэліся
вялікім каханнем

*Марк Рубашэўскі*

*Маёй настаўніцы З. Дэмянюк прысвячаю*

## БЕЗ ЗАГАЛОЎКА

Аднойчы ў чэрвені вечарам я са сваім сябрам Іркам сядзелі ў бары «Пад лосем» і папівалі з куфляў... малако, таму што ні я, ні ён не любім алкаголь. Развважалі аб розных справах, між іншым гаварылі, як цікава правесці канікулы. Я прыкмеціў белую мыш, якая, пэўна, знюхала малако. Загаварыла яна да мяне чалавечым голасам. Запрапанавала кінуць «лётку» ў карту і пагглядзець, куды яна трапіць. Туды менавіта і ехаць у адпачынак. Прапанова дзіўнай мышкі нас прымусіла падумаць, а потым вырашыць. Мы хуценька ўсталі і выбеглі з бара. Калі азірнуліся, убачылі, што за намі гоніцца бармен са сваімі калегамі. Пэўна б нас ніколі не дагналі, калі б не слон, які адкульсьці ўзяўся і выцягнуў кулак. І так мы не толькі заплацілі за малако, але страцілі сёе-тое з кішэні і з рота.

Наканец мы дабеглі да Іркавай хаты. Узялі карты, «лёткі» і пачалі кідаць. Першая ўпала туды, дзе на карце было мора, але каб туды паехаць, трэба мець шмат грошай, а іх у нас не было. Да таго ж, тое мора было Караібскае! Другі раз трапілі над картай. Трэці раз быў апошнім, і «лётка» ўтыркнулася каля мясцовасці Руцяне-Ніда, што над возерам Сьнярдвы. Гэта нам падыходзіла.

Калі мы давялі да парадку нашы машыны — горныя веласіпеды, спакавалі свае сумкі, рушылі з Беластока «ў той бок, дзе ўзыходзіць сонца». Перад намі было 130 кіламетраў. Але для нас яны — не





Праз хвілінку купальскія вянкі паплывуць па рацэ Нараўка. Купалле-98 ў Белавежы. *Фота С. Грынявіцкага.*

перашкода, таму што мы ехалі адпачыць, і нам было прыемна і лёгка на душы.

Калі дабраліся да месца, і мы, і нашы машыны былі вельмі стомленымі. Пасля адпачынку выбраліся да возера. Хацелі разбіць палатку і адпачыць на жоўтым пясочку, ды надвор'е не было найлепшае — наплылі чорныя хмары і абрынуўся на зямлю страшны лівень. Ірванулiся мы да сваіх веласіпедаў. Пакуль даехалі на палатачнае поле, з Ірка аж дымілася. Раптам ударыў каля яго пярун, але Ірэк — хлапец, які нічога не баіцца, толькі налёг на педалі. Паставілі мы палатку і палезлі ў сярэдзіну, засунулі і свае веласіпеды. Такіх змучаных нас хутка змарыў сон. Калі я прачнуўся раніцай, заўважыў, што ўвесь мокры. Гэта так вада нас падмыла, і ў палатцы ўсё было не менш мокрае за мяне.

Наступны дзень быў пагодлівы, і мы высушылі вопратку. Паляглі на жоўтым пясочку над возерам. Вада была цёплая. Ірэк, як часта з ім такое бывае, найперш палез у ваду нераспрануты... Любаваліся мы вадою, сонцам, дыхалі свежым паветрам. Не было як і нудзіцца, дні працякалі хуценька. Вечарамі мы распальвалі вогнішчы. Людзей тут было шмат,




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

 

не бракавала і прываблівых дзяўчат. Ірэк надта хуткі да знаёмстваў. Так мы падчапілі Моніку і Ізу.

Вядома, я закахаўся адразу. Іза таксама не была да мяне раўнадушнай. Час праводзілі мы прыемна — шпацыравалі, хадзілі на танцы, плавалі. Іза была ідэалам прыгажуні — доўгавалосая бландзінка, танклявая, стройная, да таго ж мела такія цудоўныя блакітныя вочы! Я ніколі не быў такі шчаслівы — наяве меў дзяўчыну як з цудоўнага сну! Я забыў пра ўсё на свеце. Існавалі мы — я, яна і прырода. А трэба ж было праз нейкі час вяртацца!..

Гэтая ідылія працягвалася б яшчэ, калі б не пэўнае здарэнне. Аднойчы я ўбачыў, як мой сябра абдымае і цалуе маю дзяўчыну! Не было б нічога страшнага, каб на гэтым скончылася. У мяне апусціліся рукі. Чаго ж гэта ён захацеў, у яго ж ёсць Моніка! Спачатку я хацеў падысці і збіць яму морду, але перадумаў. Ці ж гэта варта? Відаць, яна такая ж, як і ён! Ну, проста ануча.

«Але чаму ж такое здарылася са мною! — думаў я з болем у сэрцы. — Было ж так прыемна, добра...» Я думаў, што яна мяне кахае... Марыў, што назаўжды... Меў надзею, што будзем пісаць адзін аднаму лісты, а пасля зноў сустрэнемся... А тут вось усё лопнула, як мыльная бурбалка.

Я вярнуўся ў палатку. Нікому нічога не гаварыў, бо і не было каму. Спакаваў свае манаткі і паехаў дахаты.

Ізу ўсё памятаю, але спаткаць яе не хацеў бы. Можа, не хацеў бы, а можа, баюся, што параніць маё сэрца яшчэ раз. Можа, і добра, што тады адразу я пабачыў, як усё ў сапраўднасці ёсць...

# ГРАФІКА ЗАБЛУДАЎСКІХ ВЫДАННЯЎ



«Псалтыр с Часословцем» у развароце. *Заблудава , 1570.*

«Псалтыр с Часословцем». *Заблудава, 1570.*



 




«Евангеліе учытельное», 1569. Герб Хадкевіча.




Давид. Фронтиспіс. «Псалтир з Часословцем», 1570.











Упрыгожанні калонтытулаў у заблудаўскіх выданнях.















Ініцыялы ў «Евангеліі учытельном», 1569.

НАЧАЛО ТРЕТИЯГО ЧАСА НАЧАЛО ВЕЧЕРНИ

Шрыфты заблудаўскіх выданняў.

### *ВЯРТАЕМ НАШУ СПАДЧЫНУ*

*Наш суродзіч* ***Іпаліт Краскоўскі*** *нарадзіўся каля 1840 года ў Дубічах Царкоўных у сям'і святара. Краскоўскія паходзілі з беларускіх путных баяраў, якіх пасяліў адзін з вялікіх князёў літоўскіх на паўднёва-заходняй ускраіне тадышняй Камянецкай пушчы, рэшткі якой потым набылі назву Белавежскай. Яшчэ да сёння захавалася каля Дубічаў назва ўрочышча «Краскоўшчына», мабыць, там знаходзілася сядзіба баяраў Краскоўскіх.*

*Краскоўскі закончыў праваслаўную духоўную семінарыю, затым Пецярбургскую духоўную акадэмію. Некалькі гадоў працаваў настаўнікам праваслаўнага Варшаўскага духоўнага вучылішча. У канцы 1860-ых гадоў пераехаў у Маскву на працу ў часопіс «Московские ведомости», у якіх працаваў аж да выхаду на пенсію. Напісаў шэраг цікавых апавяданняў і аповесцяў, якія выйшлі ў двух тамах у 1884 г. у Маскве. У большасці гэтых твораў І. Краскоўскі праз маляўнічыя вобразы побыту нашых продкаў, іх звычаяў, бытаваўшых сярод іх вераванняў і паданняў, красу прыроды і асабліва Белавежскай пушчы, выразіў улюбёнасць у край свайго дзяцінства і юнацтва. Ён праславіў непаўторную прыгажосць нашага краю і зацікавіў ім іншых творцаў. Расійскі жывапісец І. Шышкін тут стварыў карціны «Ссечаны дуб. У Белавежскай пушчы», «Белавежская пушча. Буралом», «Пчальнік. Белавежская пушча» і іншыя. Мастак і нарысіст Г. Карцоў выдаў надзвычай каштоўны альбом «Белавежская пушча».*

*Памёр Іпаліт Краскоўскі 12 студзеня 1899 года.*

*Мікола Гайдук*

**Іпаліт Краскоўскі**

## У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Люты на дварэ жорсткі, бязлітасны. Даўно не бачылі такіх маразоў у Белавежскай пушчы, дзе звычайна большую частку зімы зубр ходзіць «чорнай стапой» і падбухторвае: «Бі мяне, ніхто пра смерць маю гаротную не зведае!» А вось пухкай куніцы тады раздолле: дзевяць чалавек



за адною дзесяць дзён па лесе ганяцца будуць, ды і то яна — д'яблу здабыча. А як наляцяць з усходу вятры гвалтоўныя, задзьме з поўначы сібер, дзеду марозу родны брат, і апранецца лес беласнежным адзеннем, ды замруць пад лядовай карою багны топельныя, жаралы бяздонныя, засыплюцца снегам змрочныя норы і сховішчы — тады ідзі адважна па самых глухіх лясных нетрах, высочвай куніцу; бі яе з першага ж дупла, а зубра — жывёліны царскай — не руш, бо зараз жа па слядах цябе знойдуць, нават не паспееш сцягнуць з яго скуру, як зловяць. Расплочвайся тады калітой, даставай дзедавы чырвонцы.

Пачатак дня не ранні, але і не позні — гэтак недзе каля поўдня, таму на хутары лесніка Лаўрэна Баравіка ўжо даўно «рагалям» пашы далі і коням засыпалі сечкі з аўсом. Сядзіць стары Баравік у сваёй цёплай хаце, матачнікі для пчаліных сем'яў пад весну рыхтуе: стары з прыкмет бачыць, што вясна будзе цёплая, раістая.

Раптам: стук-стук у акенца.

— Ці гаспадар у хаце? — чуецца за акном.

— Хто там, заходзь! — не адрываючыся ад свайго занятку, прамовіў стары.

У хату ўвайшоў стралец. Праз плячо перакінута барсукова кайстра, дубальтоўка за плячыма, высокія чобаты паверх нагавіц, да самых чобатаў світка з шэрага саматканага сукна, а на плячах, паверх світкі, шырокі каўнер ад паўкажушка з аўчыны хатняга вырабу. Вусы стралка сталі двума аб'інелымі ледзяшамі.

Стары глянуў на ўвайшоўшага, паволі падняўся са свайго наседжанага месца.

— Слава Госпаду Ісусу Хрысту! — прывітаўся стралец са старым звычайным у тых ваколіцах вітаннем.

— Слава на векі! — адказаў стары. — Што скажаце добрага, Сцёпка?

— Добрага мала. Мароз уз'еўся на лес, нават у маладым ялінніку скаліць зубы. Ужо трэці дзень не дае спакою, але цяпер, як быццам бы, пайшло на адлігу.

— Яно і праўда пацяплела, — заўважыў стары. — Відаць, пад вечар сняжок пойдзе.

— Не інакш як з завірухаю, дзядзька, — працягваў стралец цырымонную ўступную мову, без якой ніводзін гаспадар не абыдзецца, не баючыся страціць пашану да свае асобы. — Ад усходу неба хмарай завалакло.

— У лютым і завейкі бываюць лютыя, — закончыў стары. — А чаго ж гэта цябе Гасподзь прывёў, шаноўны Сцяпане?

— На старожы стаю ў ляснічага. Загадалі, дзядзька, вам гэтую паперу зараз жа завезці распарадчыку пушчы.

І стралец выняў з-за пазухі важны скрутак з чырвонай пячаткай і прылітым ёю пёркам. Значыць, справа важная, неадкладная, спешная.

— Наказваў вам ляснічы, — працягваў стралец, — каб ваш Грышко, не марудзячы, завёз гэту паперу куды належыць, а то, казаў, не пазбегчы яго спіне распаранага гонкага ляшчынніку.

— Скажы, Сцёпка, ляснічаму, — прамовіў з годнасцю стары, — што надарэмна такая пагроза: стралец Баравік непаслухмяным ніколі не бываў. Зараз жа і высылаю Грышка ў дарогу. Яшчэ час не позні, мо да вечара і справіцца. А ты, добры чалавеча, прысядзь, адпачні, — перамяніў паважны тон размовы ласкавым словам Баравік. — За хвілю жонка нальe табе чарку гарэлкі, каб адышоў з марозу, ну і рыжыкаў соленых на перакусь дасць. Тут і я падсяду, толькі Грышка там, на гумне, нарыхтую ў дарогу.

Выйшаў стары з хаты, удыхнуў на поўныя грудзі струмень свежага паветра, зірнуў на стоўпленыя каля яго сядзібы дубы-старэчы, на лес, на неба.

«Гм! Вільгаццю цягне, — разважаў ён, — вароны хаваюцца ў дубовае вецце, лес шэры стаў, хмары насоўваюцца з усходу — няйнакш завіруха будзе. Шкада хлопца, змардуецца».

І стаў прыслухоўвацца. З гумна чуваць быў размераны стук цэпа.

— Гэй, Грышко, — клікнуў стары, — Грышко! Бяжы сюды!

З'явіўся Грышко, высокі, зграбны, як малады топаль, шэрыя вочы палаюць адвагай, світка нядбала накінута на плечы, грудзі расхістаны і парывіста калышуцца пасля натужлівай працы.

— Што скажаце, татку? — запытаў Грышко, папраўляючы на галаве шэрую баранковую шапку.

— Зараз жа збірайся ў дарогу: загадалі як мага хутчэй паперу завезці распарадчыку пушчы. Вазьмі Орліка, ды не гані яго. Конь жа ж малады, гарачы. Лёгкай рыссю пускай. Нарыхтуй дзве торбы аброку і вязанку сена. Паказвае на тое, што, мабыць, вейка закружыць, так як што да чаго, старайся ў Воўчае Багно прабіцца. Там, памятаеш, у далінцы дуб сярод густога ялінніку? Ну, дык раскладзі агеньчык пад гэтым дубам, накармі каня, ды і сам адпачнеш. Чуеш?

— Чую, тату! — прамовіў Грышко і паспешліва падаўся ў канюшню.

## II

— Зважай, беражы сябе! — наказвала маці Грышку, падаючы яму загорнутыя ў хусцінку лусту печыва і кавалак варанай свініны. — Табе ж давядзецца ўсё лесам ды лесам вёрст трыццаць праехаць, а лес жа страшны ў завейку злючую... Чакай, чакай, я ахіну цябе на дарогу крыжам святым...



Грышко паспешліва цмокнуў руку старэнькай маці, ускочыў у сядло, свіснуў калматаму Жучку, свайму неразлучнаму сябру, і ўжо снегавы пыл узбіваецца капытамі Орліка, і ўжо вершнік імчыцца стралою, рассякаючы вострае зімовае паветра. Яшчэ мацней чырванеюць белыя шчокі маладога стралка, яшчэ болей срабрыстым становіцца далікатны пушок на ягоным юнацкім твары. Вось ён знік у лесе, і паўз яго мільгаюць шэрагі дрэваў, што прасціраюцца ўсё вышэй і шырэй, што ўсё гусцей пераплятаюць над ягонай галавою свае магутнае голле ў таямнічай глыбіні пушчы. «Цішэй, не гані каня, — згадваецца маладому стралку наказ яго бацькі, — пашкадуй гарачага Орліка!» Ужо і калматы Жучок дзесьці далёка адстаў ззаду на дарозе і ледзь чуваць адтуль яго жаласны брэх. «Цішэй: ты ж адзін у лясным моры, далёка ад жылля, і ні твой крык роспачны, ні нават гук выстралу з твае дубальтоўкі лясное рэха не данясе да слыху людскога».

Але ж любата, прыволле імчацца лётам птушкі... «Э, што мне лес, — думаецца маладому стралку, — калі я ў ім, як рыба ў вадзе! Ці я перапужаюся лесавіка, як у мяне на грудзях крыж, а ў сэрцы малітоўны ўздых да Цудатворцаў? Ці мне баяцца драпежнага звера, калі ў мяне за плячыма меткая дубальтоўка, а ў сакве больш за дваццаць гатовых патронаў?»

Цішэй, цішэй, стралец, не хваліся: от Орлік пад табой спатыкнуўся, а папярод цябе праз дарогу, у белы дзень, пераляцела злавесная сава. Небяспечная прыкмета. Стралец затрымаў каня, насупіў чорныя бровы, падазрона азірнуўся па баках. Аброслыя шэрым інеем, задуменна стаяць высокія дрэвы, не зварухнуцца. А тут і ліпа-старэча цалкам загарадзіла дарогу. Шэсць чалавек, ухапіўшыся за рукі, наўрад ці змогуць абхапіць яе дуплясты камель. Доўга-доўга яна расла; недзе там уверсе, на такой вышыні, да якой не зможа дастаць і куля дзедавай дубальтоўкі, раскінула яна свае апошнія, ашчаджаныя часам, голлі; але ўжо старасць хваравітая спавіла яе доўгімі косамі шэрага моху, ужо валіцца з яе кара з лубам, ужо, бяссільная, яна апусціла агромністую лапу на дарогу і загарадзіла ёю шлях маладому вершніку. Адважней, Орлік, скачы!

Высока скочыў конь, але вострыя сукі закранулі яго капыты.

Цішэй, цішэй, не наткніся на струхлелы дуб, што пражыў стагоддзі і ўжо без скаргі паддаўся смяротнаму лёсу. Пакарэжаныя навалай віхуры сухія яго галіны, хапаючыся ў сваім падзенні адна за другую, павіслі над дарогай і гатовы прыдушыць неасцярожнага падарожнага. Зварухнуўся ўжо і ягоны неабдымны камель, у якім можа змясціцца ладны стог сена. Першая навальніца паваліць яго, пакрышыць голле, і будзе ён гніць яшчэ доўгія дзесяцігоддзі. Аднак не вырасце яму на змену малады атожылак. Ужо яго пасынкі даўным-даўно вырваліся з гнятучага іх ценю на прыволле-раздолле, у краіну сонечнага святла, абступілі яго навокал, як нашчадкі труп скнары, і хутка стануць смактаць сваім карэннем сакавітую вільгаць на яго магіле...

Стой, Орлік, не спяшайся! Буралом распасцёрся на дарозе: няма праезду! Лясны шторм праімчаўся вузкай палосай, і як бязлітасная карцеч вырывае шэрагі жыццяў у баявой шарэнзе, так і ён паваліў суцэльную шарэнгу дрэваў. Стройны ясень упаў на аграмадны вяз, і ў сваю чаргу гняце яго тоўстая асіна, а паверх яе разлёгся сваім голлем цяжэзны граб і пераплёўся з адламанай верхавінай бярозы. Быццам белая мармуровая калона помніка, сумна-сумна падымаецца яе высокі камель на гэтым могільніку загінуўшых у баі непасільным, а навокал яго ўжо ўецца нейкая лясная моладзь, нават у познюю зіму захоўвае яна сваю далікатную зелень. Далей буралом падымаецца яшчэ вышэй, яшчэ больш сумна тырчаць касцякі паламаных штормам дрэў, і на адным з іх застыў у глыбокім роздуме пушчанскі арол. Моцна-моцна ўхапіўся ён сваімі вострымі шпонамі за край пераломy, крыху апусціў правае крыло і павіс над ім вострай дзюбай.

Спачатку стралец схапіўся за дубальтоўку, але перадумаў траціць патрон. «Відаць, хворы, — рашыў ён, — усяроўна здохне». Але арол раптам рэзка падняў галаву, прыціснуў да грудзей звісаўшае крыло, зірнуў на стральца злосным позіркам, і, кіўнуўшы ўбок галавою, замахаў сваімі шырокімі крыламі.

Не хапайся, стралец, зноў за стрэльбу, бо арол ужо ўзвіўся вышэй лесу стаячага, ніжэй воблака хадзячага...

Невыразны след палазоў паварочваў з дарогі паўз буралом. Стралец накіраваў каня па гэтым следзе і праехаў завал па свежапрацярэбленай некім сцяжыне. Мясцовасць стала заўважальна паніжацца. Паказаўся алешнік, змрочная елка замільгацела перад вачыма. Незаўважальная для вока крыніца струменілася па нізіне, і конскія капыты мякка ступалі па прамочаным незамярзальным струменем снезе. Разнастайныя дрэвы амаль увесь год жыравалі тут на жыватворнай вільгаці, разрасталіся гушчаром, змагаліся паміж сабою за мізэрную грудку ўраджайнай глебы, счэпліваліся голлем, перапляталіся верхавінамі і імчаліся адно за другім, каб хаця б некалькімі галінкамі зірнуць на цёплае сонейка, на светлыя зоркі. Шчаслівыя тыя з іх, каму ў пагоні за сонечным промнем пашэнціла апярэдзіць свайго роднага брата: стройныя, здаровыя, магутныя, стаяць яны, быццам волаты лясныя, і пагардлівай ганарыстасцю пазіраюць на няшчасных неўдалотаў, што выцягнуліся за імі тонкімі парасткамі, ужо схіліўшых ад знямогі свае рэдзенькія вершалінкі, пакарэжаныя, раз'едзеныя грыбамі і цвіллю...

Конь з цяжкасцю праціскаўся вузкай сцяжынкаю, на якую з усіх бакоў наступалі дрэвы. Зірнуў стралец уверх: не відаць Божага свету. «Я ж на кані, а які я тут малюсенькі! — меркаваў ён. — А калматы Жучок дык зусім як казюрка». Сумна стала маладому стральцу. З кожным крокам каня ўсё змрачней становіцца ў лесе.



«Хмара ці што неба зацягнула? — дзівуецца стралец. — Нешта надта ж ціха навокал. Хаця б дзяцел застукаў у сухі сук сваёй моцнай дзюбай, ці якая-небудзь лясная птушка ўспырхнула!» Панік хвацкай галавою малады стралец, мацней сціскае ў руцэ павады і падганяе Орліка. Але ж каню разбегчыся тут немагчыма — чаго добрага лбом у дрэва ўдарыцць.

Недзе далёка ў лясной нетры пачуўся гул, быццам нехта там пусціў у ход вадзяны млын і вада імклівa кінулася цераз застаўкі. Калматы Жучок, што бег наперадзе, раптам затрымаўся, утаропіўся мордай у той бок, адкуль пачуўся гул, і трывожна забрахаў. Орлік уздрыгнуў і натапырыў вушы. Гул пачуўся ўжо бліжэй, з новай сілай, грамчэй. Рэха тысячным водгуллем разнесла яго па лесе, і над галавою вершніка пагрозліва зашумелі дрэвы, абсыпаючы яго тонкімі голкамі інею. Стралец паспешна зняў шапку і набожна перахрысціўся, але не паспеў ён паправіцца на сядле, як аднекуль ззаду на яго наляцеў парыў ветру, абсыпаў густым воблакам дробных сняжынак і прымусіў прыхіліцца да самай шыі Орліка.

Мігам падняў стралец шырокі каўнер кажушка, шчыльней захутаўся ў світку, але завіруха ўжо прарвалася недзе перадам і сячэ яму проста ў твар снегам, ледзяшамі, абломкамі галінак.

Задрыжаў лес да самых каранёў, застагнаў, узвыла злосная мяцеліца — усё закружылася ў якімсьці шаленчым танцы. «Госпадзі, ратуй!» — вырываецца з грудзей стральца малітоўнае благанне. Ён прыціскае галаву да грывы Орліка і з жахам слухае, як з трэскам ломяцца галіны, грукочуць паваленыя віхурай дрэвы. «Галубок, Орлік, хутчэй! — благае ён каня. — Вынось, родны!»

III

Высокі дуб, магутны дуб. Шырока распасцёр ён моцныя голлі, што таўшчынёй роўныя любому векавому дрэву. Цэлая сотня людзей можа схавацца ў яго халаднаватым цені. Старажытны дуб. Колькі навальніц пранеслася над ім, колькі пакаленняў адпачывала пад яго гасцінным шатам! Дзяды і прадзеды пушчанскіх стральцоў памятаюць яго ўсё ў тым жа выглядзе. Толькі абступіўшыя яго навокал елкі пастарэлі, толькі амяла, чужаедная расліна, што разрастаецца з трэшчын дубовай кары, стала гусцей і цалкам спавіла ягоную верхавіну. Ніякія віхуры, ніякія мяцеліцы не страшныя магутнаму дубу: недзе там, на жудаснай вышыні, змагаецца з імі яго верхавіна, а ўнізе, пад ім, поўны зацішак; нават у самую снежную і вострую зіму навокал яго сцелецца мяккі мох, а па моху віюцца атожылкі плюшча, чапляюцца яны за выступы кары ляснога пращчура, дабягаюць да яго галін і спускаюцца з іх вечназялёнымі гірляндамі.

Калісьці, даўным-даўно, у часы паганства, вакол такіх дубоў ладзіліся святыя капішчы, пад іх дахам стаялі статуі-страшылішчы бога Перуна, сычэлі святыя вужы, на ахвярніках палаў нязгасны Зніч-агонь, які ахоўвалі цнатлівыя дзевы-вайдэлоткі і прыносіліся крывавыя чалавечыя ахвяры.

Гарыць агонь пад дубам, але не прыгажуня вайдэлотка ахоўвае цяпельца, а ціснецца да яго, змерзнуўшы ў падарожжы, малады стралец. Каля стральца стаіць узлахмачаны завірухай Орлік і прагна жуе ў торбе аброк. Калматы Жучок пазірае на гаспадара падлізлівым зрокам і старанна махае хвастом, быццам хоча як мага хутчэй выканаць дадзеную яму работу.

Стралец закончыў сваю вячэру, кінуў Жучку яшчэ кавалак печыва, паправіў торбу ў Орліка і з выразам болю на твары грузна прысеў ля самага падножжа дуба. «Шчасце яшчэ, што галіна зачапіла мяне па шапцы, — думаецца яму, — але ўсё ж галава ные, мабыць, сіняк там нарастае. І як жа ж стала яна шпурляць у мяне ўсім, што трапілася, як жа ж стала шпурляць! І плячам дасталася, і руку да крыві абдзёр...» Успамінаецца стральцу цёплая хата, матуля... «Та-ак, прадчувала яе сэрца, што нядобрае са мной у дарозе здарыцца, — мяркуе ён, — нездарма старэнькая крыжам святым ахінула мяне». Стралец асцярожна прытуліўся плячыма да дуба, азірнуўся навокал. Страшна!.. Як пагрозліва стаяць азараныя хісткім святлом вогнішча насупленыя елкі, як пагрозліва пазіраюць паміж імі, аднекуль з лясных нетраў, змрочныя, цёмныя норы! І мроіцца маладому стральцу, што з тае, самай цёмнай і глыбокай нары зараз жа высунецца да яго калматая лапа лесавіка. Зажмурвае стралец вочы, то прыслухоўваецца да сумнага шуму слабеючай завірухі, то пільна ўзіраецца ў вогнішча. Прыемная цеплыня расплываецца па ўсім целе, вейкі бязвольна зажмурваюцца. «Хаця б толькі не заснуць, — непакоіцца ён, — бо ноччу прадзірацца цераз лес яшчэ болей небяспечна...» Ды не, ён не засне, ён толькі на адну хвілінку забудзецца: ён жа так выразна чуе, як Орлік жуе аброк, расцірае, як баба канаплянае семя ў ступцы... «Не, ноччу нельга ехаць, страшна ехаць ноччу...»

«А ці зараз ноч? — чуецца над вухам стральца чыйсьці далікатны, срабрысты голас, быццам пчолкі над кветкай. — Зірні, які ясны дзень, як яскрава свеціць сонца!»

Прыслухоўваецца малады Грышко да гэтай чароўнай мовы. «І праўда, гэта ж цяпер дзень, — думаецца яму, — я ж не ў лесе, а пасярод поля. Так, поле, шырокае поле навокал, і па ўсім полі залатым адлівам хвалюецца выкаласаваўшая пшаніца». Недзе высока над яго галавой замірае ў блакітным паветры песня жаваранка.

«Гэта ж жаўронак спяваў, — насміхаецца над самім сабою Грышко, — а мне пачулася дзявочая гаворка».



«Не, не жаўронак, а я — сяброўка твая! — чуецца зноў той жа голас з залацістай пшаніцы, і на ўсыпаную пахучым румянкам мяжу выходзіць прыгажуня русалка, з распушчанымі па самыя пяты русымі косамі, з вянком з васількоў на прамяністай галоўцы, і так прыемна ўсміхаецца сваімі ружовымі губкамі, так ласкава пазірае блакітнымі вочкамі.

«Грышко, саколік мой, зорачка ясная! Паслухай, што я скажу табе, — задуменна кажа яна і кладзе маленькую, бяленькую ручку на плячо маладога стральца. — Слухай, — паўтарае зноў прыгажуня і нахіляецца да яго палаючай шчакі. — Выратуй нашу бедную царыцу! Ты ж бачыш гэты лес, жахлівы лес у злосную завіруху. Яго раней не было, тут паўсюдна рассціláліся ўраджайныя нівы, усюды прасціралася наша шчаслівае царства. Але злосны чараўнік, здрадлівы цар-салтан, наслаў нядобры сон на нашу царыцу за тое, што яна не захацела прыняць ад яго вясельныя падарункі. Там, далёка ў пушчы, за непраходнымі багнамі і нетрамі, спіць яна, прыгажуня, у залатым палацы. Ідзі!.. Дакраніся да яе вось гэтым пярсцёнкам — і яна прачнецца».

Бедны Грышко дрыжыць, быццам лісток, голас заглох у ягоных грудзях, а рука адчувае, як на яго палец насоўваецца пярсцёнак, і яго постаць вакол абвіваюць доўгія косы русалкі.

«Ляцім, ляцім хутчэй, — яна шэпча яму, — ляцім, быццам вецер!»

І малады стралец, з абняўшай яго прыгажуняй, адрываецца ад зямлі, імчыцца разам за паветраным струменем і бачыць, што пад ім ужо зяленіцца пушча. Як рэха далёкай музыкі далятае да яго з лясной гушчы песня салаўя. Доўга-доўга імчацца яны. «Як прыемна купацца ў халаднаватым струмені паветра, — думае стралец, — але нашто так моцна сціснулі маю постаць доўгія косы русалкі, чаму яна гарачым целам так шчыльна прыціснулася да мяне і дыхае ў мой бок сваім палкім дыханнем?»

«Вось тут мяжа зачараванага лесу, — гучыць далікатны голас русалкі, і яны апускаюцца на шырокую лясную паляну. Барозны даўно ўзаранага поля цягнуцца па ёй роўнымі радамі, і ўсюды бялеюць выпаласканыя дажджом чалавечыя косці. На ўскраіне паляны нерухома стаяць велічныя дубы і, як быццам вайсковая старожа, захоўваюць размераную адлегласць адзін ад другога, а далей суцэльнай сцяною разрастаецца цёмны лес. Дзівосныя дрэвы ўздымаюцца на неверагодную вышыню і захінаюць паляну цёмным ценем. Але ці то цень там, гэтыя чорныя палосы? Стралец міжвольна ўздрыгнуў, калі ягоныя зыркія вочы пранікні зрокам паляну, і ён убачыў жудаснае мноства драпежных звяроў — пострах ягонай роднай пушчы. Касматыя мядзведзі бяспечна сядзелі, утаропіўшы морды на паляну, шэрыя ваўкі вышчарылі свае вострыя зубы, паласатыя рысі, бы каты, падпільноўваючы здабычу, прыляглі да зямлі і гатовы былі кінуцца на зуха, які наважыўся парушыць іхні спакой.

Калісьці, даўным-даўно, у часы паганства, вакол такіх дубоў ладзіліся святыя капішчы, пад іх дахам стаялі статуі-страшылішчы бога Перуна, сычэлі святыя вужы, на ахвярніках палаў нязгасны Зніч-агонь, які ахоўвалі цнатлівыя дзевы-вайдэлоткі і прыносіліся крывавыя чалавечыя ахвяры.

Гарыць агонь пад дубам, але не прыгажуня вайдэлотка ахоўвае цяпельца, а ціснецца да яго, змерзнуўшы ў падарожжы, малады стралец. Каля стральца стаіць узлахмачаны завірухай Орлік і прагна жуе ў торбе аброк. Калматы Жучок пазірае на гаспадара падлізлівым зрокам і старанна махае хвастом, быццам хоча як мага хутчэй выканаць дадзеную яму работу.

Стралец закончыў сваю вячэру, кінуў Жучку яшчэ кавалак печыва, паправіў торбу ў Орліка і з выразам болю на твары грузна прысеў ля самага падножжа дуба. «Шчасце яшчэ, што галіна зачапіла мяне па шапцы, — думаецца яму, — але ўсё ж галава ные, мабыць, сіняк там нарастае. І як жа ж стала яна шпурляць у мяне ўсім, што трапілася, як жа ж стала шпурляць! І плячам дасталася, і руку да крыві абдзёр...» Успамінаецца стральцу цёплая хата, матуля... «Та-ак, прадчувала яе сэрца, што нядобрае са мной у дарозе здарыцца, — мяркуе ён, — нездарма старэнькая крыжам святым ахінула мяне». Стралец асцярожна прытуліўся плячыма да дуба, азірнуўся навокал. Страшна!.. Як пагрозліва стаяць азараныя хісткім святлом вогнішча насупленыя елкі, як пагрозліва пазіраюць паміж імі, аднекуль з лясных нетраў, змрочныя, цёмныя норы! І мроіцца маладому стральцу, што з тае, самай цёмнай і глыбокай нары зараз жа высунецца да яго калматая лапа лесавіка. Зажмурвае стралец вочы, то прыслухоўваецца да сумнага шуму слабеючай завірухі, то пільна ўзіраецца ў вогнішча. Прыемная цеплыня расплываецца па ўсім целе, вейкі бязвольна зажмурваюцца. «Хаця б толькі не заснуць, — непакоіцца ён, — бо ноччу прадзірацца цераз лес яшчэ болей небяспечна...» Ды не, ён не засне, ён толькі на адну хвілінку забудзецца: ён жа так выразна чуе, як Орлік жуе аброк, расцірае, як баба канаплянае семя ў ступцы... «Не, ноччу нельга ехаць, страшна ехаць ноччу...»

«А ці зараз ноч? — чуецца над вухам стральца чыйсьці далікатны, срабрысты голас, быццам пчолкі над кветкай. — Зірні, які ясны дзень, як яскрава свеціць сонца!»

Прыслухоўваецца малады Грышко да гэтай чароўнай мовы. «І праўда, гэта ж цяпер дзень, — думаецца яму, — я ж не ў лесе, а пасярод поля. Так, поле, шырокае поле навокал, і па ўсім полі залатым адлівам хвалюецца выкаласаваўшая пшаніца». Недзе высока над яго галавой замірае ў блакітным паветры песня жаваранка.

«Гэта ж жаўронак спявае, — насміхаецца над самім сабою Грышко, — а мне пачулася дзявочая гаворка».



«Не, не жаўронак, а я — сяброўка твая! — чуецца зноў той жа голас з залацістай пшаніцы, і на ўсыпаную пахучым румянкам мяжу выходзіць прыгажуня русалка, з распушчанымі па самыя пяты русымі косамі, з вянком з васількоў на прамяністай галоўцы, і так прыемна ўсміхаецца сваімі ружовымі губкамі, так ласкава пазірае блакітнымі вочкамі.

«Грышко, саколік мой, зорачка ясная! Паслухай, што я скажу табе, — задуменна кажа яна і кладзе маленькую, бяленькую ручку на плячо маладога стральца. — Слухай, — паўтарае зноў прыгажуня і нахіляецца да яго палаючай шчакі. — Выратуй нашу бедную царыцу! Ты ж бачыш гэты лес, жахлівы лес у злосную завіруху. Яго раней не было, тут паўсюдна рассцілаліся ўраджайныя нівы, усюды прасціралася наша шчаслівае царства. Але злосны чараўнік, здрадлівы цар-салтан, наслаў нядобры сон на нашу царыцу за тое, што яна не захацела прыняць ад яго вясельныя падарункі. Там, далёка ў пушчы, за непраходнымі багнамі і нетрамі, спіць яна, прыгажуня, у залатым палацы. Ідзі!.. Дакраніся да яе вось гэтым пярсцёнкам — і яна прачнецца».

Бедны Грышко дрыжыць, быццам лісток, голас заглох у ягоных грудзях, а рука адчувае, як на яго палец насоўваецца пярсцёнак, і яго постаць вакол абвіваюць доўгія косы русалкі.

«Ляцім, ляцім хутчэй, — яна шэпча яму, — ляцім, быццам вецер!»

І малады стралец, з абняўшай яго прыгажуняй, адрываецца ад зямлі, імчыцца разам за паветраным струменем і бачыць, што пад ім ужо зяленіцца пушча. Як рэха далёкай музыкі далятае да яго з лясной гушчы песня салаўя. Доўга-доўга імчацца яны. «Як прыемна купацца ў халаднаватым струмені паветра, — думае стралец, — але нашто так моцна сціснулі маю постаць доўгія косы русалкі, чаму яна гарачым целам так шчыльна прыціснулася да мяне і дыхае ў мой бок сваім палкім дыханнем?»

«Вось тут мяжа зачараванага лесу, — гучыць далікатны голас русалкі, і яны апускаюцца на шырокую лясную паляну. Барозны даўно ўзаранага поля цягнуцца па ёй роўнымі радамі, і ўсюды бялеюць выпаласканыя дажджом чалавечыя косці. На ўскраіне паляны нерухома стаяць велічныя дубы і, як быццам вайсковая старожа, захоўваюць размераную адлегласць адзін ад другога, а далей суцэльнай сцяною разрастаецца цёмны лес. Дзівосныя дрэвы ўздымаюцца на неверагодную вышыню і захінаюць паляну цёмным ценем. Але ці то цень там, гэтыя чорныя палосы? Стралец міжвольна ўздрыгнуў, калі ягоныя зыркія вочы праніклі зрокам паляну, і ён убачыў жудаснае мноства драпежных звяроў — пострах ягонай роднай пушчы. Касматыя мядзведзі бяспечна сядзелі, утаропіўшы морды на паляну, шэрыя ваўкі вышчарылі свае вострыя зубы, паласатыя рысі, бы каты, падпільноўваючы здабычу, прыляглі да зямлі і гатовы былі кінуцца на зуха, які наважыўся парушыць іхні спакой.

Стралец міжвольна падаўся назад, але моцныя абдымкі русалкі сціскалі яго шыю, яна пахучымі губамі прыпала да яго вуснаў, і палкія пацалункі перапыняла толькі шэптам: «Мілы, не бойся!»

Стралец зрабіў крок наперад. Усё закруцілася віхурай на паляне, з шумам захісталіся старажытныя дубы, высока ўзняліся з зямлі сухія косці, і нерухомыя дагэтуль звяры з аглушальным выццём кінуліся на беднага стральца.

«Адважна, не бойся!» — яшчэ далікатней гучыць чароўны шэпат русалкі, і стралец мігам перабягае паляну пасярод драпежнікаў, што не наважыліся дакрануцца да яго. Гушчавіна зачараванага лесу ахоплівае яго цёмным ценем. У лесе дрыгва, твань, але ногі стральца слізгаюцца па яе паверхні, нават не закранаючы бурай, прагніўшай, смярдзючай балотнай ціны. Запалонены цікавасцю, пазірае ён навокал. Дрэвы растуць па высокіх купінах, чорныя, без лісця, і, быццам павуціннем, апутаны чорным, каўтунаватым мохам. «О, святы Божа! — міма волі ўсклікае стралец, — якія гэта страхотныя дрэвы!» І бачыць ён выразна, што мох на гэтых дрэвах варушыцца, і адчувае, што ногі яго патанаюць у гразкай ціне, і з жахам чуе каля свае шчакі злоснае змяінае сіпенне. Ужо не далікатныя абдымкі русалкі, не доўгія косы, а дзве змяі сціскаюць яго сваімі кольцамі. Валасы сталі дыбам, а ён усё глыбей і глыбей грэзне ў смярдзючай топелі, і ў смяротным страху бачыць ён, што з дрэў цягнуцца да яго кашчавыя рукі пачвараў... «Гэта даўно прапаўшыя на свеце хваробы», — прыгадваецца яму ціхі голас маці, якая закалыхвала яго ў дзяцінстве казкай пра зачараваны лес. — Гэта ліхія жонкі, што пакінулі сваіх мужыкоў і дзяцей на волю злую, гэта вісельнікі, самавольна спыніўшыя сваё жыццё ганебнай пятлёю і назаўсёды пазбавіўшыя сябе Божай літасці. Назаўсёды яны прыкаваны да гэтых страхотных, праклятых дрэваў...» А пачвары ўжо кранаюцца няшчаснага сваімі касцістымі рукамі. Халодны пот выступіў у стральца на лбе, дрыжыкі прабягаюць па ўсіх яго суставах...

## IV

«Дзе я, што дзеецца са мною? — мармыча ён у паўсне, расплюшчвае вочы і радасна ўздыхае поўнымі грудзьмі. — Дзякуй Богу, гэта ж быў сон!»

Полымя яшчэ мільгае ў гаснучым вогнішчы. Орлік даўно ўжо апаражніў торбу, калматы Жучок паспеў выспацца і лашчыцца да гаспадара. Стралец азіраецца навокал. Яшчэ больш хмурыя, чым раней, цёмныя елкі, але якоесьці дзівоснае святло мільгае паміж галінамі? «Няўжо гэта месяц?» — дзівуецца стралец, выходзіць з-за ценю дуба,



пазірае на неба і бачыць, што месяц ужо апускаецца ў глыбіню лесу, пачынаюць блякнуць яскравыя зоркі.

«Трэба ўжо пачакаць на дзень, зноў вогнішча раскласці!» — вырашае ён, але раптам Жучок кінуўся ў лес, забрахаў, заенчыў, мігам вярнуўся назад і ў жаху прыціснуўся да дуба. Поўсць на ім натапырылася, і ён кіруе камусьці ў лес злоснае бурчанне. «Што ты, што ты, Жучок!» — перапужаным голасам адзываецца стралец і паспешліва хапае абапёртую аб дуб стрэльбу.

— О-о-ох, о-о-ох! — чуваць з лясной нетры жаласны стогн.

— Хо, хо, хо! — адказвае яму прарэзлівы рогат недзе паблізу, у той самай глыбокай і цёмнай нары паміж елкамі, куды перад сном надта ж неахвотна пазіраў стралец.

Жучок зноў кінуўся ў лес з заядлым брэхам і з некім там агрызаецца.

«Вазьмі, вазьмі яго, Жучок!» — падбадзёрвае сябе крыкам малады стралец, нацэліўшы дубальтоўку ў лес, і сам зараз жа ўсміхаецца на свой пярэпалах, што навеяў яму жудасны сон. «Гэта ж совы пераклікаюцца!» — супакойвае сябе. Але чаму ж гэта Орлік раптам ірвануўся з месца, трывожна храпе, стрыжэ вушамі?

Рэзкае, пранізлівае мяўканне пачулася з верхавіны дуба, і з яго галін дажджом сыплюцца на стральца сухое лісце і галінкі амялы. Ужо не ў сне, але наяве стралец адчувае, што ў яго шапка падымаецца разам з валасамі і зуд прабягае пад скурай. Ён спешна здымае з Орліка торбу, падцягвае папругі, ускоквае ў сядло. Жучок, цалкам пакамечаны, з жаласным сковытам вяртаецца назад, а ўслед яму нясецца злосны рык. Стралец цэліцца напапад у бок рыку і пасылае кулю ў нябачнага ворага... Выстрал грукоча, рассыпаецца рэхам па лесе, а стралец закідвае на плечы стрэльбу і пускае каня наўскапыта.

## V

Эх, стралец, дарма ты страціў патрон! Азірніся, вораг ужо блізка... Ледзь не па пятах Орліка топчуць дзесяткі лап, і нават чуваць учашчанае дыханне пагоні.

Бедны Жучок намагаецца перагнаць Орліка, але ўжо скавыча, ужо траціць сілу. Азірнуўся малады Грышко і бачыць — на дарозе мільгаціць мноства падвойных свечак. Гэта вочы драпежнікаў, гэта яны так палаюць у цемры: цэлая зграя ваўкоў гоніцца за ім.

«О, святы цудатворца Мікола, ратуй мяне! О, святая Параскева-Пятніца, дапамагай мне, грэшнаму!» — моліцца бедны Грышко. Прыпадае ён галавою да конскай грывы, прыціскае моцна левай рукою да пляча стрэльбу і кайстру, пускае павады:

«Орлік, галубок, ратуй!» — ляпечуць яго пахаладзелыя вусны.

Конь быццам зразумеў благанне вершніка і крута павярнуў у лясную гушчавіну.

«Малайчына, Орлік, — цешыцца Грышко, — па лесе ім не дагнаць нас!»

Але затое голле хвошча яго па плячах, зрывае з галавы шапку, рве за валасы. Грышко яшчэ ніжэй нагінаецца да конскай шыі, яшчэ мацней прыціскае да пляча дубальтоўку і кайстру.

Доўга цягнецца гонка па лесе. Але ж, у канцы, дрэвы радзеюць, пачынаецца густы лазняк. А дзе ж Жучок? Бедны, бедны кудлачок, яго ўжо даўным-даўно разарвалі на кавалкі вострыя воўчыя зубы.

Конь выскачыў з лазняку на шырокую снежную раўніну. Гэта рака сваёй паводкай адсунула лес далёка ў абодва бакі і ціха плыве па раўніне. Але цяпер тоўстая кара лёду крые яе. Уперадзе чарнеюць высокія стагі. Ды якія ж гэта агеньчыкі паблісквають там далёка, каля лесу? Няўжо новая воўчая зграя?

Конь надрыўна храпе, выцягваецца ў струнку ды імчыць да стагоў. Бліжэйшы з іх ужо недалёка. Госпадзе, што гэта за жудасныя страшыдлы варушацца там каля яго? Бедны стралец траціць розум ад страху, намагаецца паўстрымаць каня, але конь імкліва матануў галавою, вырваў з яго рук павады і громка заіржаў, быццам падаючы трыумфуючы, пераможны кліч.

Вось ён падбягае да страшыдлаў, урываецца ў іхні натоўп, затрымліваецца ля стога, бяссільна прыціскаецца да яго, хрыпіць і паволі апускаецца на калені. Грышко лётам думкі ускаквае на верхавіну стога. Унізе чуваць злоснае рохканне...

«Дык гэта ж зубры, родненькія, — цешыцца Грышко. — Ну, не аддадуць жа яны ваўкам майго Орліка!»

Вялікі статак зуброў, штук за трыццаць, ціснецца да стога. Цяляты і зубрыхі займаюць сярэдзіну натоўпу, а ў пярэднюю шарэнгу высоўваюцца рослыя самцы з аграмаднымі рагамі. Яны апускаюць да зямлі галовы, рыхтуючыся сустрэць напад драпежнага ворага.

Злоснае працяглае выццё разносіцца па снежнай раўніне.

Грышку выразна відаць, як злучаюцца абедзве зграі ваўкоў, перабягаюць адны да другіх, быццам раяцца паміж сабою, і затым паволі, акінуўшы позіркам поле будучай бітвы, падступаюць да зуброў і расстаўляюцца перад імі на паўсотню крокаў. Зноў уздымаецца працяглае выццё. Грышко пачынае лічыць ваўкоў — іх болей капы, і то не ўсіх палічыў.

На воўчае выццё зубры адказваюць рохканнем і нецярпліва грабуць капытамі мёрзлую зямлю. Грышку добра відаць, як у пярэдніх зуброў пеняцца мызы і белая пена жмуткамі слізгаецца па барадах і падае на зямлю. Бедны Орлік упаў каля стога і надрыўна дыхае.



«Прападзе конь, нізашто прападзе!» — непакоіцца Грышко. Але ў гэтую ж хвіліну ўся зграя ваўкоў, як па камандзе, імкліва кідаецца на зуброў. Падымаецца снежны пыл, праразлівыя выццё і сковыт перамешваюцца са злосным рохканнем. Некалькі ваўкоў падхопліваюць зубры на рогі і адкідаюць далёка ўбок.

Ваўкі адступаюць з роспачным выццём, зноў збіраюцца ў граmаду і з падвоенай ярасцю кідаюцца на зуброў, галоўнымі сіламі націскаючы з бакоў і намагаючыся выбіць з шарэнгі крайніх быкоў. І тут жа на крайняга з іх з правага боку накідваецца дзесятак драпежнікаў. Зубр адчайна махае галавой управа і ўлева. Некалькі драпежнікаў ужо адкінуты ім набок, але другія неадступна націскаюць на яго, і аднаму ўдаецца ўскочыць на тоўсты хрыбет. Драпежнік абхоплівае вострымі пазурамі горб няшчаснага зубра і ўпіваецца зубамі ў ягоную шыю.

Эй, стралец, не будзь разявай, на што ж маеш стрэльбу?

Прагучэў стрэл. Драпежнік мёртвы ўпаў са спіны зубра, а ўся воўчая зграя кінулася ўбок і разбеглася. Ваўкі паасобку прыселі на задніх лапах і праразліва завылі.

Стралец падбадзёрыўся. Ён ужо паспеў зарадзіць стрэльбу і выбірае любога з драпежнікаў. Ён не прамахнецца.

Два ваўкі валяцца на снег, але вецер падхоплівае палаючыя, з пакулля, затычкі патронаў і нясе іх па раўніне да суседняга стога, каля якога зубры толькі што параскідвалі сена. Затычкі разгараюцца ўсё мацней, успыхваюць полымем, яно яскравымі струменьчыкамі бяжыць па сене і ўмомант ахоплівае ўвесь стог.

Высока выстрэльвае полымя, пераносіцца на некалькі суседніх стагоў. Агромністае зарава незвычайнага ўзімку ляснога пажару асвятляе неба, на якім ужо займаецца ранішні світанак.

Неўзабаве грамада ўзброеных стральцоў вярхом прымчалася на месца пажару. Ваўкі ўжо паспелі знікнуць у лесе. Убачыўшы грамаду людзей, таксама і зубры падаліся ў пушчу, трымаючыся ўсё таго ж баявога парадку.

* * *

Было тое даўным-даўно, калі яшчэ не дзяржаўныя леснікі, але «тутэйшыя», свае людзі ахоўвалі пушчу. Ад тых часоў і парадзела пушча: дзесяткі тысяч векавых дубоў і ясеняў ды мачтавых соснаў паспелі сплыць па Нарве і Вісле ў далёкі Гданьск. Стралец Лаўрэн Баравік спіць у сырой магіле. Пастарэў і Грышко, ну і ваўкоў у пушчы няма. Людзі пераконваюць, што ўсе ваўкі з яе падчас апошняй вайны (1812—1814 гг. — *М.Г.*) пайшлі ў Турэччыну ды яшчэ дагэтуль адтуль не вярнуліся. Дасць Бог, і не вернуцца.

*З расейскай мовы пераклаў*
**Мікола Гайдук**

# ІНФАРМАЦЫЯ

## ПАСОЛЬСКАЕ БЮРО

Інфармуем чытачоў «Беларускага календара», што ў будынку ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская, 11 (паштовы код 15 062), знаходзіцца Пасольскае бюро пасла ЯНА СЫЧЭЎСКАГА. Прыёмныя дні — панядзелкі, з 9 да 13 гадзін, акрамя дзён, у якія адбываюцца пасяджэнні Сейма. Тэлефон: 7-435-118, факс: 435-718.

Наведвальнікі могуць карыстацца, згодна са сваім жаданнем, усімі славянскімі мовамі і дыялектамі, якія ўжывае насельніцтва Беласточчыны.

## КУПЛЯЙЦЕ ВЫДАННІ ГП БГКТ!

Выдавецтва Галоўнага праўлення БГКТ мае яшчэ ў продажы папярэднія выданні беларускіх календароў і некалькіх літаратурных твораў.

У календарах з апошняга дзесяцігоддзя чытач знойдзе многа нестарэючых апрацовак, сярод якіх, паводле нашых ацэнак, да найбольш цікавых можна залічыць:

*1990 год.* «Адгэтуль мы родам» М. Гайдука, «Непакорная Вера» Ю. Туронка, «Справа беларусізацыі праваслаўнай Царквы ў святле палітыкі польскіх дзяржаўных уладаў 1919—1939» М. Давідзюка.

*1991 год.* «Веліч здзяйсненняў Ф. Скарыны» У. Казберука, «Царкоўныя брацтвы на Беларусі» А. Мірановіча, «Дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (1926—1937)» Х. Гамулка.

*1992 год.* «Нараджэнне, хрэсьбіны і дзіцячы фальклор у вёсцы Падрэчаны» М. Заброцкай, «Вясельныя абрады ў Парцаве» А. Новак, «Абраднасць, звязаная са смерцю чалавека, у вёсцы Градалі» А. Банькоўскай.

*1993 год.* «Легенды з Беласточчыны» Т. Русачык, «Волька Выганаўская (гісторыя царквы і прыхода на фоне мінулага вёскі»)» а. Р. Сасны і М. Сахарэвіча.

*1994 год.* «Матэрыялы XII з'езда БГКТ», успаміны пра беларускія гімназіі ў Гайнаўцы, Беластоку і Бельску В. Шведа і У. Юзвюка.



*1995 год.* «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы» У. Юзвюка, «Гісторыя Бельскага беларускага ліцэя» З. Навіцкай, «Беларускі ліцэй у Гайнаўцы» А. Іванюка.

*1996 год.* «БГКТ у шасцідзесятыя гады. Выдавецкая дзейнасць (факты, успаміны)» У. Юзвюка, працяг у іншых гадавіках, «Навучанне беларускай мове ў пачатковых і сярэдніх школах Беласточчыны» Т. Русачык, «Наша Ніва» — барацьбітка за беларускае адраджэнне» А. Баршчэўскага.

*1997 год.* «Саракагоддзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы» Я. Сычэўскага, «Найважнейшыя мерапрыемствы БГКТ» М. Хмялеўскага, «Нарыс засялення і загаспадарання ўсходняй Беласточчыны» У. Юзвюка, «Вытокі Беларускага музея ў Польшчы» А. Іванюка, «Рэспубліка Беларусь у 90-ыя гады» Р. Жмойдзяка.

*1998 год.* «Парламенцкія выбары 1997» У. Юзвюка, «Матэрыялы XIII з'езда БГКТ».

У «Літаратурнай частцы», якая выступае ва ўсіх беларускіх календарах, змешчаны творы мясцовых беларускіх пісьменнікаў, многа іншай інфармацыі, а таксама фатаграфіі, у тым ліку ўдзельнікаў аматарскіх калектываў усходняй Беласточчыны.

Кніжкі, якія толькі традыцыйна называюцца «календарамі ГП БГКТ», маюць сімвалічны кошт: прадаюцца па адной залатоўцы.

Прадаюцца таксама літаратурныя альманахі, выдадзеныя ў 1965—1980 гадах, па адным злотым.

*У Альманаху № 1*, выдання 1965 года, змешчаны творы 22 аўтараў, у тым ліку: 24 вершы і апавяданні А. Барскага, 42 вершы Я. Бурша, 22 вершы В. Шведа, 29 твораў С. Яновіча, а таксама А. з Лепеля, М. Гайдука, У. Гайдука, Ю. Геніюша, У. Дваракоўскага, С. Заставіна, Ю. Зубрыцкага, М. Лобача, У. Паўлючука, С. Раманчука, В. Рудчыка, А. Свіська, В. Склубоўскага, Я. Целушэцкага, Д. Шатыловіча, творчасць пяці мясцовых мастакоў і ўспаміны М. Забэйды-Суміцкага. Гэта першае і, можа, найбольш цікавае выданне ГП БГКТ такога тыпу.

У літаратурным *Альманаху № 2* змешчаны творы 16 аўтараў, у тым ліку чатырох дэбютантаў: М. Красоўскага, С. Саца, З. Стаськевіч і Л. Танкевіча. У альманах уключаны таксама пераклад чацвёртай быліцы «Пана Тадэвуша», зроблены Б. Тарашкевічам, успаміны Л. Войцікавай аб М. Багдановічу і па некалькі фота твораў мастакоў В. Кабаца і А. Корзуна.

У *Альманаху № 3*, які быў выдадзены ў 1980 годзе, змешчаны творы 20 аўтараў і 10 польскіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову, а таксама фота творчасці чатырох мясцовых мастакоў. Па зместу гэты альманах, можа, крыху менш цікавы, але ў ім многа фота «белавежцаў».

Зборнік вершаў для дзяцей Віктара Шведа «*Вясёлка*» змяшчае на 192 друкаваных старонках каля 280 твораў. Усе яны па зместу падзелены на



Эстрадны калектыў з Беластока. *Фота С. Грынявіцкага.*

два раздзелы: «Падляшша» і «Смяшынкі». У першым раздзеле выдзелены падраздзелы: «Любі, браток, родны куток», «Прыроду беражы, прыродай даражы!», «Бабулі, дзедкі і малалеткі» і «Бусел верны Беларусі». У другім раздзеле: «Навука — не прынука», «Такія ж дзеці ва ўсім свеце» і «Жыццё заўсёды нясе прыгоды».

Вялікія выразныя шрыфты друку і дасціпныя ілюстрацыі робяць *«Вясёлку»* займальным выданнем не толькі для дзяцей. Яна таксама прыдатна дзедкам для чытання сваім унукам. Цана два злоты.

Аўтабіяграфічнае апавяданне Васіля Петручука «Пожня» складаецца з двух раздзелаў: «Пожня» і «Частка 2». У сваю чаргу раздзелы падзелены на шмат падраздзелаў, якія ажыўляюць змест кніжкі. Аўтар трапна перадаў вобраз колішняй вёскі і цяжкае ў ёй жыццё асірацелага хлапчука. Цана адзін злоты.

## АБ ЗМЕНАХ НАЗВАЎ ВУЛІЦ

Сярод многіх недарэчнасцей прасалідарніцкіх самаўпраў на Беласточчыне адбыліся таксама паўсюдныя змены папярэдніх назваў вуліц. Некаторыя з іх сапраўды былі непатрэбныя. Зараз жа няма горада без вуліцы



Ю. Пілсудскага, Арміі краёвай, дзеячаў усіх правых арганізацый міжваеннага і пасляваеннага перыядаў, ксяндзоў і іншых клірыкаў Рымска-каталіцкага касцёла, якія загінулі або заслужылі гэтаму веравызнанню. Усе іншыя постаці спіхваюцца ў забыццё. Пальму першынства вядзе горад Беласток. Дастаткова параўнаць назвы вуліц г. Беластока на яго планах 1971-га і 1996 гадоў. Нас здзіўляе, чым маглі так моцна абражаць салідарніцкую «дэмакратыю» назвы:

| Назвы | |
|---|---|
| папярэднія | сучасныя |
| Арміі Радзецкай | — Баранавіцкая |
| Бучка М. | — Мексіканская |
| Васілеўскай В. | — Ордануўны |
| Весялоўскага Б. | — Суражская |
| Дзяржынскага Ф. | — Легяновая |
| Дэпова | — Войск аховы паг. |
| Кона Ф. | — Левандовая |
| Маніфеста ліп. | — св. Роха |
| Мархлеўскага Ю. | — Палацовая |
| Манапалёвая | — св. Вайцеха |
| Наперскага К. | — Валынская |
| Навоткі М. | — Свентаянская |
| Астроўскага М. | — Граховая |
| Олейнічака | — св. Боболі |
| Партызанаў | — Валенрода |
| Прухняка Э. | — Лінярскага В. |
| Руткоўскага Т. | — Польская |
| Сверчэўскага К. | — 11 Лістапада |
| Сталінградская | — Літоўская |
| Фарнальскай М. | — Бялуўны I |
| Шэнвальда Л. | — Пад Крывою. |

Зусім згубіліся, незалежна ад папярэдніх пастаноў гарадской рады, такія назвы вуліц, як: Я. Коласа, Я. Купалы, Мінская і многа іншых. Ніколі не было: Беларускай, Украінскай ці Нямецкай, якія напаміналі б суседзяў, але ёсць: Літоўская, Эстонская, Славацкая, Чэшская (і нават Мексіканская) і ўжо зусім дзіўная ў сваёй краіне — Польская.

З горыччу хочам заўважыць, што сярод выкінутых назваў вуліц знайшліся сімвалы незабыўных гістарычных падзей, гераізму, прагрэсу, нястомнай працы на карысць Беласточчыны. У першай групе «ворагаў», якіх гарадскія ўлады вырашылі пазбыцца, знайшліся назвы слаўных гадавін або сусветных гістарычных здарэнняў: Сталінградскай бітвы, Савецкай Арміі, Ліпеньскага маніфеста ПКВН, 1 Мая, Партызанаў. Без адзначэння іх няма энцыклапедычных даведнікаў, школьных падручнікаў ці гіста-

рычных апрацаванняў, з якіх нашыя нашчадкі яшчэ сотні гадоў будуць вучыцца, а рашэнні гарадской управы — успамінаць як фальсіфікацыю гісторыі.

У другой групе «ворагаў» знайшліся ў першую чаргу ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі і прагрэсіўных арганізацый міжваеннага або пасляваеннага перыяду, нават калі яны аддалі жыццё за будучыню народа. Вось некалькі прыкладаў:

*Браніслаў Весялоўскі* (1870—1919) быў адным з арганізатараў СДКПіЛ, за што адпакутаваў 20 гадоў у ссылцы, пасля быў удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі і як старшыня місіі савецкага Чырвонага крыжа ў Польшчы 2.01.1919 года расстраляны польскімі жандарамі разам з іншымі членамі камісіі ў Лапах.

*Эдуард Прухняк* быў таксама дзеячам СДКПіЛ і царскім вязнем, удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, пасля быў членам ЦК КПП, за што ў 1937 годзе ў СССР пазбаўлены жыцця.

*Марцэль Навотка* (1893—1942) дзеяч СДКПіЛ і ЦК КПП, а пасля першы сакратар ЦК ППР, ураджэнец Беласточчыны, загінуў у невядомых абставінах.

Генерал *Караль Сьвярчэўскі* быў удзельнікам міжнароднай дывізіі ў Іспанскай рэвалюцыі, а ў гады другой сусветнай вайны — камандзірам другой арміі Войска Польскага. Пасля вызвалення — намеснік міністра абароны Польшчы, у 1947 годзе загінуў у Прыкарпацці ў барацьбе з УПА.

*Фелікс Кон* быў членам І Пралетарыята, шматгадовым вязнем і ссыльным, правадыром ППС-лявіцы, удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі і членам Часовага рэвалюцыйнага камітэта Польшчы ў Беластоку. Вядомы як рэдактар газет і часопісаў, у тым ліку на польскай мове, і вучоны.

*Мар'ян Бучэк* у гады першай сусветнай вайны служыў у польскіх легіёнах, потым належаў да КПП і больш сядзеў у турмах, чым дзейнічаў. У 1939 годзе загінуў у вайне з Германіяй.

Такіх прыкладаў можна прыгадаць многа.

Ніхто ў нашым горадзе не можа адказаць на пытанне, чаму гарадской самаўправе не спадабалася назва галоўнай вуліцы — 1 Мая, якую рабочыя збудавалі ў гонар свайго свята ў пяцідзесятых гадах! Імем Ю. Пілсудскага можна было б назваць вуліцу, збудаваную ў апошні час.

Селекцыянеры пакінулі яшчэ такія назвы вуліц, як: Ген. Берлінга, Звыцэнства, 27 Ліпеня, а таксама некаторых рэвалюцыянераў — Л. Варынскага, В. Урублеўскага, С. Окшэі, П. Фіндэра і іншых. Разам з гэтым увялі назвы дзеля ўсмешкі: Капцюшка, Яносіка, Ягенкі, Балядыны і постацяў, у сваіх заслугах абыякавых для Беласточчыны.

Змены назваў вуліц прадаўжаюцца. Жыхары Беластока губляюцца ўжо ў новых адрасах, а прасалідарніцкая «Еднасць» будзе дамагацца чарговых



зменаў датуль, пакуль у горадзе захоўвае ўладу. Калі захопіць яе іншая палітычная групоўка, пачне праводзіць, мабыць ужо сёмы раз, адваротныя змены і лічыць гэта за сваё вялікае дасягненне.

## КАЛЯНДАР «РОДНЫ КРАЙ»

Мінскае выдавецтва «Беларусь» выдае на беларускай мове адрыўны каляндар «Родны край». Гэтае выданне павінна зацікавіць жыхароў усходняй Беласточчыны сваім зместам, які аднолькава добра ўспрымаецца дарослымі і дзецьмі, жанчынамі і мужчынамі, вяскоўцамі і гараджанамі, і нават грамадзянамі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў.

У календары дасканала выкарыстана кожная картка фармату 14x7 см. На старонках змешчаны імяніннікі, важнейшыя гістарычныя даты, сярэднюю частку займаюць даты месяцаў, іх назвы, а апошняе месца прызначана на астранамічныя звесткі і назвы дзён кожнага тыдня. Нядзелі адзначаны чырвоным колерам, а дзяржаўныя і канфесійныя святы ўпрыгожаны яшчэ рысункамі. На пачатку месяцаў змешчаны табель-каляндар.

Наконт зместу другой старонкі каляндарных картак цяжка выказацца таму, што яны маюць характар маленькай энцыклапедыі, у якой кожны чытач знойдзе нешта цікавае: гістарычныя гадавіны, юбілеі пісьменнікаў, вучоных, артыстаў; прававыя, медыцынскія і іншыя парады, заўвагі аб сямейным жыцці, утрыманні памяшкання, рыхтаванні ежы, паходжанні нашых імёнаў і геаграфічных назваў, а таксама вершы, гумар і многа іншага.

Мы ўпэўнены, што, чытаючы карткі гэтага календара, вы ўзбагаціце не толькі свае веды, але пачняце лепш ацэньваць прыгажосць роднай мовы. Каляндар «Родны край» мала вядомы сярод нашага насельніцтва таму, што польскія імпарцёры сем гадоў не цікавяцца беларускамоўнымі выданнямі з Рэспублікі Беларусь. Выдавецтва можа прызначыць на нашыя патрэбы невялікую іх колькасць па цане недзе 0,5—1,00 долара, але на масавы экспарт патрэбны замаўленні. Некалькі злотых — выдатак невялікі, а задавальненне многа.

Адгукніцеся на адрас: БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская, 11.

## ЗМЕСТ




Навукова-папулярнае выданне

**БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР 1999**

Складальнік Уладзімір ЮЗВЮК

Рэдактар *Г. С. Пармон*
Мастак *А. М. Лук'янаў*
*Мастацкі рэдактар А. Г. Дашкевіч*
Тэхнічнае рэдагаванне
і камп'ютэрная вёрстка *І. П. Касцецкай*
Карэктар *Ю. Ц. Петрыкеева*
Аператар *Т. А. Касцяневіч*

Падпісана да друку з арыгінала-макета 02.11.98. Фармат 60х84 1/16. Папера друк.№ 2. Гарнітура «Таймс». Афсетны друк. Ум. друк. арк. 11,16. Ум. фарб.-адб. 11,74. Ул.-выд. арк. 10,89. Тыраж 1000 экз. Зак. 5488.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 11.01.93. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.


